27 снежня 2019 | № 48 (659)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

2020: год, калі ўсё зменіцца

стар. 21

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

**Наступны нумар газеты «Новы Час» выйдзе 10 студзеня 2020 года.**

**Застаcomponentайцеся з намі!**

4–5 РАСІЙСКІ ЎПЛЫЎ І КАНТРОЛЬ У БЕЛАРУСІ

Афіцыйны супрацоўнік расійскай амбасады можа мець дачыненне да арганізацыі каналаў дыпламатычнай кантрабанды

7–18 Літаратурная Беларусь

22–23 ЯК БЕЛАРУС-АНАРХІСТ ЛЕДЗЬ НЕ ЎЗАРВАЎ КРЭМЛЬ

Групоўка анарха-эсэраўскіх баевікоў, адным з лідараў якой быў ураджэнец Беларусі Казімір Кавалевіч, 100 гадоў таму кінула дзёрзкі выклік ВЧК і партыі бальшавікоў

# Разам да ідэальнай Беларусі!

Аксана КОЛБ

**Яшчэ адзін год адлічвае апошнія дні. Яшчэ на адзін год мы станем сталейшымі, а верагодна — і разумнейшымі.**

Магчыма, той вопыт, што даў нам год 2019-ты, дазволіць зразумець: што адбылося і прайшло — не перайначыць і наноў не пражыць. Трэба гэта прыняць і ісці далей. Бо ўсё — і адмоўнае, і пазітыўнае — у Беларусі яшчэ наперадзе. А вось чаго будзе больш, залежыць ад нас.

Новыя чаканні, спадзяванні на новыя сустрэчы, новыя здабыткі, новыя поспехі. Новае шчасце. Новы крок да разумення сябе і свайго месца ў жыцці. Скажам сабе: «Бывала і горш». І пойдзем наперад да ідэальнай Беларусі. А якая яна, гэта ідэальная Беларусь?

У цягніку на Вільню, што вёз нас на пахаванне Каліноўскага, я глядзела на прыгожыя твары сваіх спадарожнікаў і думала: дык вось яна — ідэальная Беларусь. Такая, у якой людзі вольна размаўляюць на роднай мове, пасміхаюцца адзін аднаму, вітаюцца, абмяркоўваюць цікавыя прэм'еры і кніжныя навінкі, разважаюць пра гісторыю і культуру. І маладыя, і людзі сталага веку.

Ідэальная Беларусь — гэта тая, у якой грамадзяне любяць сваю краіну, паважаюць свой урад, ганарацца сваёй гісторыяй і ніколі-ніколі не з'едуць за лепшай доляй на чужыну. Ці далёка нам да той Беларусі? Колькі крокаў яшчэ трэба прайсці, які кошт заплаціць — залежыць толькі ад нас.

Здаўна засведчана на скрыжалях гісторыі: праваднры прыходзяць і сыходзяць, рэжымы парахнеюць і рассыпаюцца пылам. Бо воля людзей да пераменаў, да лепшага канцэнтруецца з часам у магутную энергетычную плынь, якую не спыніць, не стрымаць. І лепшае настане. І паўстане наша ідэальная Беларусь.

Так абавязкова будзе, але толькі тады, калі людзі не згубяць веру ў сябе. Будуць трымацца і супрацьстаяць пагрозам і абставінам, злому лёсу і нядобрым людзям разам, падтрымліваючы адзін аднаго, а не згрызаючы за кожны промах.

Дык давайце ж не марнаваць свой час, не апускаць рукі, не ўпадаць у адчай. Актывізавацца да найвышэйшага ўзроўню сваіх магчымасцей. Не псаваць адзін аднаму нервы. Прытармазіць, як толькі засвярбіць увязацца ў бессэнсоўную сварку з любай, з добрым сябрам, з калегамі і апанентамі. Нішто не вартае страты дружбы, любові, кахання і проста добрых адносін з блізкімі табе людзьмі.

Будзем чуллівымі, каб адгукнуцца на покліч аб дапамозе. Будзем пільнымі, каб своечасова заўважыць пагрозы. Будзем салідарнымі і шчырымі ў сваіх памкненнях. Нарэшце, калі задумацца, толькі салідарнасцю, узаемадапамогай сям'і, родных і блізкіх трымаецца дабрабыт кожнага з нас, а на гэтым — усяго грамадства, народа, краіны. І менавіта так пераадольваюцца цяжкасці нядобрых часоў. Менавіта так мы прыйдзем да ідэальнай Беларусі.

Хай поруч з вамі заўжды будзе свята! З Новым годам вас, шаноўныя чытачы! З Новым часам!



# Абмяняць старыя рублі на новыя — толькі ў Нацбанку

**Нацыянальны банк нагадвае, што 31 снежня 2019 года заканчваецца перыяд, калі рублі ўзору 2000 года можна абмяняць на рублі ўзору 2009 года ў банках і нябанкаўскіх крэдытна-фінансавых арганізацыях.**

З 1 студзеня 2020 года па 31 снежня 2021 года ўключна «старыя» грошы можна будзе абмяняць на «новыя» толькі ў Нацыянальным банку (Мінск, вуліца Талстога, 6)

«Абмен здзяйсняецца без абмежаванняў і спагнання камісійнага ўзнагароджання. З 1 студзеня 2022 г. грашовыя знакі ўзору 2000 года стануць несапраўднымі», — падкрэсліваюць у Нацбанку.

Паведамляецца, што па стане на 1 снежня 2019 года са звароту канфіскавана 98% ад сумы наяўных «старога» ўзору і 60,6% ад колькасці банкнот, якія знаходзіліся на руках беларусаў на момант дэнамінацыі.

Банкноты буйных наміналаў (50 000, 100 000, 200 000 рублёў) выключаныя са звароту практычна цалкам — больш за 99% ад агульнай колькасці, узровень канфіскацыі банкнот сярэдніх наміналаў (5 000, 10 000 і 20 000 рублёў) склаў 75,5%. Таксама выведзена з абарачэння 39,8 працэнта банкнот дробных наміналаў (100, 500 і 1000 рублёў).

Нагадаем, дэнамінацыя беларускага рубля адбылася 1 ліпеня 2016 года ў суадносінах 10 000 да 1 (1 рубель новых грошай за 10 000 старых рублёў).

# Беларусы скардзіліся на дзяржаву 332 разы

**Беларускі дом правоў чалавека апублікаваў статыстыку беларускіх зваротаў у Камітэт па правах чалавека ААН, атрыманую ад Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека.**

Статыстыка зваротаў, скампанаваная супрацоўнікамі УВКПЧ, актуальная на 16 снежня 2019 года. БДПЧ публікуе вытрымку аб колькасці індывідуальных зваротаў па Беларусі.

Агульная колькасць зарэгістраваных зваротаў — 332. Чакаюць разгляду — 152. Камунікацыя спыненая — 14. Прызнаныя непрымальнымі — 18. Парушэнні Пакту пацверджаныя Камітэтам па правах чалавека ААН — у 136 зваротах. Не пацверджаныя парушэнні — у 2 зваротах.

Камітэт па правах чалавека ААН — орган незалежных экспертаў, якія назіраюць за выкананнем дзяржавамі-ўдзельніцамі Міжнароднага пакта аб палітычных і грамадзянскіх правах. Акрамя разгляду дакладаў ад дзяржаваў, Камітэт можа разглядаць індывідуальныя скаргі на меркаваныя парушэнні Пакта дзяржавамі-ўдзельніцамі першага Факультатыўнага пратаколу да Пакта.

**spring96.org**

# Інтэграцыя беднага з бедным не прыносіць шчасця

Барыс ЖАЛІБА

**Сярэдні заробак бюджэтнікаў у 2020 годзе перавысіць 920 рублёў. У першую чаргу паскоранымі тэмпамі будуць падымаць заробкі медыкаў, настаўнікаў і нізкааплатных работнікаў. Так заявіў міністр фінансаў.**

Бюджэтнікаў у Беларусі каля 1 мільёна чалавек, або каля 23% занятых у краіне. Паводле апошніх дадзеных, у нас налічвалася 37159 дзяржслужачых. А колькі бюджэтнікаў-сілавікоў — гэта звычайна не афішуецца.

Выдаткі на заробкі працаўнікам бюджэтнага сектара размеркаваліся па бюджэтнай сістэме за дзевяць месяцаў бягучага года наступным чынам: 2,956 мільярда рублёў прыйшлося на рэспубліканскі бюджэт, 5,793 мільярда — на мясцовыя бюджэты.

За 9 месяцаў выплачаныя заробкі сілавікам і дзяржчыноўнікам амаль на 3 мільярды рублёў і на 2,7 мільярда за 10 месяцаў зарплаты тым самым настаўнікам, медыкам і іншым. Каго ў нас з бюджэтнікаў больш — пытанне рытарычнае. З гэтых лічбаў добра відаць, як у Беларусі расстаўленыя зарплатныя прыярытэты розных бюджэтнікаў.

Вось і ў бюджэце наступнага года выдаткі на праваахоўную дзейнасць, судовую сістэму і забеспячэнне бяспекі больш чым у два разы перавышаюць выдаткі на ахову здароўя і адукацыю разам узятыя.

Кастрычніцкая сярэдняя па Беларусі заработная плата склала 1123 рублі, ці 548 адзінак у доларавым эквіваленце. Гэта больш, чым у Казахстане (495 долараў) і Украіне (395), але менш, чым у Расіі (705 долараў).

Паводле расійскіх дадзеных, у 2019 годзе сярэдні заробак у краіне склаў 44 тысячы расійскіх рублёў. У доларавым эквіваленце гэта ніжэй, чым у Кітаі, Бразіліі, Турцыі. Увогуле, лідар СНД па гэтым паказчыку — на 77-м месцы ў свеце. Але бліжэй да рэальнасці медыянны заробак, калі ў адной паловы занятых зарплата ніжэй сярэдняй рысы, а ў іншай — вышэй. Дык вось, сярэдні медыянны заробак у Расіі — 34,3 тысяч рублёў, а гэта каля 540 долараў.

Расійскі статыстычны сярэдні заробак уверх моцна падцягваюць алігархі, таму ён на 30% вышэй медыяннага.

У Беларусі няма такой жудаснай дыферэнцыяцыі ў даходах, як у Расіі. Таму наш медыянны заробак на 20% ніжэйшы за сярэдні. Інакш кажучы, ад 1123 рублёў ён складзе недзе 900 рублёў, або каля 440 долараў. Калі ў Беларусі 2/3 занятых не атрымліваюць сярэдні заробак, то ў Расіі — 3/4 занятых!

Сярэдняя пенсія ў Расіі — каля 14,5 тысячы расійскіх рублёў, ці прыкладна 230 долараў, у Беларусі — каля 220 долараў. Розніцы ў аплаце працы і пенсіях паміж Беларуссю і Расіяй сёння няма амаль ніякай. Асноўная маса насельніцтва ў абедзвюх краінах жыве бедна.

Паводле афіцыйных дадзеных Расстата, у Расіі 13,5% насельніцтва, якое адносяць да катэгорыі бедных (у Беларусі іх разы ў два менш). Гэта пад 20 мільёнаў чалавек. На справе гэта не бедныя, гэта афіцыйныя жабракі. Рэальная колькасць бедных — тых, каму ледзь хапае на ежу і простыя патрэбы, — гэта 25–30% насельніцтва, да 45 мільёнаў чалавек.

Дзве самыя шматлікія групы сярод расійскіх беднякоў — пенсіянеры (22%) і шматдзетныя сем'і (15%). Таксама і ў Беларусі. У 10% самых бедных хатніх гаспадарак з узроўнем даходаў на чалавека ніжэй за бюджэт пражытачнага мінімуму (231,4 рубля), сярэднія рэсурсы на члена сям'і — толькі 195,6 рубля ў месяц.

Да чаго гэтыя кантрасныя карціны? Некаторыя наіўныя людзі (а такіх у нас нямала), думаюць, што калі беларусы з набыццём расійскага рубля і падданства здабудуць і больш высокія расійскія зарплаты (якія там не павышаюцца ўжо 6 гадоў запар) і пенсіі, то гэта не так.

Інтэграцыя, тым больш аб'яднанне, беднай дзяржавы з беднай, яшчэ нікому не прыносіла шчасця. Лепшае і справядлівае жыццё трэба будаваць у сваім доме.

**Друкуецца са скарачэннямі паводле gazetaby.com.**
**Пераклад НЧ**

# У 2020 годзе магчымая дэвальвацыя рубля

**Адно з галоўных змяненняў 2020 года: тарыфную стаўку першага разраду, паводле якой цяпер разлічваюць заробкі работнікам бюджэтных арганізацый, заменяць на базавую стаўку.**

Беларускія ўлады заявілі, што пры ўвядзенні новай сістэмы аплаты працы нібыта не адбудзецца зніжэння памераў заробкаў. Але адразу ж дапусцілі агаворку: падзення заробкаў «не павінна быць без уліку прэмій».

Што на самай справе адбудзецца з заробкамі беларускіх лекараў і настаўнікаў пасля Новага года? На пытанні Charter97.org адказвае эканаміст Леў Марголін.

***— Бюджэтнікі, у якіх значная частка зарплаты цяпер прыходзіцца на прэміі, асцерагаюцца, што з новага года могуць страціць у грошах. Наколькі абгрунтаваныя іх асцярогі?***

— У нейкай ступені, безумоўна, абгрунтаваныя. Справа ў тым, што яшчэ з канца 1990-х гадоў сістэма заработнай платы бюджэтнікаў мае дастаткова дзіўны характар. Калі, згодна з логікай, аклад або тарыфная стаўка павінна складаць ільвіную долю заработнай платы, то ў нас для многіх катэгорый, у тым ліку настаўнікаў і лекараў, аклад вельмі маленькі, а сярэднюю зарплату даганяюць прэміямі, надбаўкамі, рознымі даплатамі і гэтак далей.

Але ўся прыгажосць гэтых рэчаў у тым, што яны, па сутнасці, не маюць абавязковай сілы. І таму цяпер гаворка ідзе пра тое, каб павысіць базавую стаўку і зрабіць зарплату, аклад, тарыфную стаўку больш прыкметнай часткай агульнага заробку. Гэта значыць, каб работнікам не дамагацца нейкіх там даплат ды прэмій.

Часам гэта адбываецца, скажам так, не зусім законным шляхам — праз асабістыя стасункі з кіраўніцтвам. І наадварот, кіраўніцтва можа такім чынам караць няўгодных работнікаў.

На сёння я не магу сказаць, што будзе нейкае рэзкае падзенне намінальных налічаных заробкаў, таму што аб'ём фінансавання ў бюджэце не скараціў. Бо бюджэтнікі — гэта людзі, якія атрымліваюць заробкі з дзяржбюджэту. І калі меркаваныя сродкі, якія ў бюджэце вылучаюцца на зарплату бюджэтнікам, рэзка не памяншаюцца, дык падставаў лічыць, што рэзка скароціцца іх сярэдняя зарплата, па вялікім рахунку, няма.

Іншая справа — і вось пра гэта якраз усім трэба сур'ёзна падумаць, — што заробкі ж рублёвыя. І калі раптам рэзка абрынецца беларускі рубель, то ўсе гэтыя намаганні па захаванні заробкаў бюджэтнікаў могуць апынуцца пустышкай. А гэта цалкам рэальна, асабліва ў другой палове года.

***— Дарэчы, эксперты сцвярджаюць, што да канца гэтага года ў Беларусі банкі назапасілі каля 3,5 мільярда рублёў «незапатрабаваных эканомікай» грошай, якія няма куды ўкладаць. Ці можна казаць пра тое, што ў краіне сфарміраваліся ўмовы для дэвальвацыі рубля ў 2020 годзе?***

— Я думаю, што падставы чакаць дэвальвацыі беларускага рубля ў 2020 годзе даволі сур'ёзныя.

Пачнём з таго, што ў бюджэце закладзены сярэднегадавы курс рубля, які значна вышэйшы, чым ён ёсць цяпер: 2,24 да долара. Але калі сярэднегадавы курс закладзены ў 2,24 рубля, і пры гэтым у пачатку года ён складае 2,1 — то цалкам можна чакаць, што да канца года ён можа быць і 2,54 і 2,6 — у залежнасці ад таго, калі курс рубля пачне падаць. Гэта першае.

Другі момант: на працягу некалькіх апошніх гадоў рост заработнай платы значна апярэджвае рост прадукцыйнасці працы. А гэта таксама стварае такі інфляцыйны навес, які можа выявіцца ў дэвальвацыі.

Па-трэцяе: расце нагрузка на бюджэт у плане абслугоўвання знешніх і ўнутраных валютных пазыкаў, якія для абслугоўвання ў 2020 годзе запатрабуюць да 4 мільярдаў долараў. У нас, на жаль, статыстыка, у гэтых адносінах, напаўзакрытая, таму дакладна сказаць, ці сапраўды гэтыя задачы забяспечаныя крыніцамі фінансавання, складана.

Вядома, да прэзідэнцкіх выбараў, калі яны адбудуцца 30 жніўня, як мяркуе Ярмошына, улады паспрабуюць сітуацыю ўтрымаць. Але ўтрымліваць яе на працягу ўсяго года, я думаю, не атрымаецца. Больш за тое, можа здарыцца і такое, што калі будзе бачна, што сітуацыя зусім ужо трашчыць па швах, то і прэзідэнцкія выбары могуць перанесці на больш ранні тэрмін. Скажам, не на 30 жніўня, а на 30 траўня, тым самым скараціўшы перыяд, на працягу якога трэба, як той казаў, «дзень прастаяць і ноч пратрымацца».

Таму ў другой палове 2020 года я вясёлкавых гарызонтаў для ўладаў не бачу. І ў сувязі з гэтым можа атрымаецца так, што ў першым паўгоддзі бюджэтнікам зарплату ўтрымаюць, каб падысці ў больш радасным настроі да прэзідэнцкіх выбараў, а пасля выбараў абрынецца беларускі рубель — і зарплаты адкацяць услед за ім.

**Паводле Charter97.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Далей — з надзеяй

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Год, які цяпер мінае, быў яшчэ не вельмі складаны. Складанасці ў нас будуць наперадзе. І відавочна, што гэтыя складанасці створаныя неабачлівай палітыкай, якая праводзілася раней. У наступным галоўнае — памылак не паўтараць.**

Пачынаўся 2019-ты так званым «ультыматумам Мядзведзева» па паглыбленай інтэграцыі. Заканчваецца ён тым жа самым. Паводле расійскага прэм'ера, далейшая фінансавая і эканамічная дапамога Беларусі магчымая толькі тады, калі будуць створаныя наднацыянальныя органы Саюзнай дзяржавы, агульная валюта і агульны эмісійны цэнтр. «Усе формы дадатковай падтрымкі, дадатковыя формы крэдытавання магчымыя толькі ў выпадку, калі дарожныя карты будуць выкананы і ўвасобяцца ў законы», — прывяло днямі словы Мядзведзева сеткавае выданне «Гаворыць Масква».

Падаецца, што Мядзведзеў займеў «галавакружэнне ад поспехаў». Занадта лёгка яму ўдалося прасунуць ідэю сваёй «паглыбленай інтэграцыі», і таму ён вырашыў наўпрост шантажаваць беларускае кіраўніцтва, каб давесці інтэграцыю да інкарпарацыі. У будучым мы пабачым, наколькі ўсё ж «ненахіляемы» Аляксандр Рыгоравіч, і наколькі шчырыя яго словы пра абарону суверэнітэту Беларусі «да апошняга».

Другая падзея, якая даволі сур'ёзна адаб'ецца на знешняй палітыцы Беларусі — гэта праведзеныя «выбары» ў Палату прадстаўнікоў сёмага склікання. Як вядома, яны былі нелегітымныя ад самага пачатку: кіраўнік краіны можа распусціць парламент і прызначыць датэрміновыя выбары выключна ў двух выпадках: у выпадку непрызначэння прэм'ера двойчы, ці калі парламент груба парушыў Канстытуцыі. Ані першага, ані другога «палатачнікі» не рабілі — і ўсё роўна іх тэрмін паўнамоцтваў быў скарочаны амаль на год.

Зразумела, што выбары прайшлі па старой беларускай завядзёнцы — то-бок, з масавым прымусам і фальсіфікацыямі. І ўсё гэта, а таксама нежаданне змяняць выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку, заўважылі міжнародныя назіральнікі. Еўрапейскія наглядныя структуры выдалі вельмі жорсткую папярэднюю рэзалюцыю. Канчатковы даклад яшчэ будзе абмяркоўвацца ў Савеце Еўропы.

Чым гэта нам пагражае — невядома. Але, падаецца, нездарма ЕС «прытармазіў» падпісанне пагаднення па памякчэнні візавага рэжыму з Беларуссю. 2 лютага 2020 года пачне дзейнічаць новы візавы кодэкс ЕС, які прадугледжвае павышэнне кошту віз да 80 еўра. Да гэтага часу дамова аб візавым спрашчэнні не паспее набыць моц, і нейкі перыяд беларусам давядзецца плаціць за візу не 60, а 80 еўра.

Насамрэч, тую Палату прадстаўнікоў варта было разагнаць. Па-першае, яны не здолелі абараніць нават самі сябе. А па-другое, прынялі ці не самы антынародны ў гэтым годзе закон — так званы «закон Раўкова», які дэ-факта адмяніў адтэрміноўкі вайсковай службы для студэнтаў і тых, хто паступае ў ВНУ.

Мінабароны сцвярджае, што такім чынам пакрываецца «недабор у войска», які цяпер, з-за дэмаграфічнай ямы 2000-х гадоў, складае 38%. Але насамрэч, гэты дакумент толькі сведчыць пра ўзровень кампетэнтнасці нашага абароннага ведамства: бо яшчэ Сувораў заклікаў перамагаць «не колькасцю, а ўменнем». Нашы ж ваякі паклапаціліся менавіта пра колькасць.

Безумоўны адбітак на грамадства наклала трагедыя ў Стоўбцах у лютым, калі падлетак прыйшоў з нажом у школу ды парэзаў настаўніцу і вучня, і яшчэ дваіх параніў. Гэта быў вырак усёй сістэме выхавання

> **Па тым, як актыўна беларусы абмяркоўвалі тыя выбары і перамогу Зяленскага, стала відавочным: ім абрыдла нязменнасць улады. Ім вельмі хочацца пабачыць у тэлевізары нейкі новы твар, чым чвэрць стагоддзя — аднаго і таго ж чалавека**

і адукацыі ў Беларусі. Канешне, навучэнец дзясятага класа Вадзім, які здзейсніў гэта, атрымаў максімальна магчымую ў яго гадах меру пакарання — 13 гадоў калоніі. Але пытанні ўсё роўна засталіся. Як, пры такой колькасці органаў, што кантралююць паводзіны дзяцей, тое магло здарыцца? Куды глядзелі ўсялякія «камісіі па справах непаўнагадовых», іншыя органы, што з-за дробязяў адбіраюць дзяцей, урэшце, БРСМ, які ёсць ці не ў кожнай школе? І чаму, па словах кіраўніка дзяржавы, «вінаватыя мы ўсе»?

Падаецца, з прысудам падлетку дзяржава паспрабавала «перагарнуць старонку», як гэта было і ў справе па Нямізе ў 1999-м, і па выбуху ў мінскім метро ў 2011-м. Але пытанні, як і ў тых справах, так і ў гэтай, — засталіся. А міністр адукацыі нават не пакінуў сваёй пасады!

Не паспелі беларусы асэнсаваць гэта, як на парадзе 3 ліпеня ў выніку выбуху няякаснага феерверку загінула жанчына. Між іншым, Міністэрству абароны тысячу разоў казалі — пераносьце парад з цэнтра горада! Парад — гэта не толькі нязручна, не толькі псуе інфраструктуру, гэта яшчэ і небяспечна! Аднак кіраўніцтва Мінабароны працягвае трымацца замшэлых савецкіх традыцыяў, нягледзячы на тое, што маглі б і горад разгрузіць на свята, і відовішчнае шоу зладзіць. Дзеля іх жа пабудавалі фэйкавую «лінію Сталіна»!

І, канешне, ж, на нас моцна паўплывалі падзеі, якія адбываліся ў нашых суседзяў. Найперш, у віруючай паўднёвай — Украіне. Напачатку года там атрымалі Томас, што адвязала Украіну ад Маскоўскага патрыярхату. Зараз на Украіне — свая царква са сваім цэнтрам у Кіеве. А потым на прэзідэнцкіх выбарах фенаменальна перамог комік Уладзімір Зяленскі.

Па тым, як актыўна беларусы абмяркоўвалі тыя выбары і перамогу Зяленскага, стала відавочным: ім абрыдла нязменнасць улады. Ім вельмі хочацца пабачыць у тэлевізары нейкі новы твар, чым чвэрць стагоддзя — аднаго і таго ж чалавека. Але пакуль жаданне грамадства не ўвасобілася ў дзеянні, каб дасягнуць пажаданага. Магчыма — толькі «пакуль».

Другое: фраза «вы хочаце, каб было так, як ва Украіне?» набыла адваротны сэнс. Шок ад Рэвалюцыі годнасці, Крыму і Данбасу ў беларусаў прайшоў. І ўжо няма нічога кепскага ў тым, каб «хацець так, як ва Украіне».

І, канешне ж, Літва, пахаванне парэшткаў Кастуся Каліноўскага. Нягледзячы на тое, што ўрачыстасці адбываліся ў суседняй дзяржаве, яны ператварыліся ў дэманстрацыю беларускага духу. Для Літвы гэтая ўрачыстасць была дзяржаўная, для Беларусі — сапраўды народная. Беларусы арганізавалі відовішчнае шэсце ў цэнтры літоўскай сталіцы, надаўшы падзеі велічэзнае значэнне: як доказ таго, што «героі — не ўміраюць».

Што ж адбудзецца ў 2020-м? Працяг інтэграцыі, прэзідэнцкія выбары, анансаваны пачатак новага сусветнага эканамічнага крызісу... Насамрэч, якім будзе наступны год — залежыць толькі ад нас.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Павел Севярынец

**Падобна на тое, што ў дачыненні да палітыка ўлады арганізавалі персанальны «судовы канвеер».**

7, 8, 20 і 21 снежня ў Мінску прайшлі акцыі супраць «паглыблення інтэграцыі» з Расіяй, адным з арганізатараў якіх быў Павел Севярынец. Агулам у акцыях бралі ўдзел да 3 тысяч чалавек. 18 снежня, за два дні чарговага мітынгу ў абарону незалежнасці на Кастрычніцкай плошчы Мінску, Павел Севярынец быў затрыманы і асуджаны на 15 сутак Савецкім раённым судом, але адпушчаны без тлумачэнняў. Варта зазначыць, што асудзілі яго за ўдзел у акцыі 7 снежня.

26 снежня Севярынца затрымаў АМАП каля пад'езда дома і павёз у РАУС. У Фрунзенскім раённым судзе яму прысудзілі 1275 рублёў штрафу. Пасля суду яго арыштавалі на 15 сутак і павезлі на Акрэсціна.

«Наперадзе, думаю, яшчэ суды, і калі на кожным дадуць па 15 сутак, дык будзе агулам амаль два месяцы. Абсурд! Гэтак хочуць паквітацца за барацьбу за незалежнасць, да якой мы заклікаем уладу», — пракаментаваў Севярынец.

Між тым, Севярынец ужо заклікаў да правядзення яшчэ адной акцыі ў абарону незалежнасці — 29 снежня ў цэнтры Мінска. У гэты дзень Лукашэнка і Пуцін павінны сустрэцца зноў і, меркавана, падпісаць дарожныя карты па інтэграцыі Расіі і Беларусі.



## Уладзімір Някляеў

**Незалежнасць Беларусі даводзіцца бараніць на ўсіх узроўнях. Паэт і былы кандыдат у прэзідэнты Беларусі Уладзімір Някляеў звярнуўся з адкрытым лістом да расійскага пісьменніка Дзмітрыя Быкава.**

Уэфіры радыёстанцыі «Эхо Москвы» 20 снежня Быкаў ацаніў сітуацыю ў Беларусі фразай «25 гадоў фактычная рабства дарма не прайшлі». «Я бачыў у Беларусі ў апошнія 25 гадоў жахлівую дэградацыю на ўсіх узроўнях. І вялікай літаратуры за апошні час я там не бачыў, хоць аддалена параўнальнай з Караткевічам і нават з Алексіевіч. Я не бачыў за апошні час там сур'ёзнай драматургіі, кінематографу. Не бачыў я там нічога, што магло б неяк справакаваць культурны выбух. А раз гэтага няма, то няма і апазіцыі».

У прынцыпе, Някляеву варта было б сказаць, што ў Расіі за апошнія 50 гадоў не было пісьменнікаў узроўню Талстога альбо Дастаеўскага, і вялікай літаратуры там няма. Але паэт тактоўна прамаўчаў. Толькі зазначыў: «Маючы дачыненне да "апазіцыйных інтэлігентаў", запэўніваю, што нікольki не спалохані, і гатовы "згуртавацца ў супраціве рускаму міру" вакол каго заўгодна, толькі не "вакол Лукашэнкі". Як і вы, спадзяюся, не гатовыя згуртавацца ў барацьбе за рускі мір вакол Пуціна».

Паводле Някляева, са словаў Быкава можна зрабіць выснову, што Беларусь не мае шанцаў пайсці па еўрапейскім шляху, але насамрэч «шанцы стаць еўрапейскай краінай у Беларусі ёсць! І шанцы гэтыя значна вышэй, чым у Расіі, у якой яны пакуль сапраўды не праглядаюцца».

Някляеў таксама адказвае на словы Быкава пра культурны заняпад у Беларусі: «Магу нагадаць пра тое, што еўрапейская культура рухалася не з усходу на захад, а наадварот, і што культуры, перш за ўсё літаратуры, пісьменству вучыў Маскву полацкі манах».



## Арына Сабаленка

**Знакамітая тэнісістка атрымала спецыяльны прыз TUT.BY як лепшая беларуская тэнісістка ў рэйтынгу і тэнісістка, якая абыграла ўсіх беларускіх гульцоў у топ-100 у адыходзячым годзе.**

Нагадаем, што ў 2019 годзе Сабаленка заваявала тры тытулы ў адзіночным разрадзе — у Шэньчжэне, Ухані і на малым выніковым турніры, і тры парныя тытулы — у Індыян-Уэлсе, Маямі і на US Open. Зараз Арына размясцілася на 11-м радку рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі, а мэтай на будучы сезон бачыць захоп лідарства ў рэйтынгу.

Акрамя таго, у 2019-м Арына дапамагла зборнай прабіцца ў паўфінал Кубка Федэрацыі, а таксама атрымала перамогі над напарніцамі па зборнай Вікторыяй Азаранка і Аляксандрай Сасновіч.

# Расійскі ўплыў і кантроль у

Дзяніс ІВАШЫН

**Ад моманту свайго заснавання Амбасада Расіі ў Беларусі валодае значным патэнцыялам для здзяйснення знешняй выведкі спецслужбамі РФ і ёсць адным з асноўных рэалізатараў расійскай стратэгіі «мяккай сілы» ў нашай краіне.**

У першай частцы (НЧ №41) мы падалі аналітычныя звесткі пра некаторых прадстаўнікоў блоку расійскага дыппрадстаўніцтва ў Беларусі і паспрабавалі раскрыць асноўныя мэты і задачы знаходжання ў нашай краіне амбасадара РФ Дзмітрыя Мезенцава. У другой частцы (НЧ №44) апублікавалі інфармацыю пра іншых прадстаўнікоў сілавых ведамстваў, выяўленых чальцоў расійскага казацтва і раскрытых выканаўцаў агентурнай дзейнасці. Зараз мы паспрабуем акрэсліць рэалізатараў гуманітарна-культурніцкай экспансіі Расіі ў Беларусі ды распавесці пра афіцыйнага супрацоўніка расійскай амбасады, які можа мець наўпроставае дачыненне да арганізацыі каналаў дыпламатычнай кантрабанды.

Падчас правядзення расследавання ўвагу прыцягнуў супрацоўнік амбасады Расіі ў Беларусі, які не толькі ўдзельнічае ў транспамежных інтэграцыйных беларуска-расійскіх ініцыятывах на рэгіянальным узроўні, але і спрабуе праводзіць агрэсіўныя інфармацыйныя кампаніі ў дачыненні да трэціх краінаў.

Гэта першы сакратар Амбасады РФ у Беларусі Аляксей Сяргеевіч Маскалёў. З другой паловы 2017 года ён выконвае функцыі прэс-сакратара расійскага дыппрадстаўніцтва ў Беларусі, умоўна з'яўляецца прадстаўніком каманды Сурыкава. Цікава, што Маскалёў разам з меркаванымі супрацоўнікамі Галоўнага ўпраўлення Генштаба УС РФ (колішняе ГРУ) Канстанцінам Гусевым, Уладзімірам Марэсевым і іншымі прадстаўнікамі расійскай амбасады былі наглядальнікамі падчас электаральнай кампаніі ў мясцовыя Саветы дэпутатаў Беларусі 28 склікання.

Вызначана, што Аляксей Маскалёў непасрэдна ўзаемадзейнічае са смаленскай асацыяцыяй «Агентство интеграционных инициатив». У красавіку 2018 года Маскалёў асабіста наведваў расійска-беларускае мерапрыемства ў межах рэалізацыі праекта «Днепро-Двинские ворота» ў Смаленску, скіраванага на транспамежную рэгіянальную супрацу паміж Расіяй і Беларуссю. Вядома, што аб'ектам гэтага праекта, як і сёлетняга «Днепро-Двинский регион — регион возможностей», выступае перадусім моладзь Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай абласцей, якую актыўна ангажуюць у расійска-беларускі «інтэграцыйны» працэс на рэгіянальным узроўні. Пры гэтым Кіраванне справамі прэзідэнта РФ надае непасрэдную грантавую падтрымку для рэалізацыі гэтых праектаў.


Аляксей Маскалёў. Фота dompressy.by

Характэрна, што Аляксей Маскалёў, як і колішні расійскі амбасадар Міхаіл Бабіч, спрабуе выкарыстоўваць тэрыторыю Беларусі для правядзення антыўкраінскай інфармацыйнай кампаніі. Яшчэ ў кастрычніку 2017 года ў інтэрв'ю інфармацыйнаму рэсурсу «Спутник» ён заявіў, што адмова ўкраінскай улады ад кампрамісу па замацаванні ў Канстытуцыі Украіны «асаблівага статусу для асобных рэгіёнаў Данецкай і Луганскай абласцей» і «амністыі ў адносінах да ўдзельнікаў падзей» пагражае эскалацыяй сітуацыі і рэгрэсам у працэсе ўрэгулявання.

Відавочна, што ўкраінская тэма не ўваходзіць у сферу кампетэнцыяў першага сакратара Амбасады РФ у Беларусі. На падобныя заявы МЗС Беларусі павінен належным чынам рэагаваць, кожнага разу даводзячы прадстаўнікам расійскага дыппрадстаўніцтва, што наша краіна не з'яўляецца генерал-губернатарствам РФ, на тэрыторыі якога можна праводзіць інфармацыйныя спецаперацыі і абвяшчаць ультыматумы ў дачыненні да трэціх краін.

Адной з самых загадкавых і таямнічых асобаў са складу Амбасады РФ у Беларусі з'яўляецца першы сакратар Сяргей Віктаравіч Сядых. Менавіта гэты


**Першы сакратар Амбасады РФ у Беларусі Сяргей Сядых.** Скрыншот відэа тэлеканалу «Беларусь 1»

афіцыйны прадстаўнік знешнепалітычнага ведамства РФ у Беларусі можа мець дачыненне да ўдзелу ў транснацыянальнай кантрабандзе з выкарыстаннем дыпламатычных каналаў.

Як і Аляксей Маскалёў, Сяргей Сядых пачаў працаваць у Беларусі з першай паловы 2017 года. Уваходзіць у склад эканамічнай групы, а таксама адказвае за супрацу з рэгіёнамі.

Сваю кар'еру ў структуры МЗС РФ Сяргей Сядых пачаў у верасні 2004 года. З кастрычніка 2005 года працаваў аташэ і трэцім сакратарам эканамічнай групы аддзела ўнутранай палітыкі і двухбаковых адносінаў Амбасады РФ у Федэратыўнай Рэспубліцы Германія. Навучаўся ў Фінансавым універсітэце пры Урадзе Расіі. Прысвяціў некалькі навуковых прац даследаванню энергетычнай стратэгіі Германіі. Пасля працяглай дыпламатычнай службы ў ФРН Сяргей Сядых быў пераведзены на пасаду трэцяга сакратара ў Дэпартамент па сувязях з суб'ектамі Федэрацыі, парламентам і грамадскімі аб'яднаннямі МЗС РФ.

Імя Сяргея Сядых фігуруе ў гучнай крымінальнай справе, распачатай паводле выяўленых фактаў дыпламатычнай кантрабанды. Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы і судовага прысуду, супрацоўнікі памежнай службы ФСБ і аператыўна-вышуковага аддзелу ФМС РФ 24 сакавіка 2012 года, пасля праходжання мытнага кантролю на пункце пропуску «Бурачкі» Себежскай мытні ў Пскоўскай вобласці (за 20 кіламетраў ад мяжы з Беларуссю), затрымалі два грузапасажырскія мікрааўтобусы з нямецкімі нумарамі. Дзверы грузавых адсекаў гэтых аўтамашынаў былі апячатаныя біркамі з пазначэннем «груз дыпламата».

Цікава, што кіроўцы мелі даверанасць на права перавозкі асабістых рэчаў, выдадзеную непасрэдна супрацоўнікам МЗС Сяргеем Сядых, а таксама даведку консульскага аддзела Амбасады РФ у Германіі пра знаходжанне Сядых у працяглай камандзіроўцы. На руках у кіроўцаў была і копія яго дыпламатычнага пашпарту. У дэкларацыі, падпісанай Сядых, было пазначана, што транспартныя сродкі перавозяць асабістыя і побытавыя рэчы дыпламата. Паводле слоў начальніка Себежскай мытні Алега Прыбора, пасля затрымання мікрааўтобусаў яму патэлефанаваў супрацоўнік дэпартаменту бяспекі МЗС РФ і запатрабаваў, каб аўто неадкладна прапусцілі.

Калі машыны ўжо накіроўваліся на выезд з мытні, іх і затрымалі супрацоўнікі ФСБ. Транспартныя сродкі былі адпраўленыя ў адмысловыя боксы паглыбленага дагляду. Унутры аўтамашынаў былі выяўленыя прыблізна сто пасылак для розных атрымальнікаў з агульнай вагой амаль 3,5 тоны. У іх былі ноўтбукі, абутак, адзенне, электратэхніка, медычныя прэпараты, аўтазапчасткі і іншыя тавары, якія належалі да камерцыйных таварных партыяў з агульным коштам больш за 10,5 мільёна расійскіх рублёў (амаль 360 тысяч долараў ЗША паводле тагачаснага курсу ЦБ РФ). Характэрна, што асабістыя рэчы Сяргея Сядых выяўленыя не былі. Адзін з грузаў выклікаў найбольшую цікавасць — амаль 216 кілаграмаў срэбра ў выглядзе загатовак для ювелірнай кампаніі.

Паводле слоў кіроўцаў, яны з'яўляліся супрацоўнікамі нямецкай кампаніі-перавозчыка Irgotrade GmbH і рэгулярна перавозілі рэчы дыпламатаў у Расію, у тым ліку з Германіі. У большасці выпадкаў шлях


**Дырэктарка кампаніі Irgotrade GmbH Ірына Кузьменка (фота 2007 года)**

дастаўкі грузаў пралягаў праз тэрыторыю Латвіі. Апячатаныя аўтамашыны з дыпламатычным грузам, затрыманым потым супрацоўнікамі ФСБ, кіроўцам перадалі непасрэдна ля Амбасады РФ у Германіі. Згодна з іх сведчаннямі, пракантраляваць ад'езд машын да іх персанальна выходзіла дырэктарка кампаніі Irgotrade GmbH Ірына Кузьменка і некалькі супрацоўнікаў Амбасады Расіі, у тым ліку і Сяргей Сядых.

Сярод супрацоўнікаў амбасады быў таксама адмысловец па бяспецы, які інструктаваў кіроўцаў пра маршрут руху і неабходныя захады бяспекі. Характэрна, што кампанія Irgotrade GmbH фігуравала ў справах па спробах правезці кантрабанду ўжо неаднойчы. Аналагічны выпадак з выяўленнем кантрабанднага грузу, які праходзіў па дакументах як дыпламатычны, адбыўся ў 2011 годзе.

Цікава, што Ірына Кузьменка (у дзявоцтве Кавальчук) з'яўляецца роднай сястрой Андрэя Кавальчука — галоўнага фігуранта справы пра спробу кантрабанды 389 кілаграмаў какаіну з Аргенціны ў Расію. Гэтая буйная партыя наркотыкаў была выяўленая ў снежні 2016 года ў будынку школы пры Амбасадзе РФ у Буэнас-Айрэсе. Какаін, які меў высокую якасць і, меркавана, паходзіў з Калумбіі, быў расфасаваны ў 360 пакетаў, якія, у сваю чаргу, знаходзіліся ў 12 куфарах, аформленых менавіта як дыпламатычны багаж.

У выніку праведзенай спецаперацыі аргенцінскімі спецслужбамі, уся партыя какаіну была замененая на муляж. Паводле дадзеных следства, куфары з какаінам павінны былі вылецець са сталіцы Уругвая Мантэвідэа ў Маскву яшчэ ў 2016 годзе вайсковым бортам, разам з рэчамі расійскага амбасадара Віктара Каранэлі. Аднак, паводле дадзеных аргенцінскай паліцыі, усю партыю какаіну забраў і даставіў у Расію самалёт Іл-96-300 спецыяльнага лётнага атраду «Расія», які перавозіць вышэйшых асобаў дзяржавы, сярод якіх, напрыклад, сакратар Рады бяспекі РФ Мікалай Патрушаў і міністр МЗС РФ Сяргей Лаўроў.

Гэтым бортам падчас візіту ў ЗША ў студзені 2018 года, меркавана, карысталіся і дырэктар Службы знешняй выведкі Сяргей Нарышкін, кіраўнік Галоўнага ўпраўлення Генштабу УС РФ Ігар Корабаў і дырэктар ФСБ Аляксандр Бортнікаў. Цікава, што напрыканцы лістапада 2017 года Патрушаў менавіта на гэтым самалёце прылятаў з Масквы ў Мінск для ўдзелу ў пасяджэнні АДКБ. На той час першы сакратар Сяргей Сядых ужо практычна паўгода працаваў у Мінску.

Зазначым, што групоўка Кавальчука перадавала грузы з Аргенціны ў Расію пачынаючы з 2012 года, калі ўжо поўным ходам працаваў берлінска-маскоўскі кантрабандны экспрэс, арганізаваны кампаніяй яго сястры. Было здзейснена некалькі рэйсаў, пры гэтым адзін раз быў задзейнічаны нават самалёт вайскова-транспартнай авіяцыі. У снежні 2017 года 12 куфараў «дыпламатычнага багажу» былі дастаўленыя з Аргенціны зазначаным спецбортам RA-96023 у Маскву і перавезеныя на аўтабазу МЗС РФ, дзе падчас спробы іх атрымання былі арыштаваныя колішні супрацоўнік расійскай Амбасады РФ у Аргенціне Алі Абянаў, колішні супрацоўнік ЦК ВЛКСМ Уладзімір Калмыкоў і бізнесмен Іштымір Худжамаў. Таксама былі арыштаваныя фігуранты справы ў Аргенціне. Меркаваны арганізатар злачыннай групоўкі Андрэй Кавальчук быў затрыманы паводле запыту РФ у Германіі 1 сакавіка 2018 года і змешчаны ў берлінскую ўстанову папярэдняга зняволення Moabit. Цікава, што ў матэрыялах справы пра дыпламатычную кантрабанду з Берліна ў Маскву, у якой фігуруе імя Сяргея Сядых, адным з кіроўцаў мікрааўтобусаў быў Р.Ю. Калмыкоў — цёзка або, цалкам мажліва, сваяк аднаго з фігурантаў какаінавай справы.

Характэрна, што, паводле словаў адваката Кавальчука, прадстаўнікі заходніх спецслужбаў тройчы наведвалі яго


**Супрацоўнікі аргенцінскіх спецслужбаў поруч з выяўленай буйной партыяй какаіну.** Фота twitter.com/gendarmeria

# Беларусі: рэзідэнтура. Частка III

падабароннага падчас арышту ў Германіі і нібыта прапаноўвалі наданне яму палітычнага прытулку ў абмен на раскрыццё інфармацыі пра ролю расійскіх дыппрадстаўніцтваў у арганізацыі наркатрафіку. Кавальчук адмовіўся, і на патрабаванне расійскага боку ў ліпені 2018



**Андрэй Кавальчук.** Фота: Станіслаў Красільнікаў, ТАСС

года быў экстрадаваны ў Расійскую Федэрацыю, пасля чаго змешчаны ў СІЗА «Матросская тишина».

Падчас судовага працэсу было высветлена, што Андрэй Кавальчук меў тры розныя расійскія пашпарты, досыць працяглы час жыў у Германіі, пэўны час працаваў у штаце тэхнічнага персаналу Амбасады Расіі ў ФРН і быў «сваім» у Амбасадзе РФ у Аргенціне. Паводле некаторых сведчанняў, меркавана з'яўляецца супрацоўнікам ФСБ, а ў раскрытай схеме кантрабанды какаіну ў асабліва буйным памеры можа выконваць ролю своеасаблівай фігуры «на закланне».

Паказальна, што крымінальная справа па выяўленым канале кантрабанды, у якім задзейнічаная кампанія сястры Андрэя Кавальчука Irgotrade GmbH, была закрытая ў 2013 годзе паводле амністыі. За спробу ўвозу каштоўных металаў ювелірная кампанія ТАА «Арго» была засуджаная да амаль 3,5 мільёна расійскіх рублёў штрафу і на 30 тысячаў рублёў аштрафаваная супрацоўніца мытні за перавышэнне службовых паўнамоцтваў. На далейшую дыпламатычную кар'еру Сяргея Сядых гэтая справа аніяк не паўплывала.

На гэты момант мы пакуль не маем пацверджанай інфармацыі пра магчымы ўдзел Сяргея Сядых у арганізацыі паставак кантрабанды на тэрыторыі Беларусі. З улікам пададзеных вышэй звестак, а таксама факту наладжанага ў нашу краіну асноўнага каналу наркатрафіку з тэрыторыі Расіі, беларускім спецслужбам варта праявіць пільную ўвагу да прадстаўнікоў расійскага дыппрадстаўніцтва ў Беларусі.

Цікава, што Сяргей Сядых здзяйсняе дыпламатычную дзейнасць у Беларусі разам са сваёй жонкай Галінай Ігараўнай Лаўровай, якая з'яўляецца трэцім сакратаром Амбасады РФ у нашай краіне.



**Галіна Лаўрова і Сяргей Сядых.** Скрыншот відэа тэлеканалу «Беларусь 1»

Да Беларусі Галіна Лаўрова працавала ў расійскім дыппрадстаўніцтве ў Шры-Ланцы і Германіі, дзе і пазнаёмілася з Сяргеем Сядых. Праца ў Амбасадзе РФ у Беларусі з'яўляецца для іх другой супольнай службовай камандзіроўкай, у якой яны разам знаходзяцца з 2017 года.

Афіцыйна Галіна Лаўрова курыруе пытанні, звязаныя з культурай і гуманітарнай супрацай. Гэты напрамак дзейнасці палягае цалкам у рэчышчы рэалізацыі Расіяй стратэгіі soft power («мяккая сіла») у Беларусі. Адной з галоўных задачаў неаімперскай палітыкі РФ у дачыненні да Беларусі ёсць кансервацыя нашай краіны ў расійскай культурніцкай, гуманітарнай, эканамічнай і сацыяльнай прасторы. Дзеля гэтага расійскія стратэгі непасрэдна і з дапамогай Амбасады РФ у Беларусі, прадстаўніцтва «Россотрудничество», Дома Масквы ў Мінску, адукацыйных установаў, разгалінаванага сеціва (пра)расійскіх арганізацыяў, параміліатарных казачых фарміраванняў, значнай колькасці прадстаўнікоў клерыкальнага корпусу Маскоўскага Патрыярхату спрыяюць размыванню беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці і ўмацаванню светагляднай дактрыны «рускага міра».

На падставе адкрытай дзейнасці Галіны Лаўровай можна адсачыць, як рэалізуюцца асобныя элементы гэтага стратэгічнага неаімперскага курсу Расійскай Федэрацыі ў адносінах да Беларусі. Вызначана, што ад самага пачатку дыпламатычнай камандзіроўкі ў Беларусь Галіна Лаўрова пачала супрацоўнічаць з актывам разнастайных арганізацый расійскай скіраванасці. У чэрвені 2017 года яна актыўна ўдзельнічала ў VI Рэгіянальнай канферэнцыі расійскіх суайчыннікаў, якая праходзіла на базе Амбасады РФ у Мінску.

Апроч удзелу ў ёй кіраўнікоў (пра)расійскіх арганізацый з постсавецкіх краін і тэрыторыяў, акупаваных Расіяй (Абхазія і Цхінвальскі рэгіён), непасрэдна ўдзельнічалі ў гэтым мерапрыемстве і кіраўнікі арганізацый так званага «Координационного Совета организаций российских соотечественников в Белоруссии» (КСОРС) — кангламерату арганізацыяў «русского мира», які непасрэдна курыруе Амбасада РФ у Беларусі.

Тады ж, у чэрвені 2017 года, Лаўрова ўдзельнічала ў акцыі «Свеча памяти» ў Хатыні, якая была праведзеная з ініцыятывы КСОРС і забяспечаная фінансава-арганізацыйнай падтрымкай з боку Амбасады РФ.

У кастрычніку 2017 года Лаўрова ўдзельнічала ў мерапрыемстве «Светский бал» і вечары памяці Пушкіна ў віцебскай гімназіі №3, якой у 2007 годзе было нададзена імя гэтага расійскага паэта. Характэрна, што адным з ініцыятараў яго надання з'яўляўся на той момант старшыня віцебскага грамадскага аб'яднання «Русский культурный центр "Русь"» Ігар Патапаў. З 2007 года гэтая гімназія стала адным з цэнтраў расійскай культурна-ідэалагічнай гегемоніі ў Віцебску. У ёй праводзяцца дні памяці Пушкіна, святкуецца дзень народзінаў паэта, арганізуюцца сустрэчы «Пушкин в музыке», выставы «Пушкин глазами детей», адкрытыя паэтычныя конкурсы «Души прекрасные порывы» і гэтак далей.

Дырэктарка віцебскай гімназіі №3 Людміла Сомава вельмі дакладна акрэсліла мэты і задачы гэтых мерапрыемстваў, да ўдзелу ў якіх прыцягваецца вялікая колькасць гімназістаў: «Через творческую деятельность они учатся любить, дружить, ценить идеалы Отечества. Наши пушкинцы — это духовно богатые, талантливые и творческие люди».




**Аляксандр Марозаў з прыхільнікамі яго літаратурнага таленту ва акупаваным Данецку**

Непасрэднае курыраванне гэтай праграмы па расійскай сацыякультурніцкай інвазіі здзяйсняе Амбасада РФ і прадстаўніцтва «Россотрудничество», якія за гэты час грунтоўна «ўмацавалі» навучальную базу гімназіі — бескаштоўна надалі ёй тысячы экзэмпляраў кніжнай прадукцыі на рускай мове, а таксама камплект спадарожнікавай тэлевізіі для прагляду адукацыйных праграмаў расійскага ТБ. Варта асабліва зазначыць, што гэтай «дабрачыннай» дзейнасцю расійскія структуры ахапілі сотні навучальных установаў, у тым ліку ВНУ па ўсёй Беларусі.

У красавіку 2018 года Галіна Лаўрова ўдзельнічала ў навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай пісьменніку Фёдару Дастаеўскаму, якая праходзіла ў раённай бібліятэцы імя Панфёрава ў Янаве Брэсцкай вобласці. Паводле слоў аднаго з удзельнікаў, лейтматывам мерапрыемства сталася памяць пра род Дастаеўскіх — як яшчэ адной ніткі, якая падкрэслівае трываласць беларуска-расійскіх сувязяў. У рэалізацыі расійскай стратэгіі soft power у Беларусі адным з ключавых аспектаў з'яўляецца выкарыстанне расійскіх выбітных гістарычных постацяў — выхадняў з тэрыторыі нашай краіны — у кантэксце захавання супольнай з Расіяй культурніцкай спадчыны. Гэта неабходная ўмова для, як было зазначана вышэй, кансервацыі Беларусі ў гуманітарна-культурніцкай прасторы Расійскай Федэрацыі.

Паказальна, што Фёдар Дастаеўскі практычна да канца свайго жыцця выракаўся мінулага сваёй сям'і. Для расійскай імперыякратыі гэта ідэальны вобраз каланізаванага носьбіта расійскай нацыянальнай ідэнтычнасці, які ўспрымае гісторыю ўласнага народа праз светапоглядную прызму расійскай культурніцкай імперскай традыцыі.

У траўні 2018 года Галіна Лаўрова прысутнічала на міжнародным літаратурным форуме «Славянская лира-2018», арганізаваным пры падтрымцы Беллітсаюзу «Полоцкая ветвь», Амбасады РФ у РБ, прадстаўніцтва «Россотрудничество» і Маскоўскага цэнтра міжнароднай супрацы. Гэтае творчае мерапрыемства з'яўляецца адной з асноўных пляцовак для рускамоўных пісьменнікаў Беларусі. Сярод журы гэтага форуму быў чалец «Полоцкой ветви» Аляксандр Марозаў — паводле дадзеных Цэнтра «Міратворац», удзельнік прапагандысцкіх мерапрыемстваў дзяржавы-агрэсара Расійскай Федэрацыі, у 2014 годзе пераехаў у Беларусь з Дэбальцава, што знаходзіцца зараз пад акупацыяй «Л/ДНР».

У выніку расследавання вызначана, што Амбасада РФ падтрымлівае таксама шчыльныя зносіны і з ветэранскімі арганізацыямі ў Беларусі. Так, у сакавіку 2018 года Лаўрова ад імя расійскага дыппрадстаўніцтва віншавала з Днём марака-падводніка ветэранаў ВМФ, якія жывуць у Беларусі. Урачыстая імпрэза адбылася ў Беларускім дзяржаўным музеі ВАВ, на яе былі запрошаныя больш за сто чальцоў з гарадскіх і раённых арганізацыяў РАА «Беларускі саюз вайсковых маракоў».

У студзені 2019 года Лаўрова прысутнічала на святочным мерапрыемстве ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі, прысвечаным 75-годдзю поўнага вызвалення Ленінграда ад блакады. У мерапрыемстве ўдзельнічалі чальцы Мінскай гарадской грамадскай арганізацыі «Защитники и жители блокадного Ленинграда», якім Лаўрова надала адмысловыя ўзнагародныя знакі. Характэрна, што ўжо ў траўні 2019 года гэтая арганізацыя ўвайшла ў склад згаданага вышэй КСОРС. Варта звярнуць асаблівую ўвагу, што разнастайныя ветэранскія арганізацыі і згуртаванні блакаднікаў Ленінграда з'яўляюцца элементамі адзінай маналітнай архітэктонікі «русского мира» ў Беларусі. Напрыклад, яшчэ адна арганізацыя ў складзе КСОРС — ГА «Белорусский союз блокадников Ленинграда» — у сакавіку 2014 года падпісала з іншымі (пра)расійскімі структурамі ў Беларусі супольны ліст-вітанне акупацыйнай уладзе Крыма, у якім ухваліла «возвращение Севастополя и Крыма в состав РФ» і «восстановление исторической справедливости», а таксама задэкларавала ўпэўненасць, што гэта толькі «начало истинного возрождения нашего общего Великого Отечества». Арганізацыя блакаднікаў падпісалася пад гэтымі словамі нягледзячы на тое, што яе чальцы аднойчы ўжо перажылі жахі рэалізацыі імперскай палітыкі пашырэння жыццёвай прасторы, падчас якой таксама гучалі падобныя праграмныя пастулаты.

Апекаваца структурамі «русского мира» ў Беларусі Галіна Лаўрова працягвала ўвесь 2019 год. У красавіку 2019-га яна ўдзельнічала ў IV расійска-беларускай канферэнцыі ў Смаленску, прысвечанай інтэграцыі Расіі і Беларусі, у якой прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі выканаўчай улады Смаленскай вобласці і студэнцтва, (пра)расійскіх арганізацыяў у Беларусі.



**Галіна Лаўрова на IV расійска-беларускай канферэнцыі ў Смаленску**

У жніўні 2019-га Лаўрова наведала мерапрыемства, прысвечанае дню Расіі і Беларусі ў дзіцячым лагеры «Спутник» пад Мінскам, арганізаваным для дзяцей актыву арганізацыяў расійскіх суайчыннікаў. Імпрэза была арганізаваная грамадскім аб'яднаннем беларускіх чувашоў «Атал» (чалец КСОРС) пры падтрымцы Амбасады РФ. Цікава, што культурную праграму ў лагеры забяспечвала канцэртная група вайскова-паветраных сілаў і войскаў супрацьпаветранай абароны Беларусі. Таксама былі запрошаныя вайскоўцы, якія навучалі дзяцей збіраць-разбіраць аўтамат Калашнікава. Праграма мерапрыемства прадугледжвала акцэптацыю светагляднай дактрыны «русского мира», адной з галоўных міфалагемаў якой ёсць тое, што беларусы і рускія нібыта з'яўляюцца адным народам, якія маюць агульныя гісторыю, традыцыі, святы, культуру і мову.

У наступнай, заключнай частцы, мы працягнем раскрыццё звестак пра пазасталых непасрэдных рэалізатараў расійскай стратэгіі «soft power» і меркаваных прадстаўнікоў спецслужбаў з дыпламатычнага складу расійскай Амбасады ў Беларусі і падвядзем вынікі расследавання.

# Кароткія вынікі першага года электаральнай вакханаліі

**а** Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

**Апошні нумар НЧ, апошняя «Азбука паліталогіі» ў 2019-м. Зразумець унёсак гэтага года ў наша жыццё, не адышоўшы на пэўную дыстанцыю, няпроста. Тое, што сёння здаецца лёсавызначальным, праз пэўны час можна і не прыгадаць. Да тых навінаў, у якіх няшмат шанцаў прэтэндаваць на статус значных падзей, можна смела аднесці кадравыя перастаноўкі на вяршыні кіраўнічай вертыкалі.**




У 2019 годзе кадравыя рашэнні адзіным палітыкам (АП) прымаліся неаднаразова. Самае прыкметнае — прызначэнне былога першага намесніка старшыні беларускага КДБ генерал-маёра Ігара Сяргеенкі кіраўніком адміністрацыі АП.

Правы і абавязкі гэтага ўладнага органа ў Канстытуцыі не вызначаныя. Усё, што мы можам даведацца з 5 раздзела 84 артыкула, зводзіцца да таго, што прэзідэнт утварае, ліквідуе і рэарганізуе сваю адміністрацыю і іншыя органы дзяржаўнага кіравання.

Такая лаканічнасць, тым не менш, дазваляе адміністрацыі кіраўніка дзяржавы стаяць над усімі галінамі ўлады. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. На тое ён і персаналісцкі рэжым, каб колькасць палітыкаў у краіне абмяжоўвалася адным, а яго прамы працяг — адміністрацыя — быў выведзены з-пад чыйго б там ні было кантролю.

Спецыялістам па разборках пад дываном перастаноўкі ў адміністрацыі АП служаць нагодамі паразважаць на тэму «сапраўдных інтарэсаў тых, хто іх прызначае». Аднак да «Азбукі паліталогіі» такога кшталту навіны ніякага дачынення не маюць. Прынцып «кадры вырашаюць усё» даўно трансфармаваўся ў Беларусі ў прынцып «кадр вырашае ўсё». Стылістычнае адрозненне мінімальнае — усяго толькі адна літара, але за яе адсутнасцю стаіць прынцыпова іншая палітычная сістэма, у якой усім нам выпала шчасце жыць.

### Не будзьце такімі наіўнымі

12 верасня падчас чарговага разгляду кадравых (!) пытанняў прагучала слова «вакханалія». Цытую: «У палітыцы, я ўжо сказаў, мы пачалі здаваць экзамен. Сённяшняя перадвыбарчая вакханалія, інакш яе не назавеш, перад парламенцкімі выбарамі кажа пра тое, што гэта проста рэпетыцыя прэзідэнцкіх выбараў».

Уменне падбіраць дакладнае слова для апісання палітычнай рэальнасці — адна з адметных асаблівасцяў АП. Дазволю сабе яшчэ адну цытату: «У краіне кіраванай, у нашай краіне, для сябе мы павінны правесці гэтыя выбары».

Лепш, мабыць, і не скажаш. І больш адпаведнай аўдыторыі, чым прэтэндэнты на хлебныя месцы ва ўладнай вертыкалі, для гэтага не абраць. Хто такія мы, і для каго яны праводзяць выбары? Мы — гэта прадстаўнікі ўлады. Выбары яны праводзяць для сябе. А вы думалі, для грамадства? Для карэкціроўкі курсу развіцця краіны? Не будзьце такімі наіўнымі.

**Незалежнасць, як неаднаразова нагадваў АП, каштуе дорага. Таму барацьбу за незалежнасць неабходна пачынаць з усведамлення грамадствам гэтай азбукавай ісціны і з гатоўнасці бліжэйшым часам зацягнуць паясы**

Зразумела, што такога роду выбары правесці паводле Канстытуцыі немагчыма, толькі ў рэжыме «вакханаліі», і толькі ў кіраванай краіне, што і было чарговым разам паспяхова прадэманстравана.

Але наколькі б жорстка ні кантралявала краіна, пэўныя асцярогі для арганізатараў электаральных «вакханалій» заўсёды існуюць. Нездарма ж у паліталогіі ёсць паняцце «выбары, якія перакульваюць», пад якімі разумеецца дэмакратызацыя аўтарытарнага рэжыму з дапамогай часткова свабодных выбараў, што не выключаюць перамогу апазіцыі.

Беларускаму аўтарытарнаму рэжыму такога кшталту выбары бліжэйшым часам не пагражаюць. Рэжым больш чым кансалідаваны, і ўнутранай «вакханаліі» ён можа не баяцца пры ўмове пераносу яе («вакханаліі») вонкі. Порах у парахаўніцах для гэтага ў рэжыму маецца.

### Трэба ўпірацца

2019 год заканчваецца ўпэўненым ростам даходаў насельніцтва і заработнай платы (за студзень-кастрычнік — 7,3% і 7,6% адпаведна) на фоне вельмі сціплага росту ВУП (1,1%). Гэтыя «нажніцы» наглядна ілюструюць важную асаблівасць беларускай мадэлі — дамінаванне палітычных мэтаў над эканамічнымі.

Шматлікія публічныя выказванні АП з нагоды вяршэнства эканомікі не павінны ўводзіць у зман. Абмяжуюся адной цытатай: «Будзе эканоміка — будзе ўсё: і бяспека, і кібербяспека, і ў СМІ будзе бяспека. Калі не будзе эканомікі, ніякая інфармацыйная бяспека, канцэпцыі, законы, драконаўскія метады, палачная дысцыпліна не дапамогуць. У якім выпадку не будзе ў нас эканомікі, мы таксама ведаем. І гэта, на жаль, таксама завязана на дысцыпліну і выканаўчасць».

Хто ясна думае, той ясна выкладае. Справядліва і адваротнае. Рэкамендую перачытаць цытату, прычым пажадана двойчы. Калі не будзе эканомікі, то дысцыпліна, нават у яе крайнім (палачным) варыянце, дапамагчы не ў стане. Гэта з аднаго боку. Аднак не варта спяшацца з канчатковай высноваў, у эканамічнага медалю ёсць і іншы бок, бо існаванне эканомікі наўпрост «завязанае на дысцыпліну і выканаўчасць».

Вось такі дамарослы біном Ньютана, разабрацца ў якім аўтар «Азбукі паліталогіі» не здольны.

Палачная дысцыпліна неаднаразова дэманстравала сваю эфектыўнасць у гісторыі, напрыклад, пры будаўніцтве пірамідаў, а ў мінулым стагоддзі — на лесапавале. Але драўніну ў прамысловых маштабах з дапамогай дзедаўскіх пілаў і сякераў сёння не нарыхтоўваюць, што ж тады казаць пра падрыхтоўку высакакласных спецыялістаў, у прыватнасці, медыкаў.

13 снежня на сустрэчы са студэнтамі медыцынскіх ВНУ АП «канстатаваў адсутнасць сур'ёзнай праблемы з адтокам урачэбных кадраў з краіны». Характэрна, што ў афіцыйным прэс-рэлізе адсутнасць праблемы была праілюстраваная негатыўнай дынамікай за два апошнія гады. Мяркуйце самі: «Паводле дадзеных Міністэрства аховы здароўя, з пачатку гэтага года з Беларусі з'ехалі для працы за мяжой каля 200 лекараў, прыехалі назад — 20 чалавек. У 2018 годзе іх было 158 і 40 адпаведна». Гэта значыць, за няпоўны год колькасць лекараў, якія эмігравалі, павялічылася на 27%, а колькасць тых, якія вярнуліся, скарацілася ўдвая!

Адсутную праблему АП прапанаваў вырашыць, па-першае, за кошт цудоўных дамоў, «асабліва для маладых людзей з вышэйшай адукацыяй» (адзін такі дом у Бараўлянах ужо пабудаваны); па-другое, за кошт павышэння зарплаты медыкаў, якой загадана «павялічыцца на 20% у 2020 годзе і ў 2 разы ў 2025 годзе».

Пры гэтым не абышлося без двух каменьчыкаў. Адзін АП кінуў у беларускі агарод, другі — у агарод Захаду, што загнівае: «Мы трошкі народ распесцілі. Трэба ўпірацца, як на Захадзе, там круглыя суткі лекар працуе. Лекар агульнай практыкі — ён белага свету не бачыць, і ніхто не адмаўляецца».

Наяўнасць права на падачу скаргаў, што гарантуе Канстытуцыя (артыкул 40), і магчымасць не працаваць круглыя суткі варта разумець у якасці дадатковых бонусаў, закліканых пераканаць беларускіх медыкаў адмовіцца ад пошуку працы за мяжой. Такі важны вынік не толькі мінулага года, але чвэрці стагоддзя будаўніцтва беларускай мадэлі.

### Незалежнасць каштуе дорага

Але, мабыць, на ролю галоўнай падзеі года могуць смела прэтэндаваць чарговыя разборкі ўнутры так званай Саюзнай дзяржавы. Адрозненне разборак узору 2019 года ад папярэдніх палягае ў тым, што іх удзельнікі за год не прасунуліся ні на крок.

Старт бясплодным перамовам, што беспрэцэдэнтна зацягнуліся, быў дадзены на пасяджэнні Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы 13 снежня ў Брэсце, на якіх старшыня ўрада РФ Дзмітрый Мядзведзеў абвясціў два сцэнары развіцця сумеснага інтэграцыйнага тварэння. Адзін — кансерватыўны, без павышэння існуючага ўзроўню інтэграцыі дзвюх краін. Другі — той, які прадугледжвае шчыльную інтэграцыю.

«Хачу асабліва падкрэсліць: Расія гатовая і далей прасоўвацца па шляху будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, уключаючы стварэнне адзінага эмісійнага цэнтра, адзінай мытнай службы, суда, Падліковай палаты», — заявіў Мядзведзеў. Праз год падчас сваёй штогадовай прэс-канферэнцыі прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін практычна даслоўна пацвердзіў прыярытэт кансерватыўнага варыянту.

Незалежныя беларускія аналітыкі першы варыянт ацанілі як «шантаж не толькі Лукашэнкі, але і ўсяго беларускага народа» (Яраслаў Раманчук) і «ўльтыматум» (Валерый Карбалевіч).

Здавалася б, з такімі рашучымі ацэнкамі складана спрачацца. Аднак яны перакладаюць праблему з хворай галавы не тое, каб на здаровую, а на галаву, якая не з'яўляецца ініцыятарам праблемы.

Марыць не шкодна, шкодна не марыць. Аднак калі кіраўніцтва Беларусі хоча атрымліваць кампенсацыю за падатковы манеўр (8–12 мільярдаў долараў да 2020 года) і газ па цэнах Смаленскай вобласці, і пры гэтым заставацца незалежным ад Крамля, то гэта будзе перабор, з якіх бы пазіцый мы яго ні разглядалі.

Незалежнасць, як неаднаразова нагадваў АП, каштуе дорага. Таму барацьбу за незалежнасць неабходна пачынаць з усведамлення грамадствам гэтай азбукавай ісціны і з гатоўнасці бліжэйшым часам зацягнуць паясы.

Новы час | 27 снежня 2019 | № 48 (659) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №12




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (160)
(снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by




## Змест



# Каляда, каляда...

## Святочны, старажытны дух калядны...

Ніл ГІЛЕВІЧ

*Святочны, старажытны дух калядны,*
*Магічны дух язычніцкіх акрас,*
*Смалення дух, дух кміну і каляндры,*
*Дух на шасце падвешаных каўбас,*
*Калісьці ўсемагутны, усеўладны,*
*Што ж на куццю ты не збіраеш нас?*
*О, Божа! Што ў душы маёй паселіцца?*
*І з нашых хат, і з нашых песень-дум.*

## Першы снег

Рыгор БАРАДУЛІН

*У абшары навакольным*
*Над папарам, лугам, полем*
*Снег тчэ мяккі змрок.*
*Кожную сняжынку тую*
*Кружыць, туліць і цалуе*
*Весялун-вятрок.*

*Дрэвы ў футры і карункі —*
*Шчодрыя зімы дарункі*
*Ахінаюць стан.*
*Галавой кіўнуў гулліва*
*Вяз тапалі сарамлівай,*
*Маладзейшым стаў.*

*І абрусам вышываным*
*Засцілаюцца паляны,*
*Далягляд і дол.*
*На вяселле зімкі жвавай*
*З дзедам грозным і ласкавым,*
*На багаты стол.*

*Дзесьці йдуць маладажоны*
*Сцежкай пухам вылажонай,*
*Шчасныя ўдваіх.*
*Эх, як хораша, ўрачыста,*
*Як душы парывы чысты*
*Ў час хвілін такіх!*

## Каляда, Каляда, на зямлі — Святы Вечар...

Ларыса ГЕНІЮШ

*Каляда, Каляда, на зямлі — Святы Вечар,*
*нарадзіўся у яслях Збавіцель і Бог.*
*І пасталі бярозаў танклявыя свечкі*
*паабапал заснежаных, белых дарог.*
*Халадно. Мо таму, што зіма на парозе,*
*адчуваецца лютасць суровай пары,*
*а у полі пустым па шырокай дарозе*
*плачуць нечаму сумна ліхія вятры.*

*Чым жа сэрцы сагрэць, як той холад адужаць?*
*Ці агеньчыкам цьмяным ў сялянскім акне,*
*Калядою святой, што насуперак сцюжам*
*цеплынёй чалавечыя сэрцы кране?*




*Каляда, Каляда... Нават зорам трывожна.*
*Па заблытаных сцежках крутога жыцця*
*да сваіх ў гэты вечар спяшаецца кожны,*
*дзе ў сям'і за сталом нас чакае куцця.*

*Сена пах, яліны, стаяць розныя стравы,*
*прытаміўшыся, маці шчаслівa маўчыць.*
*Садзяцца сыны на шырокія лавы,*
*што сышліся дамоў, каб душой адпачыць.*

*Добра сесці разом, слязу радасці ўцерці,*
*адчуваць, што ў застоллі,*
*што побач браты,*
*у душы чысціня і узнёслыя сэрцы,*
*бо з людзьмі разам Бог ў гэты*
*Вечар Святы.*
*Сёння сэрцам з усімі куццю раздзяляем,*
*хто за стол наш не змог на вячэру прыйсці,*
*ўсіх далёкіх і родных сваіх ўспамінаем*
*і дабра ўсім і шчасця жадаем ў жыцці.*

*Няхай будзе вам цёпла,*
*бы ў бацькавай хаце,*
*ў гэтым свеце шырокім, дзе столькі дарог.*
*Няхай людзі зямлі для вас будуць,*
*як брацця,*
*і жыццёвыя сцежкі прастуе вам Бог.*

*Можа, хто занямог, можа, хто пахіснуўся,*
*загубіўшы сумленне ў нялёгкім жыцці,*
*прытаміўся ў шуканні свае Беларусі —*
*памажэце й такім на вячэру прыйсці.*

*За святочным сталом —*
*няхай кожнаму месца*
*каля вернага сэрца сясцёр і братоў.*
*Няхай будзе у вас, як ў харошай сямейцы,*
*ўсім па роўні ў жыцці і куцця, і любоў.*

*Няхай вера ў любоў, свая мова ў застоллі,*
*а у думках — зямля, дзе спачылі дзяды,*
*няхай ўсюды ласкава спрыяе вам доля,*
*а любоў, чалавечнасць мацуе рады!*

## Зіма на бацькаўшчыне

Максім ТАНК

*Дзень цэлы плавалі вятры*
*Над восенню палёў бязмежных,*
*Пад вечар снегам завірыў*
*Спазніўшыся кудлаты снежань.*
*Ён ахінуў стагі лугоў,*
*Як верацёны, снежнай воўнай,*
*З-пад Налібок, з балот, лясоў*
*Плыты ільдзін пагнаў па Нёмну.*
*Ён хвалі дрэмлючай раллі*
*Рвануў за вараньія грывы, —*
*І ажылі, і паплылі*
*На бор узДыбленыя нівы.*

*Але навалу хмар цяжкіх*
*Стрымалі выгнуўшыся хвоі.*
*Адно па соснах залатых*
*Ўзнялося полымя сівое,*
*У змрочных лапках зацвіло,*
*З бяроз успыхнуўшага вецця*
*На сухастой, на буралом*
*Яго панёс аслепшы вецер.*
*Збудзіўся нетраў цёмны гул,*
*З лагоўяў воўчых і выкопаў*
*Папоўз па свежаму снягу,*
*Па выбітых руёю тропах.*

*Зіма... Ад інею вішняк*
*Перахіліўся за парканы.*
*І не мінеш яго ніяк,*
*Кранеш — і цветам серабраным*
*Асыпе з галавы да ног.*
*На дзенніці вароны стадам*
*Лятуць з прасёлачных дарог.*
*Іх цень плыве праз палісады,*
*Дзе ўсё, як вогнішча лістоў,*
*Замёў снег свежы, сшаранелы,*
*Дзе першых заячых слядоў*
*Глухія петлі забялелі.*

*Калі-ж, вячэрняю парой,*
*За вёску выйдзеш на прыволле,*
*Цябе сустрэнуць чарадой*
*Шляхоў знаёмыя таполі,*
*Пачуеш як трашчыць рака,*
*Скрыпяць асверы на марозе,*
*Як пад дугой маладзіка*
*Пяюць сялянскія палоззі.*
*І шляху зорнага агні*
*У кожнай у сняжынцы ззяюць*
*І ў сэрцы, што з далечыні*
*Па родным сумавала краю.*

## Прыходзіш з нагоды ці з суму...

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

*Прыходзіш з нагоды ці з суму,*
*З віны, а ці з лютай зімы?*
*О, колькі няўдзячнага шуму*
*Трымаюць трывожна дамы!*

*Ты й зараз баішся змыліцца*
*На дрогкі агонь у акне.*
*Замецена снегам сталіца*
*Ці позні твой след да мяне?*

*Прысядзь, я цябе не прымушу*
*Адкрыцца ў расстайнай журбе*
*І шчасця твайго не парушу,*
*Калі яно ёсць у цябе!*

## Пад вятрамі...

Генадзь БУРАЎКІН

*Пад вятрамі згорбіліся ўзгоркі.*
*Сосны ўздзелі снежныя брылі.*
*Промні, як блішчастыя іголкі,*
*Рассыпае сонца па зямлі.*

*Цягнецца дарога Шляхам Млечным.*
*Зоркамі ўскіпае белы снег.*
*І не знаеш — вечны ці не вечны*
*Ты ў бяскрайняй гэтай белізне.*

*Можа, раптам колкі вецер зімні*
*Завірухай ранняю ўзмахне*
*І на крылы ледзяныя ўзніме,*
*І ўжо не апусціць больш мяне?*

*Што ж, няхай усё, што маю,*
*лясне.*
*Толькі аднаго да слёз шкада —*
*Гэты вось, заснежаны і ясны,*
*Мілы свет навекі пакідаць.*

*Хай ён і халодны, і калючы,*
*Без густой травы і сінявы —*
*Толькі ўвесь рыпучы і пявучы,*
*Заінелы,*
*звонкі*
*і жывы...*

# Пятролюбы

Аксана СПРЫНЧАН

### Формулы

«Пятрогліф: формула — чатыры «З». Звышлаканічнасць, звыш'ёмістасць, звышэканомія, звышглыбіня. Камень піша на камені».

А пятролюб: формула дваіх — Пятра і Любові. А піша Аксана.

### Давер

Пятро Васючэнка — гэта суцэльны давер. Да людзей, да ўсялякай жывой істоты. І нават да рэдактара. І мне як рэдактарцы — Боскі да(вер)р, што я сустрэла аўтара, які бясконца давярае. Любоў любоўю, але рэдагаванне — гэта як побыт у сямейным жыцці. І калі ў гэтым побыце не паўстае ніводнага ценю, значыцца Аўтар і Рэдактар сустрэліся ў тым шчасці, якое мала каму дадзенае.

### Лабірынт

Пятро Васючэнка — лабірынт. Адрозна ад полацкага — у гэты лабірынт лёгка патрапіць: жыві сярод казак і вершаў, навуковых артыкулаў і апавяданняў, міфаў і фэнтэзі, прыгодаў і літаратуразнаўчых манаграфій, п'ес і даведнікаў, эсэ і рэцэнзій, радыёлекцый і радыёпастановак. Адрозна ад лабірынта — з яго не шукаеш выйсця.

### Жабкі і свінкі

Калекцыянерам утульна разам, асабліва калі ён — калекцыянер свінак, а яна — калекцыянерка жабак. І без адных, і без другіх цяжка ўявіць беларускі свет. А да таго ж свінкі не замінаюць жабкам, а жабкі — свінкам. І ў гэтым –рэдкая суладнасць беларускага свету.

### Дзіця

Дзіця — найлепшы падарунак. Нават чужое. Адзіны, хто напісаў пра гэта ў беларускай літаратуры, — Пятро Васючэнка. У "Дні народзінаў катá Буркуна" котка дорыць Буркуну кацяня, якое нарадзілася ад іншага. Дзівосны запавет, што пакінуў творца ў зборніку вершаў, казак і апавяданняў «З Днём народзінаў, альбо Свята, якое ёсць у кожнага», які я ўкладала і які быў апошнім, што выйшаў перад сыходам аўтара.

### Паспела

У дачыненнях з людзьмі шмат чаго не паспяваеш сказаць. Пераважна нічога не паспяваеш. Ды я паспела сказаць, што Пятро Васючэнка — геніяльны. Але і тут не ўсё атрымалася, бо казала пра творцу, а ён жа і чалавек геніяльны.

### Адзіная кніга

Крупскі раён. Хата на ўскрайку балота. Адзначаем з сябрамі Новы год. Дзевяностагадовая гаспадыня прытамілася і залезла на печ. Мы спрабуем не шумець. Сябра дастае кнігу Пятра Васючэнкі «Адлюстраванне першатвора», і, вядома ж, я ўзгадваю, што Пятро Васючэнка калекцыянуе свінак, таму мы можам сустрэць поўнач разам са свіннёй (і бабулі не будзем перашкаджаць). Бярэм шампанскае, кнігу і выпраўляемся ў хлеўчык. Чытаем уголас, дзелімся шампанскім са свіннёй (мы ж не сквапныя свінні). Ці не адзіны Новы год, калі я чытала і вакол на сотню метраў не было ніводнае кнігі.

Калі ўзгадваю, думаю, што з кнігай Пятра Васючэнкі можна ляцець у космас. Бо космас прыме космас.

### Прэмія Дзядзькі

Сумна ці не, а застаўся Пятро Васючэнка па-за прэміямі. Апраца Глінянага Вялеса і Блакітнага Свіна. Таму гэтыя прэміі для мяне ўзвысіліся. Але ж асоба такога творцы цягне на прэмію ягонага імя. Хто б не марыў атрымаць Прэмію Пятра Васючэнкі?! Прэмію Дзядзькі. Цётка была б не супраць.

### Святая рыса

Неўзабаве вясна. Ніхто мяне болей не павіншуе з сёмым днём вясны, ведаючы, што я не святкую восьмы. Ёсць людзі, якія ўмеюць ствараць свята. І гэта святая рыса.

### Усмешка

Ёсць творцы, якія ўсміхаюцца табе, калі іх сустрэнеш. А як іх чытаеш — усмешка знікае. Пятро Васючэнка меў надзвычайную здольнасць захоўваць усмешку і ў жыцці, і ў прозе, драматургіі, вершах... Гэтакая ўсмешка — неўміручая.

### Сцяг ля сэрца

Калі сябра хацеў пакінуць свой сцяг, каб не схапілі спецназаўцы, Пятро Васючэнка схаваў сцяг ля сэрца і вынес, але сцяг ужо не аддаў. Імкненне выратаваць і захаваць — сутва Пятра Васючэнкі.

### Дом

Пятро Васючэнка — дом. Не самотны. Дом — з сям'ёй. Дом — з універсітэцкімі калегамі. Дом — з радыйнікамі. Дом — з сябрамі садовага таварыства. Дом з пісьменнікамі... Ідэя Дома для яго надзвычай істотная. Істотная яна і для іншых, але далёка не ва ўсіх яна — рэальнасць.

### Пажар

Калі на адным з лецішчаў распачаўся пажар, прыбег тушыць адзін Пятро Васючэнка. Вядома ж, я ведаю тое не ад яго.

### Вяселле як абеларушванне

Пасля памінак я сустрэла цікавага беларускамоўнага кіроўцу. І гэта гады ў рады бывае. Але ж ён яшчэ і стаўся беларускамоўным, пабыўшы на вяселлі Пятра Васючэнкі!

Усё ж не ўсе казкі сканчаюцца вяселлем.

### Прадмова

Мне дужа карцела, каб у маёй першай кнізе была прадмова, а выдавецтва не хацела. Валянцін Акудовіч тады супакоіў тым, што кніга, як і кабета, найлепей выглядае аголенай. Але калі мы з Алесем Анціпенкам выдавалі смс-п'еску "Дарога і Шлях", мы апранулі сваю кнігу з абодвух бакоў: і прадмовай, і пасламовай. Яны ці не большыя за наш твор. І Пятро Васючэнка абдарыў шчасцем прадмовы, якую я люблю перачытваць, насалоджваючыся розумам і парадаксальнасцю аўтара. Яна як казка, якая лучыць навуковы артыкул і эсэ, верш і паэму ў прозе. Не трэба аніякай аголенасці, калі твор уграе Пятро Васючэнка.

### На векі вечныя

Пятро Васючэнка любіў усіх жывых істотак: чарвячкоў і рыбак, жабак і ракаў, жучкоў і жамяру, хахуляў і катоў. Ён і мяне любіў, бо я любіла жабак. Гэта для яго было істотна, таму і напісаў у артыкуле пра нацыянальны бестыярый: «Аксана Спрынчан на векі вечныя праславіла амфібіяў. Лірычная гераіня можа ўяўляцца ластаўкай, знічкаю, кактусам, але яна ніколі не скіне свае жабінае скуркі, бо пачуванне каралеўны, закінутай у багну побыту, складае яе існасць».

Не гэтак і шмат людзей, якія любяць цябе, бо ты любіш іншых...

### «Быць жаласлівымі»

«Спадарыням Аксане і Альжбэце, шчыра быць жаласлівымі да ўсяго жывога, быць літасцівымі да сваіх каралевічаў», — гэтак падпісаў апошнюю кнігу наш улюбёны аўтар. І каб гэты запавет з'явіўся ў якім-кольвечы тэсце без імя аўтара, кожны, хто ведаў і чытаў Пятра Васючэнку, не памыліўся б, адгадваючы, чый запавет.

### Два лісты

«Я Вас люблю! І Вашыя творы!»

«Узаемна, і неадменна, і назаўжды. П.В.»

# Падлічваем жанчын...

Алена НЯПАЛЬСКАЯ

**У Нямеччыне правялі пілотнае даследаванне, закліканае ацаніць прысутнасць і бачнасць жанчын-аўтарак у СМІ.**

Вывучэнне адбылося ў межах шматгадовага даследчага праекту #countingwomen літаратурнай асацыяцыі «AG DIVERSITÄT» у супрацоўніцтве з аддзелам даследаванняў сродкаў масавай інфармацыі Універсітэта Ростак. Ідэя правядзення даследавання ўзнікла пасля круглага стала, скліканага Міністрам культуры і СМІ Нямеччыны. Сам жа праект #countingwomen накіраваны на збор дадзеных пра прысутнасць жанчын-аўтарак у аглядах літаратуры, прысуджэннях літаратурных прэмій, выдавецкіх праграмах, школьных навучальных матэрыялах, а таксама ў складах журы і вылучэнні стыпендый.

Даследчыкі мяркуюць, што вынікі праведзенай працы будуць не толькі апублікаваныя, але і ўлічаныя рознымі арганізацыямі, у тым ліку дзяржавай у сваёй дзейнасці.

### Што даследавалі эксперты

У 2018 годзе 45 добраахвотнікаў прааналізавалі 2036 аглядаў з 69 нямецкіх медый (друк, радыё, тэлебачанне) па пэўных зададзеных параметрах. Галоўнымі пытаннямі былі:

— Ці існуюць уяўныя адрозненні паміж прысутнасцю ў СМІ жанчын аўтарак і аўтараў-мужчын?

— Ці існуюць пэўныя функцыі, якія можна аднесці выключна да полу рэцэнзента?

— Якія жанры дамінуюць, у якой ступені і хто іх праглядае?

— Ці існуюць адметнасці ў залежнасці ад гендэрнага размеркавання (рэцэнзентаў і аўтараў)?

### Рэзюмэ

Аналіз быў і статыстычны, і сацыяльны. Сродкі масавай інфармацыі выбіраліся, каб найбольш рэпрэзентатыўна адлюстраваць нямецкую журналістыку. Аналіз паказаў, што жанчыны значна меней бачныя ў сродках масавай інфармацыі і на літаратурнай сцэне — у адрозненне ад мужчын. Асноўныя вынікі такія...

*Двое мужчын прыходзяцца на адну жанчыну.*

Ва ўсіх СМІ, за выключэннем жаночых часопісаў, аўтары-мужчыны прысутнічаюць часцей і прадстаўлены больш разгорнута: дзве трацiны рэцэнзуемых кніг напісаны мужчынамі; суадносіны «2 да 1» распаўсюджваюцца на ўсе тыпы сродкаў масавай інфармацыі.

*Мужчыны больш пішуць пра мужчын. А жанчыны? Яны таксама.*

Крытычныя матэрыялы ствараюць мужчыны і жанчыны ў прапорцыях 4 да 3. Акрамя таго, мужчыны пераважна пішуць пра творы мужчын: тры чвэрці ўсіх кніг, якія разглядаюцца мужчынамі, напісаны аўтарамі-мужчынамі. З іншага боку, жанчыны звычайна разглядаюць творы і мужчын, і жанчын аднолькава.

*Непрыдуманая і крымінальная літаратура: 5 рэцэнзій на творы аўтараў-мужчын і 1 на творы жанчын.*

Непрапарцыйная ўвага крытыкаў-мужчын да мужчын-аўтараў існуе практычна ў кожным літаратурным жанры: у дыяпазоне дакументальнай літаратуры толькі кожная пятая кніга, якую разглядае мужчына, напісаная жанчынай-аўтаркай. У крымінальнай літаратуры неадпаведнасць найбольш яскравая: не толькі саміх аўтараў-мужчын болей (76%) у параўнанні з жанчынамі, але і 82% мужчын пішуць рэцэнзіі ў гэтым жанры.




*Больш месца вылучаецца для мужчын, якія пішуць пра мужчын.*

Агляды, складзеныя мужчынамі, значна больш падрабязныя, чым такія ж пра жанчын. Акрамя таго, у выданнях больш месца займаюць творы аўтараў-мужчын. У выніку бачнасць аўтараў-мужчын павялічылася. У дыяпазоне крымінальнай літаратуры таксама быў выяўлены адпаведны дысбаланс.

*Мужчыны больш бачныя на тэлебачанні. На радыё большую прысутнасць маюць жанчыны.*

На тэлебачанні на агляд жаночых твораў было адведзена 580 секунд, мужчынскія ж кнігі аглядаліся 931 секунду. Аднак у дыяпазоне радыёвяшчання, хоць творы жанчын і аналізаваліся радзей, агляды былі больш працяглымі па часе.

Такім чынам, аўтары нямецкага даследавання прыйшлі да высновы: пісьменнікі і крытыкі-мужчыны пераважаюць на сцэне літаратурных аглядаў (дзве трацiны ўсіх рэцэнзій асвятляюць творы аўтараў-мужчын). Мужчыны ў асноўным пішуць пра мужчын і займаюць значна большае месца для аглядаў іх твораў і творчасці. Толькі жанр дзіцячай і маладзевай літаратуры выглядае збалансаваным. А ў такіх жанрах, як непрыдуманая літаратура і крымінальная, якія лічацца больш інтэлектуальнымі альбо «мужчынскімі», дамінуюць выключна мужчыны.

Вынікі пілотнага даследавання складуць аснову для больш глыбокага гендэрнага аналізу літаратурнага ландшафту. Атрыманыя дадзеныя будуць правераныя ў межах новага апытання ў працягу больш працяглага перыяду.

Згаданае і будучыя даследаванні будуць прадстаўлены на www.frauenzählen.de і на англійскай мове на www.countingwomen.com.

# Сем бочак арыштантаў



Франц СІЎКО

**Аднымі толькі аб'ектыўнымі прычынамі тлумачыць выцясненне мастацкай літаратуры з абсягу нашых зацікаўленняў не выпадае.**

Хоць чытанне і з'яўляецца заняткам для розуму, усё-такі ў большай ступені яно, напэўна, — занятак для душы. Важнаю прыкметаю якога спрадвеку была даходлівасць, уцямнасць. Тая ўцямнасць, якой большасці сучасных мастацкіх твораў, як прозы, так і паэзіі, відавочна бракуе. Нашае захапленне стылёвымі пошукамі, сэнсавая размытасць тэкста, недакладнасць словаўжывання, а то і адсутнасць належнага ўзроўню граматнасці — усё гэта не спрые росту папулярнасці кнігі. Гэтаксама, як і часопіса, бальшыня тэкстаў якога часам — відавочная халтура ў выглядзе галаваломак з прэтэнзіяй на запачаткаванне саміх сябе ў якасці адэптаў новага слова ў прыгожым пісьменстве.

У свой час трапна выказаўся пра няўцямнасць у словатворчасці Л. Талстой: «Нельга казаць пра твор мастацтва: вы не разумееце яшчэ. Калі не разумеюць, значыць, твор нядобры, бо яго задача ў тым, каб незразумелае зрабіць зразумелым». Наогул, пісьменнік лічыў схільнасць да мудрагелістасці выказвання (пісьма) праяваю душэўнай хваробы аўтара.

Гэтаксама і ў страты людской цікавасці да літімпрэзаў маюцца суб'ектыўныя прычыны. Вось адкуль той цікавасці з'явіцца, калі, да прыкладу, добра, як дзесяць адсоткаў выступоўцаў да заяўленых у аўдыторыі выступаў рыхтуюцца належным чынам. Звычайна так: пару-тройку кантычак сунуў чалавек за пазуху — і ўсяе падрыхтоўкі. Пяць хвілін потым дастае дзядзька ці цётка прылюдна ў аўдыторыі тыя кантычкі, яшчэ гэтулькі часу разгортвае. Затым пачынае чытаць — нудотна, невыразна, быццам напаўголаса літанію па нябожчыку адмаўляе. А не, каб пераадолець уласную ляноту ды на памяць хаця б вершык-другі ці кавалак уласнае прозы вывучыць. Потым, здарыцца, яшчэ каторая паперчына выслізне ў небаракі падчас чытання са жмені — нагнецца падняць і корпаецца, корпаецца пад сталом на пацеху прысутным.

Яшчэ адна мова на даляглядзе замаячыла. Быццам бы расейская, толькі вось беларускімі словамі «ўзбагачаная». Добрыя людзі такую звычайна называюць «трасянкаю». А тут яна, як вынікае з маналога жанчыны, што пры складанні вершыкаў ёю карыстаецца, — «новая» мова. Сядзіць кабеціна ў тэлестудыі ды не міргнуўшы вокам распавядае пра тое, як яна, мовы тутэйшае не ведаючы, дзеля спасціжэння душы карэннага народа да такога вынаходніцтва дайшла і як, мабыць, будуць усцешаныя ў будучыні даследчыкі яе паэзіі, натыкнуўшыся на старонках кніжак на гэткі бясцэнны «моўны скарб».

Набокаў у «Дары» адзначае, што, нягледзячы на пэўную рэзкасць поглядаў Чарнышэўскага на тагачаснае расейскае грамадскае ўладкаванне, некаторыя саратаўскія гімназісты «захапіліся ім» (у сэнсе — яго поглядамі). І адразу пасля гэтага — пасаж пра тое, што з усіх колішніх вучняў Міколы Гаўрылавіча на яго пахаванне прыйшлі праз сорак гадоў ці то толькі двое з тых гімназістаў, ці то наогул — не прыйшоў ніводзін. Што, як вынікае з інтанацыі аповеду, быццам бы сведчыць пра яго непераканаўчасць у ролі педагога.

Але ж, напэўна, якраз уменне настаўніка адпускаць вучняў у вялікі свет без прэтэнзіі на іх пажыццёвую ўдзячнасць і памяць — найперш сведчанне належнага ўзроўню яго прафесійнае вартасці. І, наадварот, жаданне трымаць выхаванцаў ледзь не да скону ў полі ўласнага бачання свету — не што іншае, як праява эгаізму. Канечне, нядобра, калі настаўніка замала, але і калі зашмат — таксама нічога добрага.

Ці не тое самае датычыць і настаўніцтва ў літаратуры. Дзе, дарэчы, на недахоп яго ў дачыненні да сябе часцей за ўсё наракаць людзі, самі да настаўніцтва з-за кепскага нораву элементарна няздатныя.

Найдакладней матывы і мэты дарадцаў ад мастацтва (у тым ліку, вядома, і літаратуры) на прадмет таго, што можа, а што не можа быць для творцы аб'ектам зацікаўленасці, акрэсліў Борхес: «Тыя, што кажуць, быццам мастацтва не павінна нараджаць дактрынаў, маюць на ўвазе дактрыны, якія не супадаюць з іх уласнымі».

Так што не варта бачыць за злосцю рознага кшталту дыджэяў ад мастацтва толькі дбанне пра яго стан. Усё значна прасцей. І ўсё, як правіла, — гучання асабістага. Дарэчы, добра, ва ўнісон з аргенцінскім калегам выказаўся па тэме Х. М. Энцэнсбергер: «...для мяне паэзія ўсяедная. Усё, што можа быць цікавым чалавеку, знаходзіць тут сваё месца».

Проза некаторых японскіх аўтараў — бы крохкі лёд пад нагамі на пачатку зімы. Беліва снежнае бязважкасці, па-за якою — анічога, апроч цішыні. Такой таемнай, загадкавай і непрадказальнай, што так і карціць як хутчэй у яе акунуцца.

Што здзіўляе ў любай сэрцу «Доўгай дарозе дадому» Васіля Быкава, дык гэта бязрадаснасць пададзеных аўтарам карцін дзяцінства. Ажно такімі бязрадаснымі, шэрымі яны, асвечаныя імпэтам першароднага пазнання свету, паводле азначэння быць наўрад могуць. Тут, хутчэй за ўсё, спрацавала



Фота www.pixabay

банальная адсутнасць падзей, здольных апісанню нават самай змрочнай явы дадаць фарбаў і каларыту пазітыўнага.

Нават зусім няўдалыя кніжкі не раздражняюць. Магчыма, таму, што заўсёды ведаеш, што хочаш пачытаць, і на тое, што магло б раздражняць, папросту рэдка натыкаешся. Але калі нават часам і натыкаешся, гэта не нервуе і не раздражняе. Не тое, што хацелася б? Што ж, адкладзем убок, гэтаксама, як адыдземся падалей, нарваўшыся неўспадзеў на несімпатычнага чалавека.

А вось што раздражняе, дык гэта празмернае дбанне некаторых калег пра лёс літаратуры. Што пра яго дбаць? Нават калі і зусім спыніцца прыгожае пісьменства ў сваім развіцці, напісанага да нас застанецца так шмат, што ўсім і кожнаму на тысячу гадоў наперад хопіць.

З чытаных апошнім часам пісьменніцкіх ліставанняў самымі шчырымі падаліся лісты Салтыкова-Шчадрына. Пры ўсёй іх зместавай аднастайнасці і мностве паўтораў, асабліва датычна нараканняў адрасанта на кепскае здароўе і гэткія ж узаемаадносіны з жонкай, няма ў іх, падалося, гульні на публіку.

Яшчэ адна бяспрэчная каштоўнасць лістоў гэтага пісьменніка — смеласць у падачы фактаў літаратурнага жыцця. І найперш у плане ўзаемадачыненняў з цэнзураю і паводзінаў літаратараў у сітуацыі, калі патрабуецца ўчынак у абарону свабоды словы. Асабліва пераканаўча гучыць гэта ў перыяд атмасферы вакууму, у якім Салтыкоў-Шчадрын апынуўся як апальны былы рэдактар «Отечественных записок» пасля іх гвалтоўнага зачынення ў 1884 годзе.

Адна з перадумоваў паспяховасці пісьменніка — вынаходлівасць. І падчас напісання твора, і падчас рэалізацыі гатовага прадукту. Звычайна гэтай рысе не надаюць значэння, надзяляючы літаратара пабытавай нехлямяжасцю, бездапаможнасцю, няўменнем распараджацца ані ўласным лёсам, ані лёсам сваіх твораў. І дарэмна.

Вось, напрыклад, Гогаль, кошт маёмасці якога, паводле акта вопісу яе пасля смерці пісьменніка, складаў усяго 43 рублі 88 капеек срэбрам, на думку аўтара яго жыццяпісу І. Залатускага, «зусім не быў бессярэбранікам». Прынамсі, ён так умела вёў свае справы, датычныя продажу кніг, так быў у гэтай сферы вынаходлівы, што калі часам дапускаў які-небудзь збой, то, як правіла, не праз уласнае нядбальства ці няўмельства, а адзіна праз недагляд канфідэнтаў.

Бог ёсць любоў — усё-такі не тое. Напэўна, куды лепш было б атаясамліваць Яго са справядлівасцю. Ці прасцей — з праўдаю. Любоў у параўнанні з праўдаю — куды больш прыблізная, расплывістая катэгорыя. Адпаведна, для розных спекуляцый ды маніпуляцый вельмі зручная.

Святар падчас малітвы верных на Імшы: «Молімся за ахвяраў тэрактаў у святынях Шры-Ланкі і аб прабачэнні для тых, хто іх учыніў». Канечне, як жа без гэтага. А яшчэ лепш было б — загадзя, яшчэ да ўчынення тэракта прабачыць і праз таблоіды пра гэткі чалавекалюбны жэст усяму свету распавесці.

Часам грубаваты, але заўсёды дасціпны святар Дзмітры Смірноў умее агарошыць верніка адказам:

1

Жанчына: «Падчас пажару, бацюхна, абгарэла ў нас у хаце ікона. Што б гэта магло значыць?»

Святар: «А тое, што ў вас у хаце маецца праблема з супрацьпажарнаю бяспекай».

Жанчына: «І ўсё?»

Святар: «А што, гэтага хіба мала?»

2

Жанчына: «Вучу ўнучку маліцца, а дачка мая, маці дзяўчынкі, прыходзіць потым да мяне ў хату і дурніцаю за гэта называе. Што рабіць, бацюхна?»

Святар: «Не адчыняйце дачцэ дзвярэй».

Жанчына: «Дык яна патэлефануе».

Святар: «Не адгукайцеся. І нумар тэлефона як хутчэй памяняйце».

Падчас карэктарства ва ўніверсітэцкім выдавецтве больш за ўсё здзіўлялі падабенствам зместу навуковыя даследаванні філасофаў. І найперш — трафарэтнасцю ў пераліку постацяў знакамітых папярэднікаў. Гайдэгер, Кіркегар, Шапенгаўэр, Артэга-і-Гасэт, Дэрыда, Дэлёз — джэнтльменскі набор прозвішчаў, без якога, трэба меркаваць, і філосаф не філосаф. Тое самае, што літаратуразнаўца без Кафкі, Набокава або Джойса ў якасці гуру. Ці сучасны віцебскі культуролаг без Малевіча альбо Шагала на кончыку пяра.

Восень. Буслы ўжо адляцелі ў вырай, але адзін, з паламаным крылом, не даў рады паляцець з суродзічамі, застаўся пры родных палетках. Худы — дзюба ды пер'е, бачна, што не жылец. Млява корпаецца ў траве наўзбоч дарогі, вышуквае хоць якога-небудзь харчу.

Побач — сціртa з саломаю, а на сціртe — коршак. Сядзіць, вычэквае, калі ж і яму ад шчадротаў прыроды, нарэшце, перападзе.

Пры любым надвор'і, пры любой кан'юнктуры слушнае, ад празмернага дбання пра самыя раз'еўрапейскія, разагульначалавечыя каштоўнасці вольнае — выказванне скульптара Эрнста Неізвеснага: «Заплечных спраў майстар можа і падсезаньваць, і падхэмінгуэйваць, і падкафкваць — без шкоды для ідэалогіі». Крыху, мабыць, недакладна, лепшы было б: «галоўнае, каб без шкоды для...». Тады ўжо — стоадсоткава бяспечна.

Хацела жанчына ўзяць 80-гадовую бяздзетную сястру, гэткую ж, як і сама, удаву, толькі на два дзясяткі гадоў маладзейшую, у горад, ды тая не згадзілася. Маўляў, звязеш адсюль, а потым у гэным горадзе на чужых кладах і пахаваеш. А мне гэтак не цікава. Я тут, паблізу роднае хаты, побач з мужам-нябожчыкам хачу легчы.

Кінула жанчына часова ў горадзе кватэру, паехала ў вёску даглядаць нямоглую старую.

Год пражылі сёстры разам у хаце, два. Абедзве стаміліся, але маладзейшая відавочна больш, хоць выгляду не падае. І ўсё-такі аднойчы не вытрывала, прагаварылася суседцы пра ў глыбоканькім спраце душы на дне прыхаванае. «А ведаеш, што, мабыць, самае кепскае на свеце? Здагадвацца, што, калі нават і любяць цябе моцна, і шкадуюць, а смерці тваёй усё адно — чакаюць».

Канцэнтрацыя трагедыйнасці паведамлення ў стужцы Агенцтва навінаў ад 28 верасня 2017 года амаль такая ж, як магла б быць, напрыклад, у абвестцы пра пачатак вайны. «Трагічная навіна з Лос-Анджэлеса. Спачыў заснавальнік і шэф-рэдактар часопіса «Плэйбой» Х'ю Хефнер. Яму быў 91 год...»

Здаецца, дарога як дарога ля таго патанулага ў хмызе, напалову спусцелага, звыклага да непамыснотаў вясковага жыцця Александрова. Ну, патрэсвае крыху, пакалыхвае аўтобус, ды што тое ўсё ў параўнанні са спярэшчанай рытвінамі і ямамі дарогаю даўжынёю ў сем вёрстаў да школы ў дзяцінстве?

Гарадскія спадарожнікі, нязвыклыя да такіх нязручнасцяў, круцяць насамі, моршчацца: маўляў, якое нядбальства. І паспрабуй ім давесці, што аграмністая плошча Перамогі, што на грошы ад пабораў з сельскіх раёнаў у абласным цэнтры ўладжаная, — ані не меншае ўвасабленне нядбальства, як гэтая недагледжаная, да якой нікому, падобна, няма і не будзе ўжо ніколі справы, дарога наўзбоч Александрова.



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# Вусны партрэт з лятучымі ценямі

***

Яны прыехалі. Марыя выйшла, на хвіліну спынілася, быццам рыхтуючыся перад выхадам на сцэну, на людзі, і пайшла насустрач. У абедзвюх руках яна трымала кветкі ў такім звычайным, з крамы, кашпо. Несла іх быццам вясельны букет, як дзіця, урачыста й цнатліва. Кветкі былі белыя, хрызантэмы. Але праз некаторы час, праз некалькі дзён пасля сустрэчы я заўважыла, што яны сталі трох колераў. Я вельмі здзівілася, мне падалося, што, пабыўшы ў руках мастачкі, яны прыдбалі колер, адбылося нешта магічнае, таму што я добра памятаю: яны былі чыста белыя!

Яна сядзела за сталом, гаварыла мала і толькі сказала, можа, самае каштоўнае ў канцы палудня:

— Я адчуваю сябе, нарэшце, у сваёй талерцы. Са мной даўно такога не было.

Нічога не пыталася, амаль не ўдзельнічала ў размове на словах, але ейная поза, складзеныя рукі, погляды раз-пораз на каго-небудзь, хто гаварыў ці нешта расказваў, былі шматзначнымі. Было відаць, што яна з намі.

Мне ўспамінаецца, як мы ездзілі да яе купляць карціны, да яе дамоў. Гэта была зусім іншая жанчына. Нехта з нас загаварыў пра адзіноту, як з ёй змагацца і ці трэба? Яна сказала, што ёй ніколі не бывае сумна. Мне падалося, што яна не ўпэўнена ў гэтым. І калі яна так гаворыць і так мяркуе, тым больш што нават калі ад'язджаў куды-небудзь на выставы муж, яна адчувала яго, нібыта ён быў паўсюль. Яна дыхала ім. Ён быў у паветры, быў усюды, дзе яна знаходзілася, яна так і сказала: «Я чамусьці ўвесь час бачу яго хлапчуком у снах. Чамусьці заўсёды вельмі клапачуся аб ім».

Мы хадзілі па ейным садзе, незаўважна яна аддалялася ад нас, калі мы ішлі ўперад, яна нейдзе затрымлівалася і стаяла, быццам яе наогул не было. Потым зноў з'яўлялася. У нечым звычайным апранута, у хатнім. Мы падыходзілі да майстэрні, якая знаходзілася ў другім месцы, і яе гублялі. Потым у паветры неспадзявана вырысоўвалася, узнікала ў нечаканым месцы, таксама як і ў садзе, без ніякага ўдзелу. Гэтаксама было, калі мы былі ў доме і глядзелі карціны. Яна паказвала, падавала, прыносіла, мы нешта пыталіся. Сама яна ў гэтым абмеркаванні амаль не ўдзельнічала. І здавалася, ніякага кантакту не адбылося. Нам падабаліся карціны, мы разлічваліся. Мы дзякавалі, бо купілі тое, што нам хацелася, і раптам у мяне з'явілася жаданне застацца тут, менавіта на другім паверсе, там, дзе было шмат яе работ. Застацца, паслацца на падлозе і заначаваць. Я не магла сабе растлумачыць той пожад. Было пачуццё, што не нагаварыўшыся з мастачкай, ні аб чым сур'ёзна не распытаўшы яе, хацелася набыцца, даставаць і даставаць падрамнікі, узірацца, разглядаць, каб нешта зразумець аб ёй самой. Так мы заўсёды не адразу, няспешна адыходзім ад ручая, напіўшыся…

Калі ўжо полудзень у нашым доме закончыўся, яна ўстала з-за стала. Чырвоная блюзка на ёй была, мне здаецца, завушніцы таксама чырвоныя. Мне падалося, скрануліся завушніцы, і ў ёй, можна сказаць, бліснула нешта іспанскае. Нешта свавольнае, яно то з'яўлялася, то гасла, быццам усё гэта было ў ейных руках, яна магла гэта сабе дазволіць — і тым самым адразу схавацца.

Мы развіталіся і гаварылі мала слоў. І ўжо адыходзячы да машыны, яна раптам валадарна, як уладычыца, павярнулася і сказала: «Я за вас спакойная. У вас усё будзе добра».

Я нічога не магла адказаць, усюды запанавала ціша, як у вакууме.

Гэта было так нечакана, так па-боску, як благаслаўленне, і я першы раз у жыцці адчула, што такое талент, хто такая таленавітая жанчына! У Італіі яе называлі «каралевай нацюрморту», а ў мяне засталося ўражанне, падобнае да боства. Багавіца з іншых зямель, мне невядомых.



Фота www.outdoorpainter.com

***

Нядаўна я пазнаёмілася з Тацянай Гаранскай.

Спынілася машына. Таня села да нас на заднім месцы ў нечым светлым, белым, запомнілася блюзка дробнымі фальбонамі. Уражанне было, што мы пасадзілі птушку гаманкую, гаваркую, што мы яе злавілі ў рукі, яна трапяталася, увесь час нешта, хвалюючыся, гаварыла, распавядала. Здавалася, што калі адчыніш дзверцы, яна вылеціць, не сыйдзе з машыны, а проста выпырхне і пачне распраўляць свае пёркі. Не памятаю, каб нехта хацеў патрапіць, спрабаваў нешта ёй адказваць, і яна яму нешта казала. Яна гаварыла сама па сабе. Пазней я зразумею, што Таня ўжо некалькі гадоў сама сябе як бы замаўляе пасля смерці любімага мужа.

Цікава было тое, пасля таго, як яна была ўжо на зямлі, калі мы прыехалі да вядомых мастакоў. О! Гэта было ейнае асяроддзе! Яна хадзіла, лётала назад- наперад па майстэрні. Зноў гаварыла, гаварыла, шчабятала, хадзіла ад адной карціны да другой, дзясятай, — і здавалася, што яна сама гэтыя карціны намалявала! І яна ўсё запрашала, усіх запрашала пасядзець, пагаварыць. Увесь час звярталася, увесь час звязвала ўсіх нас, счапляла. Ёй хацелася гаворкі, размовы, шчэбету, уражанняў. Калі ў чарговы раз яна нешта распавядала нам пра свае выставы, пра свае пленэры, якія робіць, мне здаецца, для кожнага, не зважаючы, ці меў ён калі-небудзь імя, ці ведаў яго хто-небудзь пры жыцці, ці шанавалі, акрамя сяброў. Мне здавалася, яна трымае ў руках, як абраз, фотаздымак ужо даўно забытага мастака і няспешна нясе яго праз увесь горад, нібыта робячы яму выставу. Ёй хацелася, каб кожны быў на памяці, яна вельмі блізка ведае, што такое стварыць на палатне свой свет (муж быў мастак)!

**Для мяне мастак заўсёды быў нечым асаблівым, асабовым, нешта такое... Я зайздросціла таму, хто ўмеў маляваць, і цяпер, калі я губляла зрок, я разумела, што марыць пра маляванне ўжо не змагу...**

Так я і бачу яе: яна стаіць, нешта распавядае — і такое намаганне: саступае з нагі на нагу, пераступае на пальчыкі, зноў вяртаецца на пятку, зноў на пальчыкі. І ўвесь час неяк падаецца ўперад, хочучы, каб яе ўсе зразумелі і пачулі, а на самой справе — яе карцела патрэба, яна рыхтуецца ўзляцець! Яна пільнуе вецер — у які бок яе панясе, на клады даўно забытага мастака ці на яго выставу.

Толькі трэба было адчыніць ёй акно.

Яна ўжо распраствала крылле.

***

Мне спадабалася паштоўка з карцінай Мадзільяні, і я захацела атрымаць яе копію. Я ўбачыла дом, падобны на крэпасць, я адчула ягоны лёс. Дом стаяў на беразе вялікай вады, буйныя кроплі на сценах, як на целе ад напружання ці ад хваравітасці, а магчыма, гэта была проста марская вільгаць. Каля падножжа ўжо падымаўся мох, спрабаваўся падняцца. Здавалася, што дом пусты, што ён нежылы, але нечакана заўважаеш яшчэ жывое, ружаватае адценне на сцяне, магчыма, ад сонца, ці гэта ўнутранае святло? Адразу здагадваешся, што дом яшчэ жывы. Магчыма, яму вельмі цяжка, яму надакучыла стаяць на гэтым месцы. І яму захацелася сысці туды, дзе сушэй. Відаць сходкі і сцежку. Сходкі то падымаліся, то апускаліся ўніз. Шыбы ў акне не блішчэлі, не было відаць зрэнак. Цёмнае, цёмнае акно. Настолькі дом быў падобны на старога чалавека, які ўжо нажыўся, але ў той жа час нейкая згадка, нейкая вестка была з акна, з лесвіцы, з дзвярэй наверсе, што ён яшчэ хацеў жыць. Поруч стаяла дрэва, і нікога нідзе не было. І чалавека ўбачыць немагчыма. Дом жыў сам па сабе. А дрэва побач, быццам адзіны яго сусед. Так заўсёды: мы садзім дрэва ля дома. Дзеля чаго? Мне здаецца, што гэтае дрэва патрэбна не толькі чалавеку, а менавіта самой хаце, самому дому, самой крэпасці, каб пада́ць знак, што ён жывы, што ён не адзінокі. Мне захацелася мець копію гэтага дома. І праз вулачку выдавалася плячо суседняга дома, таксама стромкага, цяжкога, каменнага, так хацелася ўбачыць, што гэта за ён? Але гэта было немагчыма, трэба было толькі прыдумаць. Мне захацелася мець гэты дом-крэпасць, захацелася атрымаць копію. Я замовіла яе знаёмаму мастаку, якога мне рэкамендавалі як добрага капіроўшчыка, зрабіць гэтую работу.

І ён прынёс. Я была ў шоку, у мяне адабрала мову, я анямела. Мне здавалася, што я нападу на яго, як робяць дзікія людзі ці лучнікі, што найперш мая прырода змушвае — ухапіцца за стралу! Там стаяў зусім інакшы дом. Там быў фанерны. Такія робяць звычайна кіншчыкі, а потым разбіраюць пасля здымак, адным пальцам разбураюць. Я паспрабавала супакоіцца і патлумачыць яму, але ён не разумеў. І тое, што ён не разумеў, што змярцвіў дом, ён пачаў тлумачыць, злавацца, маўляў, можна зрабіць і так і гэтак. Я казала, што нас тут трое. «Хто трэці?» — пытаўся ён.

– Нас двое і Мадзільяні! Ты не маеш права яго перапісаць, ты ня можаш змярцвіць гэты дом. Ты ня меў такога права!

Я кідалася раз'юшана, не пазнаючы самую сябе. Для мяне мастак заўсёды быў нечым асаблівым, асабовым, нешта такое… Я зайздросціла таму, хто ўмеў маляваць, і цяпер, калі я губляла зрок, я разумела, што марыць пра маляванне ўжо не змагу…

Мы разышліся. Мы не пасварыліся, мы разышліся назаўсёды.

Аж нечакана зноў аказаліся ў адной кампаніі. Ён сядзеў насупраць, на ім была новая кашуля, але надзетая як не сваімі рукамі, быццам яго нехта апранаў (не раўнуючы як нябожчыка). Ён сядзеў сівы, шмат гаварыў, як ніколі, я была насупраць, слухала, і мне гэта не перашкаджала, не псавала настрой. Я ўжо не памятала, што ён няўдалы капіроўшчык. Ён нечакана пастарэў, трапіў у кола маіх любімых людзей — дзяцей і старых, як бы яны ні выглядалі і што б яны ні рабілі. Я заўсёды іх шкадую — і тых і другіх.

Праз хвіліну-другую, ужо развітваючыся, ён падняўся першым з-за стала. На маёй талерцы яшчэ заставаўся дранік. Ён па-птушынаму лёгка, пікіруючы як вялікая птушка, схапіў гэты дранік і хуценька з'еў. І знік. У мяне было адчуванне, што, магчыма, для кагосьці ён паляцеў капіраваць непаўторнага Шагала…

Я сядзела і адчувала даўно забытую блізкасць гэтага чалавека, якой у нас ніколі не было, быццам мы даўно елі з адной талеркі і карамілі адзін аднаго сваёй лыжкай!

2019

# Захавацца



Анатоль ІВАШЧАНКА

* * *

*горад — суцэльны корак
горад — сапраўдны хорар
горад завецца Гамора
горад завецца Мордар
горад канае ад смагі
горад — логава Смаўга
горад атручаны смогам
горад хаваецца ў змроку
горад тоне ў мане
ў быкаўскім тумане́
ў кінгаўскім тумане́
у тумане Манэ
горад зрывае голас
горад галёкае: гооолем
тут хаваецца голум
тут гаспадарыць гоблін
гораду сняцца горы
горад чытае Оруэла
горад-бярлог-пячора
фота ў вакне-маніторы
горад — скрынка Пандоры*

### Захавацца

***Ранкам 27-га дня чалавек
выйшаў з сябе.
Больш у сябе ён не вярнуўся.***

*Захавацца.
Дажыць да вясны.
Дагартаць
пералётныя сны*.
Дапаліць
недапалены золак.
Дапісаць
кулямётнае сола.
Перабіць
усе стрэлкі, парогі, паролі.
Даіграць
зненавідную ролю.
Выйсці вонкі
з сябе.
Й не вярнуцца
туды больш ніколі.*

* Назва нізкі вершаў Наталлі Русецкай

* * *

*Восень. Пісаць лісты.
Восень. Паліць масты.
Восень. Глядзець у прыцэл.
Восень. Baileys & дзэн.
Восень. Аб шыбы біцца.
Восень — бажніца ці шыбеніца?
Восень. Схавацца ў лісці.
Восень. Прасіць аб літасці.
Восень. Скрыпень ды Боб.
Восень. Лі Бо & Рэмбо.
Восень. Мёд ды імбір.
Восень. Віскі & Beer.
Восень. Паліць лісты.
Восень, сёстры й браты!*

### Прамова Б. Тарашкевіча

*«Да парадку, браты!
За фіранкамі самая поўнач.
У калюмнах пануе маўчаньне.
Устаньма ў ланцуг.
За фіранкамі ноч.
За дзьвярыма трывожна і цёмна...
Але сьветла у душах
і цёпла ад поціску рук.*

*Час ісьці, захаваўшы ў таемнасьці
нашу сустрэчу.
Разрываем ланцуг нашых рук,
але сэрцаў — ані.
Нас агорне смуга й цені горада
лягуць на плечы.
Ды ў паходнях вачэй не загаснуць
братэрства агні».*

*Пасля бяссонае Ночы
будзе вялікі Дзень.
Божа, расплюшчы нам вочы.
Божа, дазволь нам глядзець.*

**Вільня, 25.05.1919**

### Пра пачэсванне ПУЗа

*З юнацтва абвешчаныя геніяльнымі,
абвешаныя найвышэйшымі
ступенямі параўнання,
з непахіснаю вераю ў сваю
адметнасць,
нясуць яны свой Дар,
нібы хрустальны сасуд,
баючыся расплёскаць ці разбіць.
Здымаюць, друкуюць,
папулярызуюць,
атрымліваючы заслужаныя
ўзнагароды
за свой вялікі ўнёсак
у Нашую Агульную Справу.
І рухаюць, рухаюць, рухаюць
НАС наперад.
Калісьці, разам з залікоўкамі,
прыносілі яны выкладнікам
свае дэбютныя кнігі вершаў
з зарыфмаванымі аўтографамі.
(Дарэчы, пілі яны зусім не кефір,
адрозна ад жаданаўскіх
харошых маладых паэтаў).*

*Бязверныя, празмерна
недаверлівыя,
халодныя мізантропы
ды сацыяпаты,
назіраем за іх поспехамі,
за пачэсваннямі ПУЗ*.
Яны не сумняюцца ў святасці
свае місіі.*

*Назіраем.
Маўчым.
Увесь час сумняемся.*

* Пачуццё ўласнае значнасці.

### Кантрабас

*Калі знішчаны дашчэнту
ўвесь забугорны кантрабас —
кракаўскія кілбаскі,
віленскае вэнджанае сала,
слоічак харвацкіх аліваў,
апошні пачак аўстрыйскае кавы,
моцарткугель ды птушынае млечка...
Калі струшчаны пратэрмінаваны
кавалак дар-блю,
выпітая апошняя пляшка
д'ютыкаўскага егермайстра,
спаленая рэшта праскага абсэнту
(не кажучы пра слівовіцу
ды траварыцу)...
Калі шэнген скончыўся заўчора
й наступны
невядома калі прадбачыцца...
Тады —
агортвае разуменне поўнага
й беспаваротнага капца,
Які Is Coming.
Халоднае вечка цынкавага неба
насоўваецца,
адкрываючы падабенства
гэтага горада
з дамавінай.
Снег, што густа абклаў наваколле,
набывае абрысы кратаў.
Бессэнсоўнасць кідання вершаў
на вецер
афармляецца ў аксіёму...
Тады разумееш,
колькі ж дзівосных месяцаў
ты яшчэ не наведаў
у сваёй роднай Сінявокай!*

### чорная сутра

*той хто змог убачыць сябе
па-за сабой
наўрад ці павядзецца
на танныя коміксы
пра планету як вязніцу
і канвой з анёла-ахоўніка
за спінай.
той хто меў патрыманую
«бэху»
ужо не перасядзе нат у новы
красовер
вытворчасці тальяцінскага
аўтазавода.
той хто кахаў каралеўну
ніколі не будзе жыць у законным
шлюбе
з надзіманай гумовай лялькай.*



Фота Зянона Пазняка

* * *

*пацягуўся па аловак
каб падкрэсліваць хібы
ў тваім зборніку вершаў
але збег ад мяне аловак
вyслізнуў з пальцаў
даў нырца пад канапу
толькі асадка ў зоне дасяжнасці
ды нататнік —
той самы
куды цяпер занатоўваю...
а мог жа перакрэмзаць
твой зборнік вершаў
пападкрэсліваць стылёвыя
неахайнасці
розную трасцу...
пашэнціла табе, даражэнькая,
гэтым разам*

### 37-е лета

*Пракрочвае міма мяне
трыццаць сёмае лета.
З-за плоту даносяцца спевы
безгалосых манкуртаў.
І вось мае крылы і воск,
а вось мая клетка.
Пад спеў гэты курчацца рэшткі
Летава, Цоя і Курта.*

*Гадую сваю бараду-бараду-бара-
ду ад дубару,
рудую сваю бараду
гадую.
Струну нацягну
выйду з ступару і
прарасту сярод флуду.
Збудую сцяну,
дацягнуся да тых,
хто ў вежы жыве і не ве-
дае гэтага бруду.*

*Крочаць-крочаць паўз мае сны
партызанкі вясны
прадвесцем вайны.
Крочаць сляпыя кентаўры
з гітарамі
рок-дыназаўры прабоіны ў аўры.
Хочуць сурочыць
сусед караочыць,
як тут пераночыць
да заўтра?!
Вось мае крылы і воск
малітва і вось —
пагарда.*

*Гадую...*

### Mr. Flood

*містэр тамбурын
місіс рабінзон
капялюш стары
новы парасон
бедны маласэн
добры мапасан
мёртвы кім ір сэн
свежы круасан
вечны керуак
рэзрух у мазгах
шчэ радок і ў бан
хлопчык бананан
чакаляды смак
мандарыну пах
на каляды цуд
dear mister flood*

# Ленін мост



Мікола ІЛЬЮЧЫК

**Я не аднойчы бачыў той мост. Нават колькі разоў праязджаў праз яго, едучы ў бок Слуцка. Стаіць сабе, такі ахайны, дагледжаны і нават прывабны, калі так можна сказаць пра звычайнае «тыповае збудаванне».**

Аднойчы знаёмы кіроўца прамовіў няўзнак: «Неяк мы спыніліся адразу за Леніным мостам. Там яшчэ такі добры пляц на ўзбочы, адстойнік для дальнабояў». Ён удакладніў, паміж якімі населенымі пунктамі той мост знаходзіцца, і дадаў: «Ну што ты, хіба не ведаеш? Сам жа колькі разоў там быў».

Быў-то быў, але мяне зацікавіла назва. Калгасы, вуліцы, бібліятэкі, нават гарады назвалі ў гонар правадыра пралетарыяту. Але каб мост! Дзіва нейкае! Увогуле не чуў такога, каб у нашай краіне масты мелі назву. Таму я быў здзіўлены і раззлаваны адначасова.

— Здурэлі зусім, мост у гонар Леніна назвалі!

— Ты што, які Ленін?! У гонар Ленкі, што яго будавала, — кіроўца гучна рассмяяўся з маёй недасведчанасці.

— Што яшчэ за Ленка?

— Алена Уладзіміраўна, яе маладым спецыялістам накіравалі ў наш трэст. Прыгожая была дзеўка, я табе кажу, халасцякам нашым спакою не было ад яе. Як мухі на мёд, ляцелі, умела прывабіць.

— А потым што, як склаўся яе лёс? Мост стаіць, а з ёю што?

— Ты ж не малы, павінен разумець, што ад вялікага кахання з'яўляюцца дзеці. Так і з ёю. Кахалі многія, а бацькам стаць ніхто не захацеў. Падгадавала яна сыночка да гадочка — і ўзнагародзіла старых, але яшчэ моцных бацькоў не ўнукам, а быццам бы сынам прыёмным. Але гэта так, людзям на языкі...

У наш трэст Ленка болей не вярнулася. Дзесьці ў райкаме пасада знайшлася, і пачала Алена Уладзіміраўна рухацца па партыйнай лесвіцы. Усё жыццё, як кажуць, на кіраўнічых пасадах. Дэпутаткай была. Я сам колькі разоў звяртаўся да яе, дапамагала па старой памяці, выручала, не адмовіла...

Мой суразмоўца яшчэ доўга агучваў нейкія падрабязнасці, але тая размова так і засталася проста шараговай балбатнёй ад нечага рабіць, каб толькі змарнаваць час. Але праз колькі гадоў мне давялося ўзгадаць пра тую размову.

Неяк на адной калялітаратурнай тусоўцы ў гарадской бібліятэцы суседняга райцэнтра заўважыў жанчыну ўжо сталага веку, але яшчэ з нястрачанымі прывабнымі рысамі. Яна і ў такім узросце была прыгожай і дзесьці нават шыкоўнай. Вечарына скончылася, і яна сама падышла да мяне, сказала, што чытала мае творы, і выказала жаданне набыць маю кнігу.

— Каму падпісваць? — пацікавіўся я.

— Алене Уладзіміраўне, — ціха прамовіла мая прыхільніца і назвала прозвішча.

Мяне быццам токам працяла. Ці можа быць такое супадзенне? Але як запытацца, каб не пакрыўдзіць?

— Алена Уладзіміраўна, а хто вы па адукацыі і адкуль такая цікавасць да літаратуры?

— Літаратуру люблю, і не толькі яе. Увогуле, я бываю амаль на ўсіх культурных мерапрыемствах, што ладзяцца ў нашым горадзе. Адукацыя мая далёкая ад усяго гэтага, я інжынер-дарожнік. Будавала масты, дарогі...

— Прабачце, а Ленін мост на Слуцкай шашы — ваша работа?

— Мая, — Алена Уладзіміраўна няёмка ўсміхнулася, — хлопцы з нашага трэсту жартаўнікі былі яшчэ тыя, вось і прычапілася тое «Ленін»...

Праз нейкі час мы сустрэліся яшчэ. Былі тэлефонныя размовы і сталае ліставанне. Потым нашы стасункі сталі прыяцельскімі і нават сяброўскімі.

Потым адбылася неспадзяванка. Прычым непрыемная. Алена Уладзіміраўна захварэла. Цяжкая хвароба прывяла яе да своеасаблівага ступару. Доўга не было ані тэлефанаванняў, ані лістоў. Але аднойчы я з задавальненнем дастаў з паштовай скрынкі капэрту са знаёмым почыркам. Алена Уладзіміраўна, хоць была досыць эмацыйным чалавекам, вельмі стрымана напісала пра ўласную хваробу і прасіла прыехаць. У бліжэйшы выхадны мы сустрэліся.

— Ведаеш, Колечка, у мяне няма нікога бліжэйшага за цябе. Стрыечны брат далёка, сястра, таксама стрыечная, яшчэ далей. Ды ім няма ніякай справы да мяне, бо, кажучы шчыра, і мне да іх ніколі не было ніякай цікавасці. А той, прыёмны, што гадавалі бацькі, быццам з глузду з'ехаў. Не хочу нават узгадваць... У мяне просьба да цябе.

— Якая?

— Паедзь, калі ласка, са мной у бальніцу, так трэба. Ты ж не адмовіш жанчыне?

— Чаму б не? Калі трэба, то трэба.

Праз паўгадзіны мы былі на месцы. Сумныя людзі ў бальнічным калідоры выглядалі прыгнечана. У ардынатарскай сядзеў маладжавы доктар.

— О, Алена Уладзіміраўна, вітаю. Што здарылася? Вы да мяне сёння без запрашэння, — анколаг шчыра ўсміхнуўся.

— Прывітанне, Іван Іванавіч! Я да вас з сур'ёзнай справай. Я прашу, калі ласка, пазначце імя і прозвішча гэтага чалавека, а таксама ягоны нумар тэлефона. Гэта самы блізкі мне чалавек, мы даўно сябруем. Калі са мной здарыцца нейкая неспадзяванка, то вы будзеце ведаць, каму патэлефанаваць.

— Але ж, Алена Уладзіміраўна, я павінен ведаць, ці сам ён згодны на такое. Не падзяляю і вашага песімізму, бо лячэнне вашае ідзе досыць паспяхова...

— Не, я не супраць, — больш чым стрымана адзначыў я.

Мы развіталіся з доктарам і паехалі дадому да Алены Уладзіміраўны. Сядзелі на кухні, пілі гарбату і размаўлялі. У асноўным гаварыла яна пра сваю сумную будучыню. Алена Уладзіміраўна запэўнівала, што яна падрыхтаваная да ўсяго, і грошай хопіць і на труну, і на памінальны стол, і на помнік.

Наступным разам прапанавала з'ездзіць на могілкі, каб паказаць месца, што падрыхтавала загадзя, побач з бацькамі-нябожчыкамі, што сыйшлі ў лепшы свет з дзясятак гадоў таму.

— Алена Уладзіміраўна, можа, хопіць гэтых размоў? Доктар сказаў: хвароба ваша вылечная, і ўсё будзе добра. І я ўпэўнены ў гэтым.

— Колечка, я ж не супраць. Няхай усё будзе так, як ты кажаш, але трэба быць абачлівым. Прабач, але прымі гэта як маленькі жаночы капрыз. Усё жыццё я дбала пра сябе сама і хачу быць падрыхтаванай літаральна да ўсяго.

— Але чаму я павінен усё гэта выслухоўваць?

— З мужчынамі мне ніколі не шанцавала, бадай што, акрамя цябе, — яна ўсміхнулася.

— Не крыўдуй, гэта проста сяброўская просьба. А сцэнар я дашлю табе пазней.

— Які яшчэ сцэнар?

І сапраўды, не прайшло і тыдня, і ліст ад яе я ўсё ж атрымаў. Узяўшы ў рукі тоўстую, з мноствам марак, капэрту, здагадаўся, што там менавіта той абяцаны сцэнар. З дзясятак лістоў, з абодвух бакоў спісаных дробным почыркам, патрэбна было прачытаць не тэрмінова, але цікаўнасць узяла верх: пачаў чытаць адразу.

Алена Уладзіміраўна даслала сцэнар уласнага пахавання.

**Выдаткуйце хоць невялікую частку з таго, што ў вас ёсць, на лекі, на вітаміны, паедзьце на адпачынак у рэшце рэшт. Нельга ж так жыць, каб кожны дзень думаць пра пахаванне, каб яно было не горшым, чым у людзей. А калі і горшым, то што з таго?**

Усё пачыналася з вопраткі, якую яна прыгатавала загадзя. Было пазначана, дзе ляжыць той клуначак, што сабрала ў сваю апошнюю зямную дарогу. Нават паклапацілася пра ўпрыгожванні.

Далей у лісце змяшчаўся спіс людзей, дарэчы, досыць вялікі. Гэта тыя людзі, якім патрэбна было паведаміць, што яе (для некага — Алены, для некага — Алены Уладзіміраўны, а для некага, не гледзячы на ўзрост, — проста Лены) больш няма на гэтым свеце. У паведамленні патрэбна абазначыць чысло і час пахавання. Насупраць кожнага імя быў пазначаны кантактны нумар тэлефона.

Алена Уладзіміраўна паведамляла, што ў кафэ, недалёка ад яе дома, можна зрабіць памінальны стол для вышэйазначаных асоб. «Грошай хопіць, на ўсё хопіць, — пісала яна, заканчваючы гэтым выразам амаль кожны абзац, — не хвалюйся».

Далей у сваім лісце Алена Уладзіміраўна паведамляла, што наведала некалькі рытуальных кантор, нагледзела труну, добрую і не надта дарагую. Тут жа быў пазначаны адрас і тэлефон фірмы, што займаецца такімі спецыфічнымі паслугамі.

Апошнія рэкамендацыі і пажаданні былі наконт святара. «Хоць я і камуністкай была, але ж аркестры ў наш час — гэта маветон, — пісала Алена Уладзіміраўна, — паклічце нейкага папа, за невялікія грошы адпяе, і будзе ўсё, як у людзей».

Усё, што яшчэ не напісана ў гэтым лісце, Алена Уладзіміраўна абяцала давесці пры сустрэчы. Што яшчэ? Што там яшчэ можа быць, калі нават час ад'езду рытуальнага аўтобуса пазначаны, засталося толькі дату ўставіць! Вось дык падыход! Мне было і смешна з такой абачлівасці, і сумна ад таго, што чалавек псуе сабе астатак жыцця, замест таго, каб проста жыць і насалоджвацца кожным адмераным днём. Але я пры чым? Навошта мне гэта ўсё?

Адказы на мае пытанні дала сустрэча, што адбылася напрыканцы сакавіка. Алена Уладзіміраўна патэлефанавала і запыталася, ці магу прывезці ёй бярозавіку, хоць бы літраў з дзесяць. Чаму б не?! Паставіў у легкавік біклагу на сорак літраў і паехаў, прыхапіўшы той шэдэўр эпісталярнага жанру ў таўсматай капэрце.

— Ой, Колечка, навошта так многа бярозавіку прывёз, мне да канца жыцця столькі не выпіць, — замест прывітання прамовіла Алена Уладзіміраўна.

— Вып'еце, куды вы падзенецеся! Наступным годам зноў прывязу. Калі трэба, то кожную вясну буду вам яго вазіць.

— Але што ты кажаш такое? Ты што, не атрымаў мойго ліста?

— Атрымаў, Алена Уладзіміраўна, дурнота ўсё тое, што вы там напісалі.

— Як ты можаш такое казаць, я такая хворая, а ты яшчэ кпіш з мяне!

— Не вам вырашаць час зыходу. Не дадзена ведаць ні вам, ні мне, ні каму іншаму з людзей. А хвароба ваша не да сконы. Жыць будзеце, і не мала. Я гэта дакладна ведаю. І паперы вашы... вось яны, парвіце на дробныя шматкі і выкіньце ў сметніцу.

— Колечка, але ты адзіны чалавек, якому я давяраю. Я ж думала, што менавіта ты паклапоцішся пра мяне тады, калі я сама нічога ўжо не змагу для сябе зрабіць. Глядзі, грошы ў мяне ёсць. На ўсё хопіць.

Яна дастала з шафы нейкія паперы, кінула стос на стол. Пакорпалася ў паліцах і дастала таўсматы пакунак наяўных. Грошы былі перавязаны яркай стужкай.

— Вось, гэта валютны ўклад у адным банку, — яна нервова перабірала нейкія цэтлікі, — гэта ў другім, а гэта ў нашых грашах. А тут бачыш, колькі?..

— Але ж хвароба ваша лечыцца. Лепш выдаткуйце хоць невялікую частку з таго, што ў вас ёсць, на лекі, на вітаміны, паедзьце на адпачынак у рэшце рэшт. Нельга ж так жыць, каб кожны дзень думаць пра пахаванне, каб яно было не горшым, чым у людзей. А калі і горшым, то што з таго? І чаму для вас важнае меркаванне нейкіх там абстрактных людзей? Прабачце, але ці часта вы лічыліся з меркаваннем людзей, калі проста жылі, недзе вучыліся, працавалі?

— О, тады я жыла! Асабліва ў той час, калі перастала будаваць масты. У мяне такія сувязі былі, такія знаёмствы. Любое пытанне магла вырашыць па адным званку! Словам, «блатняк». Дарэчы, ты ж абяцаў мяне на могілкі звазіць. Я павінна табе месца паказаць, заадно і да бацькоў загляну. Два гады там не была. Там даўно не хаваюць, але ж некалі «па блату» аслупавала месца і для іх, і для сябе. Праўда, там была адна брыдкая гісторыя, потым раскажу. Дык што, паедзем?

— Паедзем, — без асаблівага імпэту вымавіў я.

На старых гарадскіх могілках ані душы. Я ездзіў па адным прагале, па другім, а яна ўсё не магла дакладна вызначыць, дзе знаходзіцца тая мясціна. Відаць, і сапраўды даўно не была, сцерлася з памяці. Потым папрасіла спыніцца.

— Ідзі, нешта пакажу, — яна падвяла мяне да нейкага, на мой погляд, неймаверна дарагога помніка, — хачу такі, замовіш для мяне?

— Алена Уладзіміраўна, гэта цэлая скульптурная кампазіцыя, я нават не магу ўявіць, пра якую суму тут можа ісці гаворка.

— Не турбуйся, у мяне на ўсё хопіць! Далей пехатой пойдзем. Я зразумела, дзе мы, адсюль ужо недалёка.

Яшчэ досыць халодны вясновы вецер нехаця калыхаў голле рэдкай расліннасці. Каменне і штучныя кветкі як напамін, што тут няма месца для жыцця, наводзілі на сум. Але раптам недзе ў гары гучна заспявалі птушкі: вясна ўсё ж, як-ніяк.

— Вось мае тата і мама. А гэта месца для мяне, — яна паказала на вольную дзялянку. — Добра тут, ты згодзен?

Я паглядзеў на лапік паміж магіл. Чатырохкутнік з аселай глебай сярод зеляніны навёў на думку, што тут раней ужо была магіла. Са здзіўленнем пагледзеў на Алену Уладзіміраўну, і яна, не чакаючы маіх пытанняў, сама загаварыла.

— Бач, нахабнікі! Пайшла на пенсію, выпала з абоймы, думалі — усё, можна рабіць, што заўгодна. Занялі маё месца. Але я навучыла іх як след! Эксгумацыю зрабілі па рашэнні суда, я дамаглася. Яшчэ і грошы спагнала за нанесеную мне маральную шкоду... Мне прапаноўвалі іншае месца, нават некалькі, на выбар. Але я паказала ім, хто ёсць хто!

На зваротным шляху мы амаль не размаўлялі. Пра што


Фота www.ranak.by

гаварыць? Было непрыемна, што чалавек, які падрыхтаваў сцэнар уласнага пахавання, яшчэ здольны нешта некаму даказваць…

Праз тыдзень я атрымаў чарговы ліст. Алена Уладзіміраўна спрабавала нешта тлумачыць пра выпадак з могілкамі, пра суд. У нечым згаджалася са мной, у асноўным з тым, што людзям усё ж не дадзена ведаць пра дзень і час зыходу з зямлі. Але ж, сцвярджала Алена Уладзіміраўна, калі той сумны дзень надыдзе, то патрэбна, каб усё было не горш, чым у людзей. Да ліста быў прыкладзены новы спіс тых, каму варта паведаміць сумную навіну аб тым, што з жыцця пайшла Алена Уладзіміраўна. Дзіўна, але ў параўнанні з папярэднім ён быў скарочаны амаль на траціну. Мяркую, што другі сцэнар усё ж меў намер скараціць выдаткі.

Напрацягу некалькіх гадоў нашы зносіны адбываліся ў асноўным праз лісты, радзей па тэлефоне. Чамусьці мне не падабалася размаўляць з Аленай Уладзіміраўнай. Тым больш, што мабільнага ў яе не было, і я ведаў, у якую капейчыну вылятаюць нашы размовы. На лісты адказваць было мусова. Па магчымасці спрабаваў даваць ёй нейкія парады, але часцей усе мае намаганні былі дарэмнымі.

Алена Уладзіміраўна ачуняла ад хваробы, яе нават з уліку знялі. У кожным лісце паведамляла пра свае вандроўкі, пра экскурсіі, публікацыі ў мясцовай прэсе, пра сустрэчы з літаратарамі ды іншымі цікавымі людзьмі.

Я выказваў сваё шкадаванне з тае нагоды, што яна так і не вызначылася з канфесіяй. Але Алена Уладзіміраўна была катэгарычнай і сказала, што гэта для яе зусім не актуальна. Я нагадаў ёй старую прымаўку: «Як трывога, дык да Бога…». Але Алена Уладзіміраўна адказала нейкім не надта прыстойным жартам.

Потым было яшчэ некалькі сустрэч, але гэта не былі, як раней, сустрэчы сяброў ці аднадумцаў. Паміж намі ўзнікла пэўная дыстанцыя недаверу і стрыманасці. Але ж пры кожнай сустрэчы яна нястомна выказвала мне свае меркаванні па той жа непрыемнай тэме. Мне надакучыла выслухоўваць яе трызненне. Бязглуздзіца нейкая, не інакш. Але з павагі перад старасцю слухаў і нават запэўніваў сябе, што калі патрэбна будзе нешта такое рабіць, то мушу. Зраблю, куды ж я падзенуся…

Быў лютаўскі марозны надвячорак. Я вяртаўся з працы. У салоне машыны гучала лёгкая музыка. Па заснежанай дарозе зрэдку праязджалі сустрэчныя аўтамабілі, уздымаючы віхуры снегу. Гэта вымушала быць абачлівым.

Раптам патрабавальна азваўся тэлефон. Магчымасці спыніцца не было, і я вырашыў не браць слухаўку. Хто ведае, што там на заснежанай узбочыне? Лепш потым перазваню, падумаў я, але тэлефон скуголіў бесперапынна, патрабуючы адказу.

— Прывітанне, Міколка!

Гэта была Алена Уладзіміраўна, хоць голас быў зусім слабы. Можа, захварэла, а можа, проста сувязь недасканалая.

— Прывітанне, Алена Уладзіміраўна! Як вы? Што здарылася?

З папярэдняга досведу ведаючы, што размова не будзе кароткай, рызыкуючы мажлівасцю захраснуць тут надоўга, я з'ехаў на ўзбочыну. Звонку завываў вецер — правіла свой баль завіруха. Моцны віхор уздымаў клубы снегу і шпурляў на лабавое шкло.

— Колечка, я вырашыла пазваніць, бо, мабыць, больш не будзе ўжо такой магчымасці.

— Як так, Алена Уладзіміраўна? Што такое?

— Мабыць, гэта ўсё…

Я зразумеў, што маецца на ўвазе, і хацеў неяк падбадзёрыць яе, але патрэбных слоў не знайшлося, а яна працягвала гаварыць.

— Ляжу ўжо другі тыдзень, — я зразумеў, што кожнае вымаўленае слова даецца ёй з цяжкасцю, — але гэта не вяртанне старой хваробы, проста надыходзіць мой час. Я памятаю, як ты некалі казаў мне, што памру ад старасці. Гэта акурат тое…

— Але чаму вы не сказалі раней? Мы б прыехалі да вас, нечым дапамаглі, а можа, нават да сябе забралі б, вам жа догляд патрэбен. Паправіцеся яшчэ.

— Што сказаць… Мяне даглядаюць, нават добра даглядаюць. Сястра стрыечная з дачкою па чарзе сядзяць са мною. А што мне патрэбна? Вусны вадой намачыць. Ежы ніякай не бяру чацвёрты дзень. Мой жывот наадрэз адмовіўся ад харчавання. Колечка, і ты, і я ведаем, што гэта азначае. Але ты не думай, я нічога не баюся. Больш таго, я павінна сказаць табе нешта важнае, пакуль побач са мной няма нікога. Але паабяцай, што гэта застанецца толькі паміж намі…

— Абяцаю, кажыце.

— Ведаеш, недзе месяц таму я ўсё ж знайшла тых людзей.

— Якіх людзей?

— Я табе расказвала неяк пра месца на могілках, пра суд і ўсялякія непрыемныя рэчы…

— Так, я памятаю. І што?

— Яны мяне выслухалі і нават зразумелі. Мяркую, што прабачылі, бо пагадзіліся ўсё ж узяць грошы, якія я ім прапанавала, як кампенсацыю, за спагнанае судом.

— О, гэта сапраўды цудоўная навіна. Добра, што вы іх знайшлі і выбачыліся перад імі. Віншую, гэта сапраўдны ўчынак.

— Колечка, я і ў цябе хачу прасіць прабачэння.

— А ў мяне за што, Алена Уладзіміраўна? Мы ж з вамі ніколі не сварыліся…

— Не, хлопчык мой… Ты меў рацыю, і я цяпер гэта ведаю дакладна, не ты будзеш кіраваць тымі сумнымі справамі, што я табе некалі даручала. Знайшліся сваякі. Прабач, што так атрымалася.

— Алена Уладзіміраўна, якую палёгку вы мне зрабілі, каб вы толькі ведалі.

— Але паабяцай, Колечка, што ты прыедзеш, каб развітацца са мной назаўсёды, каб справадзіць мяне ў апошні шлях.

— Так, Алена Уладзіміраўна, я заўтра да вас прыеду!

— Не, не трэба. Прыедзеш потым. Можа, нешта і скажаш для людзей. А можа нехта з мясцовых літаратараў таксама добрае слоўца знойдзе для мяне: я любіла бываць на іх мерапрыемствах, падтрымлівала. Колечка, табе абавязкова паведамяць пра тое, прыедзеш?

— Алена Уладзіміраўна, ну і пытанні ў вас!.. — мне хацелася яе неяк падбадзёрыць, але слоў не знаходзілася.

І я, і яна дакладна разумелі, што гэта наша апошняя размова. Больш яна мне не пазвоніць і на маё тэлефанаванне не адкажа. Усе словы сказаныя, а цяпер яна хоча пачуць ад мяне адно толькі слова. Паўза зацягнулася.

— Колечка, прабач, калі што было не так, але я прашу: прыедзь. Вяртаецца мая пляменніца, больш не магу гаварыць.

— І вы мне прабачце, я прыеду, Алена Уладзіміраўна, я абавязкова прыеду!

У тэлефоне манатонна запіпкала. Добра, што я паспеў сказаць ёй гэтыя словы. Добра, што яна паспела іх пачуць.

Я ачомаўся ад холаду. Не ведаю, колькі часу я так сядзеў, але машына выстыла канчаткова. Пра нешта думаў, нешта ўзгадваў, нават плакаў ад шкадавання. Мабыць, развітальныя слёзы заўсёды дарэчы, асабліва калі развітанне назаўсёды. У такія моманты хочацца плакаць, але найчасцей слёзы ўтрымліваюцца нейкімі неймавернымі высілкамі. А тут ніхто не перашкаджаў, і мае слёзы бачыў хіба толькі снег, што біўся ў шыбу. Але ён нікому не раскажа. Вечаровы снег умее захоўваць таямніцы.

А роўна праз тыдзень, такім жа зімовым вечарам, зазваніў тэлефон. Жаночы голас без аніякіх эмоцый стрымана паведаміў: «Памерла Алена Уладзіміраўна, пахаванне адбудзецца заўтра».

Раніцай, з агромністым букетам барвовых ружаў, балазе кветкавы шапік на суседняй вуліцы, я падняўся ў кватэру нябожчыцы. Працяла дурная думка, што Алена Уладзіміраўна легла ў труну, каб усе толькі паглядзелі, ці добра яна выглядае. Бо выглядала сапраўды добра. Ёй пасавалі тыя ўборы і прыкрасы, што так дасціпна яна рыхтавала дзеля такога адказнага моманту. Ля труны сядзела нейкая жанчына ў чорным, а па кватэры снавалі яшчэ некалькі чалавек. Акрамя нябожчыцы я нікога не ведаў, таму кветкі нікому аддаваць не стаў, а паклаў у труну побач са штучнай лілеяй ненатуральнага кіслотнага колеру.

Стаяць ля труны ў атачэнні зусім незнаёмых людзей — справа не з прыемных. У двары, ля пад'езда, было неяк спакайней. Выглянула сонейка. Яно старалася, і з ледзяшоў, што віселі на ўскрайку даху, нават упала некалькі кропель. Пачалі збірацца суседзі і тыя, каму, я так мяркую, паведамілі згодна загадзя прыгатаванага спісу. Я падышоў да невялікай купкі тутэйшых літаратараў. Усё ж яны малайцы, што прыйшлі. Стаялі, размаўлялі ажно да таго часу, калі ў двор заехаў аўтобус-катафалк, якому наканавана было адвезці труну з нябожчыцай і людзей, што тут сабраліся, за горад, на могілкі.

Прайшло некалькі хвілін, і дзверы пад'езда з ляскам адчыніліся. Энергічная жанчына, тая, у чорным, што толькі што спакойна сядзела ля труны, гучна залямантавала:

— Дзе тыя грузчыкі, час труну выносіць, а яны лясы точаць! За што я ім толькі грошы плачу? Чаго стаіце?

Яна накіравала свой пранізлівы позірк у наш бок. Мясцовыя інтэлігенты толькі пакрыўджана паціскалі плячыма: маўляў, мы не тыя, за каго вы нас прынялі. Неўзабаве знайшліся тыя, каго шукалі, і дамавіну ўрэшце вынеслі з кватэры і паставілі ў аўтобус.

— Заходзьце, хто хоча на могілкі ехаць! — уладна загадала жанчына ў чорным. — Час ужо!

У аўтобус зайшло некалькі бабулек з ліку суседзяў Алены Уладзіміраўны. Я сеў у машыну і прыстроіўся за аўтобусам. За мною стаў яшчэ адзін аўтамабіль з нумарам не нашага рэгіёна. Калона з трох машын рушыла ў дарогу.

Святар — а гэта ён ехаў у апошнім аўто — пачаў адпяванне. Я мог бы і не звярнуць на гэта ніякай увагі, але пачуў ціхі голас бабулькі, што стаяла побач:

— Бач ты, не па-нашаму адпявае, нейкага чужога запрасілі.

— Можа, танней бярэ, вось і запрасілі аднекуль, — шэптам патлумачыла іншая.

— А гэтая, бач ты, раскамандавалася, нейкіх інтэлігентных хлопцаў грузчыкамі назвала, пакрыўдзіліся, відаць, нават на могілкі не паехалі, ніхто слова ніякага не скажа, а яна так хацела, каб гаварылі. Мне ўсё Аленка расказвала, планавала ўсё, гаротная, каб не горш чым у людзей.

— А можа, гэты мужчынка нешта скажа, я яго бачыла колькі разоў у Алены, і з жонкай быў, і з дзеткамі…

— Цішэй вы, бач, поп ужо на вас косіцца, перашкаджаеце яму, — азвалася трэцяя з бабулек.

Яе паслухалі, прыціхлі. А святар, тым часам скончыўшы сваю справу, загадаў развітвацца з целам. Развітанне было нядоўгім. Дамавіну зачынілі назаўсёды, і працаўнікі могілак спрытна завяршылі справу.

Усё скончана.

Я еду дамоў, выканаўшы слова, што даў Алене Уладзіміраўне.

***

Кіроўца агромністай машыны імчаў па шашы. Сёння ён узяў у рэйс сына-падлетка, які даўно марыў паехаць з татам і ледзьве дачакаўся надыходу летніх вакацый. Машына плаўна рухалася па гарачым асфальце, быццам не адчуваючы за спінай дзвюх дзясяткаў тон паклажы.

— Тата, а калі мы спынімся? Абед хутка, ты казаў, што пакажаш мне, як кіроўцы карыстаюцца газам пры разагрэве ежы.

— Спынімся, сынку, яшчэ кіламетраў з трыццаць. Праедзем Ленін мост, а там адмысловая пляцоўка ёсць.

— Які мост? Ленін?

— Ленін. Так мост называецца. Дзяўчыну так звалі, што той мост будавала…

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (160) | 27 снежня 2019 | № 48 (659) Новы час

# Прывітанне ад духу Раства…



Андрэй ХАДАНОВІЧ

* * *

*Кажуць, прадказанні — рэч няўдзячная,*
*пагатоў у вечар на Каляды…*
*Дармаедам ежа будзе смачная,*
*невукі пашыраць далягляды.*

*Шмат шчаслівых зробяцца багатымі,*
*шмат багатых зробяцца шчаслівымі.*
*Вадалівам — сябраваць з Блізнятамі,*
*Рыбам — не сварыцца з Вадалівамі.*

*Панна — у грамадстве запануе,*
*скорыць кансерватараў-байцоў.*
*Рáку лепей абмінаць піўную.*
*Фестываль адбудзецца ў Стральцоў.*

*Ворага свабоднае краіны*
*будуць мучыць сны пра Беларусь,*
*а крывіч адкажа, як павінны,*
*нечаканай рыфмай «ганарусь».*

*Гáдам стане сорамна, што гáды.*
*З лібералам вып'е патрыёт.*
*На Каляды — здарацца Каляды!*
*Новы год — настане ў Новы год!*

**Менск-Калядны**

*Скразняк гуляе пад шведрам.*
*Вагоны бліcчаць бакамі.*
*Зямля фліртуе з паветрам*
*і дражніцца цягнікамі.*

*Святло сядае на вейкі,*
*залоціць рэйкі ў іх гонцы —*
*і рэйкі ўпадаюць у рэйкі,*
*і сонца ўпадае ў сонца.*

*На шкле расцвітаюць рыбы*
*і кветкі плывуць наўкола,*
*калі ў вандроўныя шыбы*
*цалуе Святы Мікола.*

*З узораў, нібы цаглінак,*
*складаюцца лапы ялінак,*
*і хочаш руку прыкласці:*
*«Дай лапу, ёлка, на шчасце!»*

*Ідуць па вагонах пешкі*
*шчаслівыя калядоўшчыкі,*
*нібы настаўніку вершыкі*
*расказваюць каля дошкі.*

*Шыбуюць, гонячы стому,*
*нібыта чакалі нагоды*
*вярнуцца здалёк дадому*
*на святы ці на-*
*заўсёды.*

*З каханымі і сам-насам,*
*звычайным і бізнэс-класам,*
*туды, дзе ў небе гірлянды*
*над станцыяй Менск-Калядны, —*

*імкнуцца мужна і мудра,*
*як воі добрае волі…*
*Настаўнік смяецца ў футра:*
*галоўнае вучні засвоілі.*

* * *

*Надышло трыццаць першага снежня.*
*Новы год адзначаем? Канешне.*

*У кватэры — далёка да раю,*
*дзікі вэрхал і лямант адчайны.*
*Тата енчыць: «Дэдлайны! Дэдлайны!»*
*Мама ў крык: «Прыбірай!»*
*Прыбіраю.*

*— Смецце выкіні!*
*— Слухаю, бос!*



Малюнак www.humanproject.com

*Потым тата бярэ пыласос.*
*Уключыў — і ўсяго за хвілінку*
*заганяе ката на ялінку.*

*У сацсетках — калядныя вершыкі.*
*У суседзяў — разборкі і спеў.*
*Усё менш да канца трыццаць першага.*
*Усё болей, чаго не паспеў.*

*Сеў пісаць — не грузілася пошта.*
*Бег па хлеб — не ўлічыў галалёду.*
*Не паспеў! А куды? І навошта?*
*Адкладзём да наступнага году.*

*А пад вечар збіраюцца ўсе.*
*Хтосьці кнігу (стол-кнігу) нясе.*
*Хтосьці ставіць у цэнтр стала*
*пляшку міра, бутэльку святла.*

*За акном — навагодні салют.*
*На экране — то цар, то вярблюд.*
*Мандарынкі. Карыца. Халва.*
*Прывітанне ад духу Раства…*

*Хтось за вокнамі горла дзярэ.*
*Хтосьці сані спыніў на дварэ.*
*Новы ранак прылёг на зямлю.*
*Спіце, родныя. Я вас люблю.*

**Робат**

*Вершаскладальнік-робат у музеі*
*працуе для дарослых і дзяцей.*
*Стварае на замову й не барзее*
*па вершы на хвіліну — і часцей.*

*Не патрабуе прэмій, нават лайкаў,*
*на злосны здзек адказвае дабром:*
*замовяць штось на «Х» — напіша хайку,*
*папросяць штось на «Б» — напіша байку,*
*націснуць «П» — напіша паліндром.*

*Змайструе віншаванне — Merry Christmas! —*
*з каляднай зоркай і зямлёй святой…*
*А што ў цябе, лайдак? Застой і крызіс,*
*застой і крызіс, крызіс і застой!*

*Жывы паэт гарэлку п'е і паліць,*
*радок накрэмзаў — плача, як дзіця.*
*І школьнікам, якім вучыць на памяць,*
*высакародна не псуе жыцця.*

* * *

*Старая скрыпáчка ў парку зайграла*
*Догу.*
*Пенсіянер-кампазітар гаворыць догу:*
*«Паслухай, як файна!*
*А памятаеш часы,*
*калі вось такія смаркачкі*
*не ведалі вечнай красы?»*
*А дог у адказ:*
*«Хто ведае, чым ёсць краса?*
*Ты рос на «Сабачым вальсе»,*
*а гэта папса.*
*Мне хутка паўгода, я слухаю Баха,*
*прабач…»*
*Скрыпáчка ўлезла ў размову:*
*«Сам ты смаркач!»*

*І ўсё, што адбудзецца потым,*
*адвеку вядома.*
*Героі пасварацца й вернуцца*
*разам дадому.*
*Іх дог падзякуе Баху,*
*што стрэліся гаспадары.*
*Анёлы зайграюць «Сабачы вальс»*
*угары.*

**Патрыятызм**

*Калі сонца ўстае за Кармой,*
*родны кут апяваю мой.*

*Калі пахне чаромха з Веткі,*
*да радзімы лячу ў адведкі.*

*А не маючы іншых опцый,*
*зноў пішу ёй, рыфмуючы ў Стоўбцы.*

*Валацуга, які гадамі*
*мог бы ў Чэрвені жыць пад Мастамі,*

*разбіваю боты і ногі*
*аб яе Старыя Дарогі.*

*Кожны з нас пацыфіст найшчыры:*
*нехта ў Грозным жыве, мы ў Міры.*

*Ды над кожнай яе кутузкай*
*пад Бярозай плачам Картузскай.*

*Пішам гімны па-старасвецку,*
*сэрца б'ецца, як птушачка ў Клецку.*

*Верш зашпільваем рыфмай-зáпінкай,*
*не задушаны ейнай Жабінкай.*

*Хай пакутаваць зранку ад смагі нам,*
*захапляемся ейным Брагінам.*

*Шанавальнікі родных смакаў,*
*выпіваем пад Пціч і Ракаў.*

*Пад тапонім кожны гамонім,*
*яна ставіцца з Панямоннем.*

*Скажаш слова любай краіне,*
*а яна — прамову Задзвінне,*

*аж гудзе на гарышчы і ў склепе:*
*слова — Добруш, маўчанне — Лепель.*

* * *

*…Бо 25 сакавіка*
*зрынулі Саўрана з трона.*
*Час пасмяецца з дручка дурачка*
*й назгулаў эскадрона.*

*Можаш музыкаў у аўтазак,*
*можаш фэйсбучных пісакаў.*
*Кепскія нервы — фірмовы знак*
*Валадара аўтазакаў.*

*Доўга шліфуецца чарнавік,*
*ды пасталее аматар.*
*Новыя песні. Плюс сакавік.*
*Мінус стары дыктатар.*

*Потым хай здымуць кіно — і хай*
*зробіць добрую касу*
*фільм, дзе абуджаны сонны край*
*зрушыў бы стрэлкі часу.*

*Іх затрымаць — не хопіць палка,*
*войска не хопіць ніколі.*
*Бо 25 сакавіка*
*зрынулі з трона…*
*З Днём Волі!*

**25 сакавіка 2019**

**самалёт**

*зямля памяншалася й неба расло*
*анёл гравітацыі лёг на крыло*

*дыспетчарка ноч адпусціла эскорт*
*і лішнія страхі баластам за борт*

*бяссонніца ў форме прынесла напой*
*і ўсе каго крыўдзіў сядаюць з табой*

*у кожным кілішку пацыфік віны*
*і слухае тосты дэтэктар маны*

*пакуль паясы вяжуць час па руках*
*і дзіўныя песні трымаю ў зубах*

*на спінцы фатэля кіно пра жыццё*
*пытае лацінай «куды леціцё?»*

*а потым курносая ў стылі хэнтай*
*гуляючы з коскай «пакуль палятай*

*мы вольныя птушкі і кратаў няма*
*ты сам сабе вязень прысуд і турма*

*спявай да каляднае зоркі ўваччу*
*а коскі расставіць пасля прылячу*

*глядзі як зіхцяць у касмічным віры*
*ўсе-яблыкі-ўсе-залатыя-шары*

*як ззяе прапелер каронай святла*
*глядзі, над зямлёй зорка сонца ўзышла»*

**Ліст**

*Сяду за стол цвярозым,*
*стану пісаць лісты:*
*Санта з Дзедам-Марозам,*
*Зюзя й Мікола Святы!*
*Хай ні дачку, ні жонку*
*цуд ваш не абміне —*
*прыйдзе знутры і звонку,*
*і крыху — ад мяне.*

*Дайце пісьменніку свята*
*з кніжкаю і казой,*
*цыніку — вершы без мату*
*з радасцю і слязой.*
*Тэлевізару — сорам,*
*хай гэту ноч адпачне.*
*Неба — калядным зорам.*
*…І чагось для мяне.*

*Хай усміхнецца ўдача*
*ворагам і сябрам,*
*кожны — смяецца й плача,*
*храмаў хапае і крам.*
*Хлопца — кожнай дзяўчыне,*
*а не захоча — дык не,*
*незалежнасць — краіне.*
*…І чагось для мяне.*

*Зюзя з Дзедам-Марозам,*
*Санта з Міколам Святым!*
*Трохі сэрца і розуму*
*дайце гэтым і тым.*
*Хай ні далёкіх, ні блізкіх*
*больш не заб'юць на вайне.*
*…Ёлку ў святочных бліскаx.*
*…І чагось для мяне.*



Уладзімір АРЛОЎ

# Гарады і мястэчкі нашых прадзедаў

**Нашы гарады ў першай палове XIX стагоддзя моцна адрозніваліся ад сённяшніх. Яны не мелі шматпавярховых дамоў. Найвышэйшымі будынкамі былі цэрквы ды касцёлы і — дзе-нідзе — ратушы, якім пашанцавала не быць зруйнаванымі на загад расейскіх уладаў. Мураваныя пабудовы стаялі ў цэнтры, а навокал разлягаліся вуліцы і завулкі з прысадзістымі драўлянымі сядзібамі. Брукам маглі парадаваць адны цэнтральныя вуліцы. Самым хуткім транспартам былі карэты і фурманкі. У краі налічвалася 42 гарады, дзе жыло 300 тысяч чалавек. Найбуйнейшыя гарады таго часу — Вільня, Магілёў, Менск, Віцебск, Горадня, Берасце, Бабруйск, Пінск, Полацак, Слонім. Больш за 200 тысяч жыхароў мелі сярэднія паміж горадам і вёскай паселішчы — мястэчкі. Разам з беларускай моваю на гарадскіх і местачковых вуліцах і пляцах часта гучалі габрэйская, польская і расейская.**

## Вільня

Былую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага царскія ўлады зрабілі цэнтрам губерні. Вільня з насельніцтвам 50 тысяч жыхароў была самым буйным горадам краю. Горад меў дзесяць прадмесцяў з даўнімі беларускімі назвамі: Антокаль, Папоўшчына, Зарэчча, Паплавы, Росы, Востры Канец, Руднішкі, Пагулянка, Лукішкі і Сніпішкі. У Вільні стаялі блізу тысячы мураваных будынкаў, дзясяткі касцёлаў, цэркваў і манастыроў, некалькі сінагогаў, шмат палацаў арыстакратыі. Колішняя ратуша не павінна была нагадваць віленцам пра скасаваныя гарадскія вольнасці — і была прыстасаваная пад тэатр.

Пасля паўстання 1831 года каланізатары зачынілі Віленскі ўніверсітэт. Цяпер Вільня не была студэнцкім горадам, але там жылі вучоныя і творцы, дзейнічалі друкарні, выходзілі кнігі і газеты.

Па віленскіх вуліцах хадзілі літаратар і краязнаўца Уладзіслаў Сыракомля і аўтар шматлікіх гістарычных раманаў і аповесцяў Язэп Крашэўскі. Тут працавалі гісторыкі Тодар Нарбут і Адам Кіркор. Кожны віленец ведаў кампазітара Станіслава Манюшку, які шмат гадоў быў арганістам у Святаянаўскім касцёле.

Былы сябра таварыстваў філаматаў і філарэтаў, паэт і фалькларыст Ян Чачот выдаваў у Вільні свае вершы і балады, сабраныя ім беларускія народныя песні. Яшчэ адзін удзельнік патрыятычнага студэнцкага руху, аўтар «Песні філарэтаў» Антон Адынец, рэдагаваў газету «Віленскі веснік».

Шырокі розгалас мела адкрыццё ў 1856 годзе Віленскага музея старажытнасцяў. Заснавальнікам музея, што размясціўся ў залах бібліятэкі зачыненага каланізатарамі Віленскага ўніверсітэта, стаў гісторык і археолаг граф Яўстах Тышкевіч. Ягоным паплечнікам быў родны брат Канстанцін, які таксама паспяхова займаўся гістарычнымі росшукамі. У музеі налічвалася болей за дзесяць тысяч экспанатаў. Пры музеі браты Тышкевічы стварылі навукова-асветную ўстанову — Віленскую археалагічную камісію. Яна расшуквала і друкавала старажытныя дакументы і летапісы, ладзіла археалагічныя і этнаграфічныя экспедыцыі. Вывучэнне гісторыі Беларусі, яе народных традыцый і мовы набліжала нацыянальнае адраджэнне беларусаў.

Вільня заставалася культурнай сталіцаю краю.

## Губернскі Менск

У цяперашняй беларускай сталіцы, а на той час губернскім горадзе Менску ў сярэдзіне пазамінулага стагоддзя было 25 тысяч жыхароў.

«Сэрцам» Менска, як і даўней, заставаўся Высокі рынак, або Высокае места. Так называлася размешчаная на ўзгорку цэнтральная частка горада. Тут уздымалі ў неба вежы і званіцы галоўныя менскія храмы: езуіцкі касцёл Дзевы Марыі, вуніяцкая царква Святога Духу, касцёл Звеставання пры кляштары манашак-бернардынак, касцёл святога Язэпа пры кляштары бернардынцаў. Усе гэтыя бажніцы захаваліся або былі аднаўленыя і цяпер зноў радуюць вока менчукоў. Высокае места аздабляла і ратуша з палацамі Сапегаў і Радзівілаў. Побач стаялі дзясяткі крамаў з разнастайнымі таварамі.

Да шырокага і забрукаванага, бачнага здалёк Высокага рынку (цяпер плошча Свабоды) сыходзіліся ўсе галоўныя вуліцы: Койданаўская (цяпер Рэвалюцыйная), Феліцыянаўская (цяпер Камсамольская), Францішканская (Леніна) і Дамініканская (Энгельса), што вяла на Гандлёвы рынак у Новым месцы. Гэтыя вуліцы мелі шмат крамаў, што суседзілі з жылымі будынкамі. Мала чым саступалі галоўным вуліцам блізкія да іх Захараўская (пачатак цяперашняга праспекта Незалежнасці), Валоцкая (частка Інтэрнацыянальнай ) і Юраўская (не захавалася).

Усяго ў Менску ў той час было 46 вуліц, з іх 22 — брукаваныя. На іх налічвалася прыблізна паўтары тысячы будынкаў, з якіх мураваных — менш за палову. З мураванкамі суседзілі адна- а часам двухпавярховыя




Менск, Высокі Рынак

драўляныя дамы на цагляных падмурках.

На вуліцы Францішканскай стаяў прыгожы каменны двухпавярховы будынак гімназіі, дзе ў тыя часы вучылася шмат знакамітых у будучым людзей: паэт Тамаш Зан, кампазітар Станіслаў Манюшка, географ і заолаг Бенядзікт Дыбоўскі, біёлаг Канстанцін Ельскі, гісторык Тадэвуш Корзан, астраном Міхал Глушневіч, праваўнаўца і літаратар Уладзімір Спасовіч.

Менчукі паважалі беларускага пісьменніка і драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. У 1852 годзе створанае ім тэатральнае згуртаванне паставіла ў Менску оперу «Сялянка». П'есу для яе напісаў сам Марцінкевіч, музыку — Станіслаў Манюшка. Са сцэны ў «Сялянцы» гучала беларуская мова, таму менавіта з гэтай пастаноўкі адлічваецца гісторыя айчыннага тэатральнага мастацтва новага часу.

У Менску пасля сібірскай высылкі за падтрымку Напалеона жыў славуты мастак Ян Дамель. Менчукі з гонарам казалі пра бліскучага партрэтыста Валянціна Ваньковіча. Дом роду Ваньковічаў захаваўся дасёння. Цяпер там створаны музей, што дае ўяўленне пра шляхецкі побыт, культуру і мастацва першай паловы XIX стагоддзя.

## Чаго не змог сказаць Сыракомля

Наведваючы ў 1850-я гады Менск, пісьменнік і краязнаўца Уладзіслаў Сыракомля пісаў: «Выгляд горада вызначаецца акуратнасцю і парадкам. Шырока раскінуты абапал ракі Свіслачы, ён уражвае хараством краявідаў. Вуліцы шырокія і прамыя, дамы не заціснутыя, паветра чыстае, скрозь даступнае павевам ветру.Туркочуць і размінаюцца аднаконныя дрожкі (карэты), віруе люд, пры гэтым на вуліцах няма тлуму, бо ўсім тут прасторна. Будынкі важнага значэння не засланяюцца суседнімі і выступаюць ва ўсёй велічы. Апроч вялікіх Губернатарскага парку і Архірэйскага саду Менск налічвае васямнаццаць прыватных садоў і 239 агародаў».

Але не ўсё ў Менску было так прыгожа і прытульна. Сыракомля друкаваў свае нататкі, калі пільная царская цэнзура сачыла за выданнем кніг, газет і часопісаў, выкідаючы адтуль усё «падазронае» і «шкоднае». Пісьменнік не мог паведаміць чытачу, што першым новым вялікім збудаваннем у Менску, калі беларускія землі акупавала Расея, стаў Турэмны замак. У гэтай велізарнай вязніцы адбывалі пакаранне змагары 1831 года, а пазней — удзельнікі паўстання Каліноўскага. За сувязь з каліноўцамі там быў зняволены і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Дарэчы, ягоны спектакль «Сялянка» адразу пасля першага паказу быў забаронены і надалей ставіўся нелегальна.

Не мог Сыракомля адкрыта напісаць і пра лёс Менскай ратушы. На пастанове пра яе руйнаванне стаіць уласнаручны подпіс цара Мікалая I. Ратушу знеслі, бо «она своим видом напоминала жителям о Магдебургском праве, об обычаях минувшего времени».

Новыя ўлады імкнуліся сцерці памяць пра былую беларускую незалежнасць, але самі ж царскія чыноўнікі пісалі, што і праз пяцьдзясят гадоў іхняга панавання расейская культура ў Менску і наогул ва ўсіх беларускіх гарадах, мястэчках і вёсках заставалася чужой і незразумелай.

## Павятовы Полацак

Сталіцу нашай першай дзяржавы — Полацкага княства, а затым — у Вялікім Княстве Літоўскім — сталіцу Полацкага ваяводства каланізатары ператварылі ў павятовы горад. Праўда, пра яго былую веліч нагадвалі шматлікія храмы і манастыры. Адзін з замежных падарожнікаў, мастак паводле прафесіі, параўнаў той Полацак з італьянскімі гарадамі і адзначыў, што тут забываеш, што ты не ў сталіцы.

На Дзвіне ад раніцы да вечара мільгацелі лодкі з ветразямі і вёсламі. Штодня ўніз па рацэ ўбок Рыгі праходзілі дзясяткі даўжэзных плытоў. Людзі на вуліцах — беларускія сяляне і шляхцічы, імперскае чынавенства і габрэйскія гандляры ды рамеснікі — былі ў розных уборах, прычым кожны гаварыў на сваёй мове.

Саборы святой Сафіі і святога Стэфана так уразілі заезджага мастака лёгкасцю і вытанчанасцю архітэктуры, што ён быў гатовы паверыць нечым словам, нібыта гэтыя храмы пабudаваныя па малюнках італьянца Мікеланджэла.

Між тым гэта быў толькі вонкавы выгляд горада, у якім ужо некалькі дзесяцігоддзяў гаспадарылі чужынцы. Пасля змагарнага 1831 года ўлады зачынілі вуніяцкія манастыры базылянак і базылянаў. Замкі і пячаткі з двухгаловым арлом з'явіліся і на дзвярах вуніяцкай духоўнай семінарыі: у 1839-м Вуніяцкая царква на беларускіх землях была знішчаная. Галоўную святыню беларускіх вуніятаў — Сафійскі сабор — перадалі праваслаўным.

Яшчэ раней былі зачыненыя Полацкая акадэмія, ліцэй манахаў-піяраў, навучальні пры бернардзінскім і францішканскім кляштарах. На змену ім прыходзілі расейскія школы, што павінны былі выхоўваць «русских людей» і паслухмяных падданых. Асвета ў Беларусі панізілася да страшэнна нізкага роўню. Улада кіравалася думкай, што школа з навучаннем па-расейску зробіць на паняволеных землях нашмат болей за армію.

У сярэдзіне XIX стагоддзя ў горадзе над Дзіной налічвалася 15 тысяч жыхароў. Цэнтральныя вуліцы былі забрукаваныя, увечары на іх загараліся ліхтары, але прадмесці ўвесну і ўвосень патаналі ў брудзе.

Простыя месцічы па-ранейшаму трымалі ў хлеўчуках свойскую жывёлу. На прыгарадных лугавінах пасвіліся каровы, козы і авечкі. Перад Калядамі на полацкіх падворках смалілі вепрукоў.

На гародах побач з капустай, цыбуляй, гуркамі, бурачкамі, часнаком і кропам усё часцей ганаровае месца займала невядомая яшчэ сто гадоў таму бульба. Пра багацце садоў сведчыць тое, што ва ўраджайныя гады яблыкі, грушы і вішні прадавалі цэлымі вазамі.

Нямала палачанаў, як і некалькі стагоддзяў таму, займаліся паляваннем і рыбалкай. Зверыны ў навакольных лясах вялося столькі, што на продаж адпраўлялі штогод дзясяткі пудоў ласіных шкураў і рагоў. Калі чытаеш пра здабычу полацкіх рыбакоў, здаецца, што ў руках у цябе кніга казак. Сярэдні дзвінскі сом, напрыклад, важыў тры пуды, гэта значыць пад 50 кілаграмаў. Такая рыбіна магла цэлыя вёрсты вазіць рыбака з лодкай уніз і ўверх па рацэ.

Калі б мы зазірнулі ў дамы палачанаў і прыселі з гаспадарамі за стол, то пераканаліся б, што многія традыцыйныя стравы і напоі за стагоддзі мала змяніліся. Разам з тым палачане, як і ўсе беларусы, пачыналі ўсё ахвотней гатаваць стравы з бульбы. З халодных вараных бульбін і бруснічнага сочыва з морквай, грушамі або «райскімі» яблычкамі рабілі смачны дэсерт. Яго ў Прыдзвінні можна пакаштаваць і цяпер.

Працяг на стар. 16 (10) »

« Працяг.
Пачатак на стар. 15 (9)

У Полацку, зразумела, пілі і моцныя напоі, ды самым пашыраным і тут, і па ўсім беларускім абшары быў квас. Найсмачнейшым лічыўся квас чырвонага колеру, зроблены на падсмажаных сухарах. Гэты напой гатавалі і з буракоў, бярозавіку, яблыкаў і грушаў. Былі квасы з каліны, брусніцаў, журавінаў, арабіны. Заможныя гаспадары мелі на стале сапраўдныя гарбату і каву, хоць усе месцічы, як і даўней, любілі заварваць ліпавую кветцень, святаяннік, чабор. На дадатак са склепу маглі прынесці кухаль моцнае медавухі.

Прыблізна так ішло жыццё і ў іншых павятовых гарадах.

### Паміж горадам і вёскай

Літва-Беларусь мела блізу 300 мястэчак. Гэтыя паселішчы здаўна розніліся з гарадамі меншым насельніцтвам, адсутнасцю абарончых збудаванняў і тым, то местачкоўцы больш займаліся сельскай гаспадаркай. Але, адрозна ад вёскі, важнымі заняткамі местачкоўцаў былі рамёствы і гандаль.

На местачковай плошчы стаялі царква ці касцёл, а часта абодва храмы разам. Недалёка ад іх звычайна ўзвышалася сінагога, а часам і мячэць, бо ўжо некалькі стагоддзяў на нашых землях мірна жылі татары.

Буйнымі мястэчкамі лічыліся Зэльва, Лынтупы, Відзы, Смалявічы, Іўе, Баруны, Бяроза Картузская, Лёзна, Бялынічы, Смаргонь, Крэва, Шчучын, Глыбокае, Мядзел, Друя, Косава, Каменец, Любча, Давыд-Гарадок. Многія з іх ганарыліся даўняй гісторыяй і пазней ператварыліся ў гарады.

Нямала мястэчак сталіся значнымі асяродкамі культуры і асветы. У Лагойску графы Канстанцін і Яўстах Тышкевічы стварылі першы на беларускіх землях музей старажытнасцяў. Яговыя наведнікі маглі пазнаёміцца са зборам даўніх рукапісаў, калекцыяй карцін і багатай бібліятэкай. Іншы беларускі арыстакрат Канстанцін Тызенгаўз сабраў велізарную калекцыю з трох тысяч відаў птушак з усяго свету і адчыніў арніталагічны музей у Паставах.

У Шклове існаваў вялікі тэатр, дзе гралі прыгонныя акторы. Таленавітыя падлеткі займаліся ў створаных пры тэатры балетнай і музычнай школах. Лепшых шклоўскіх артыстаў забралі ў пецярбургскія тэатры.

З 1840 года ў мястэчку Горкі, якое стала павятовым цэнтрам, дзейнічала земляробчая школа, неўзабаве пераўтвораная ў вышэйшую навучальную ўстанову — Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Гімназія мястэчка Свіслач на Гарадзеншчыне дала адукацыю цэламу сузор'ю знаных асобаў: будучым кіраўнікам вызвольнага паўстання 1863 года Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту, мастакам Напалеону Орду і Януару Сухадольскаму, пісьменнікам Язэпу Крашэўскаму і Лявону Патоцкаму, філолагу і гісторыку Восіпу Кавалеўскаму. Юдэйскія навучальныя ўстановы для габрэйскай моладзі — ешывы — існавалі ў Валожыне, Міры, Іўі, Ружанах.

Царскія законы забаранілі габрэям-юдэям сяліцца па-за былымі межамі Вялікага Княства Літоўскага. Гэта прывяло да таго, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя габрэі складалі большыню местачковага жыхарства.



Старадаўні кірмаш


Сучасны выгляд колішняй шляхецкай сядзібы ў Падароску. Фота Sputnik

### Старадаўні Падароск

Адно з беларускіх мястэчак з даўняй і цікавай гісторыяй — маляўнічы Падароск на рацэ Зяльвянцы непадалёк ад Ваўкавыска. Упершыню Падароск згаданы ў гістарычных дакументах пад 1522 годам. Ужо тады там стаяў касцёл, а пазней збудавалі і вуніяцкую царкву.

Як і многія мястэчкі Вялікага Княства, Падароск меў магдэбургскае права на самакіраванне, атрымане ад вялікага князя і караля Яна Казіміра Вазы ў 1660 годзе. У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай мястэчка апынулася пад царскай уладай і было гэтага права пазбаўленае.

Падароскам у розны час валодалі ліцьвінскія шляхецкія роды Клочкаў, Дольскіх, Грыбоўскіх. У XIX стагоддзі там гаспадарылі Чачоты, чый род даў паэта Яна Чачота. Затым маёнтак Падароск набыў Раман Бохвіц — сын філосафа Фларыяна Бохвіца. Пры новым гаспадары сядзібны дом набыў цяперашні выгляд: лёгкі і зграбны двухпавярховы будынак з калонамі, тэрасай і мансардай. Вакол дома, што глядзеўся ў азярыну, разлягаўся вялікі парк са старасвецкімі клёнамі, ліпамі, акацыямі.

У Падароску дзейнічалі бровар, вадзяны млын, сукнавальня. Прыбыткова ішоў гандаль на мясцовых кірмашах.

На пачатку XXI стагоддзя былы маёнтак Бохвіцаў стаяў у занядбанні, палохаючы выбітымі вокнамі ды бруднымі абшарпанымі сценамі. Колішні прыгожы дом і парк маглі проста знікнуць, але ім пашанцавала. Падароскую сядзібу набыў беларускі бізнесовец і мецэнат Павел Бераговіч. У адрэстаўраваным будынку адчыніўся музей гісторыі беларускай шляхты. Побач з'явіцца заезны дом, карчма, алея славы з бюстамі-помнікамі. Маёнтак Падароск сёння робіцца прывабным для турыстаў, а значыць, новае жыццё пачынаецца і ў даўнім мястэчку.

### Тагачасныя прадпрыемствы

Бальшыня гараджанаў у тыя часы па-ранейшаму займалася рамяством і гандлем. Гісторыкі падлічылі, што ў гарадах працавалі больш за 20 тысяч рамеснікаў блізу ста спецыяльнасцяў.

У Полацку ў сярэдзіне XIX стагоддзя, да прыкладу, было 155 шаўцоў, 97 краўцоў, 25 хлебапёкаў, 22 цесляры, 20 муляраў, 16 разнікоў (мяснікоў), 11 сталяроў, 6 кавалёў. Параўнаўча з мінулым зніклі шабельнікі, пішчальнікі, наогул усе збройнікі, затое з'явіліся гадзіннікавыя майстры і фартэпіяннікі. Побач з рамесніцкімі майстэрнямі ўтварыліся буйнейшыя прадпрыемствы: сем гарбарняў, тры піваварні і тры вапнярні, тытунёвы і свечкавы заводзікі, цагельня, медаварня і бровар.

Менск меў дванаццаць тытунёвых заводзікаў, шэсць свечкавых, гарбарныя, палатняныя і салатопныя прадпрыемствы. У Горадні, якая таксама была цэнтрам губерні, дымілі коміны сарака невялікіх фабрык: цагельных, свечкавых, фланэлевых. Карысталася попытам прадукцыя мясцовых піваварняў. Мукамольныя фабрыкі дзейнічалі ў Віцебску, Магілёве і Пінску. Некалькі сотняў працаўнікоў былі занятыя на гомельскіх цукровай, шкляной, крупадзёрнай, некалькіх канатна-вяровачных і лесапільных фабрыках. Але такія прадпрыемствы, што існавалі ў гарадах і ў мястэчках, нельга параўноўваць з сучаснымі. У царскай імперыі фабрыкай ужо лічылася прадпрыемства, дзе налічвалася не меней за сямнаццаць рабочых.

На большасці тагачасных фабрык праца была ручная, але з'явіліся і прадпрыемствы з паравымі рухавікамі. Першыя такія фабрыкі, што выраблялі сукно, адчыніліся ў 1820-х гадах у мястэчках Хомск і Косава Гарадзенскай губерні. Туды хадзілі на працу па некалькі сотняў рабочых з ліку прыгонных сялянаў.

Аднак прыгоннае права рабілася велізарнай перашкодаю для развіцця прамысловасці.

### Няма ў краме — купіш на кірмашы

У гарадах і мястэчках ішоў разнастайны гандаль.

Палачане маглі набываць тавары ў 339 крамах, хоць палова з іх разам з гаспадарамі вандравалі па вуліцах і ўяўлялі сабой звычайныя лёгкія шапікі. З іх прадавалі хлеб, муку, садавіну, цвікі, свечкі, мыла. У губернскім Менску, калі яго наведаў Сыракомля, крамаў толькі пры дамах было 423, у тым ліку — вялікія гандлёвыя камяніцы купцоў Гольдберга і Аксельрода, склады тавараў Гурвіна і Рапапорта.

Вельмі важнае месца ў жыцці гарадоў і мястэчак займалі кірмашы. Звычайна іх прымяркоўвалі да рэлігійных святаў, таму кірмашы часта так і называліся — Траецкі, Спасаўскі, Пакроўскі. На шматгалосых і шматмоўных кірмашах можна было набыць любы тавар — ад цвікоў і чаравікаў да шыкоўных карэт і паравых рухавікоў. Апрача мясцовых тавараў тут гандлявалі і прывезенымі здалёк. З Прыбалтыкі везлі фарбы, адзенне, «заморскія» гарбату і каву. Польскія купцы прапаноўвалі дываны, люстэркі, разнастайныя інструменты. Цаніўся парцалянавы і фаянсавы посуд з Смаленскай губерні, скураныя тавары з Казані, жалезныя і медныя вырабы тульскіх заводаў.

На некаторых кірмашах гандлявалі пераважна нейкім адным таварам. Мазыр славіўся продажам свойскай жывёлы. У Мсціслаў з блізкага і далёкага наваколля звозілі пяньку і скуры, у Слонім — збожжа і драўніну, у Пінск — шчаціну, воск, мёд, масла і алей. Восеньскі кірмаш у мястэчку Парычы Менскай губерні славіўся на ўсю Беларусь гандлем грыбамі.

У беларускіх губернях штогод адбывалася прыблізна 200 кірмашоў, прычым дваццаць з іх былі буйнымі. Менскі кірмаш віраваў ад 25 траўня да 25 чэрвеня. У сярэдзіне XIX стагоддзя тры штогадовыя гомельскія кірмашы прадавалі тавараў на велізарныя па тых часах грошы — болей чым на мільён рублёў.

Аднымі з найбагацейшых былі Ганненскія (у гонар святой Ганны) кірмашы ў мястэчку Зэльва на Гарадзеншчыне. Некаторыя гісторыкі гандлю лічаць, што ва ўсёй Еўропе гэтыя кірмашы, якія доўжыліся амаль месяц, саступалі толькі ляйпцыгскім у Нямеччыне. У Зэльве тавараў сыходзіла пакупнікам на два з лішнім мільёны рублёў.

Завітаўшы ў тыя дні ў Зэльву, вы даліся б дзіву ад шматлюднасці і маляўнічасці таго, што дзеецца навокал. Вось паважна гандлююць соллю, селядцамі, кавай і тканінамі купцы з Прусіі ды латышы з Рыгі. Побач украінцы і смуглявыя прадаўцы з балканскіх краёў жвава і з вясёлымі жартамі прапануюць набыць у іх збожжа, тытунь, цукар, віно. Тут сустрэнеш гандлёвых людзей з літоўскай Коўні, з Пецярбурга і Ніжняга Ноўгарада. Шмат пакупнікоў каля гандлёвых радоў, дзе прадаюць якаснае сукно з беларускіх фабрык у Альбярціне, Слоніме, Ваўкавыску і Косаве. Асабліва важны тавар — коні. Іх у Зэльве за адзін кірмаш маглі прадаць некалькі тысяч...

### Зямныя і водныя шляхі

Росту гандлю спрыялі новыя зямныя і водныя шляхі, а найперш — з'яўленне паравога транспарту.

Праз Беларусь праклалі грунтовыя шасэйныя дарогі, якія злучылі Пецярбург з Кіевам, а Маскву з Рыгай. Магілёўскую, Менскую і Гарадзенскую губерні перасекла Маскоўска-Варшаўская шаша. Але добрых наземных шляхоў было нямат. У сярэдзіне XIX стагоддзя ў нашым краі іх агульная працягласць не перавышала 1500 кіламетраў.

Як і даўней, важнымі шляхамі заставаліся суднаходныя рэкі-працаўніцы: Дняпро, Дзвіна, Нёман, Бярэзіна, Прыпяць. З Літвы-Беларусі праз іх патраплялі ў чарнаморскія і балтыйскія порты. Бярэзінскі, Агінскі і Дняпроўска-Бугскі каналы звязалі Дняпро з Дзвіной, Нёманам і Віслай. На рэках і каналах стаяла блізу сотні прыстаняў. Да іх прычальвалі драўляныя караблі розных памераў і грузападымальнасці: барлі́ны, ба́ркі, байдакі́. Яны хадзілі пад ветразямі, на вёслах, а часам з дапамогаю конскай сілы або людзей, якія цягнулі карабель на канатах, ідучы па беразе. Самыя вялікія з такіх караблёў маглі мець даўжыню 65 метраў, шырыню 15 метраў і перавозіць тысячу тон грузу.

Калі б вы перанесліся ў тыя часы і паставілі намёт на беразе вялікай беларускай ракі, то абавязкова ўбачылі б доўгія плыты і пачулі песні асначоў-плытнікаў. Тры галоўныя шляхі сплаву драўніны пачыналіся ў Пінску. Па Піне і Прыпяці, а затым па Дняпры караваны з бярвёнаў ішлі на Украіну і Крым. З Прыпяці праз Агінскі канал асначы траплялі ў Нёман і гналі плыты ў нямецкі Кёнігсберг (Каралевец). Праз Дняпроўска-Бугскі канал, Заходні Буг і Мухавец плыты выходзілі ў Віслу ды ішлі да партовага Данцыга (Гданьска). Драўніна была адным з галоўных тавараў тагачаснай беларускай гаспадаркі.

Параплавы на нашых рэках, перадусім на Дняпры, здзіўляючы мясцовых жыхароў, з'явіліся ў 1820-х гадах, аднак іх было мала. Ад Пінскай прыстані ў 1850-м адышоў да ўкраінскага Крэменчуга першы пасажырскі паравы карабель «Вісла». Па Нёмане параплаў зрабіў першы рэйс у 1854 годзе. Рэгулярны рух грузавых і пасажырскіх параплаваў быў наладжаны ўжо ў другой палове XIX стагоддзя. У 1858-м утварылася «Таварыства параходства па Дняпры і яго прытоках», што мела вялікі пасажырскі і грузавы флот. Частку параплаваў назвалі ў гонар беларускіх гарадоў і рэк — «Жлобін», «Ветка», «Сож»...

Чыгуначны рух распачаўся таксама ў другой палове стагоддзя. З 1861 года Дзвінск быў звязаны цягнікамі з Рыгай. Праз год пайшлі першыя лакаматывы Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі. Апрача Дзвінска беларускія губерні мелі буйныя станцыі Вільня, Горадня, Парэчча, Беласток. У 1860-х гадах да іх далучыліся Бігосава, Полацак і Віцебск, а з 1871-га нашыя прадзеды ўжо маглі падарожнічаць па жалезнай магістралі Смаленск—Менск—Берасце...

# Паэзія зніклых: Батыр Бердыеў

**Развал Савецкага Саюза ў 1991 годзе прынёс вызваленне запрыгоненым народам. І мы вохнулі, калі ўбачылі, на якіх розных палюсах грамадскага развіцця знаходзяцца нашыя народы. У Прыбалтыйскіх краінах незалежнасць спалучылася з усталяваннем еўрапейскай дэмакратыі, па цярністым шляху да дэмакратычнага ладу ідуць Украіна, Грузія, Малдова, на хвалях аўтарытарызму гушкаюцца Расія, Беларусь, Азербайджан. А ў далёкім Узбекістане і Туркменіі ўсталяваліся пачварныя сярэднявечныя дыктатуры. А ўсё ж гэта калісь выдавалася за «адзіны савецкі народ»...**

Батыр Бердыеў, філолаг і жуналіст з Туркменістана, апынуўся ў гушчы тагачасных падзей. Ён нарадзіўся 3 кастрычніка 1960 года. Працаваў журналістам яшчэ ў моладзевых савецкіх выданнях, затым у міністэрстве замежных спраў Туркменістана. У 1995 годзе быў паслом у Аўстрыі, Славакіі і Чэхіі ды адначасова прадстаўніком Туркменістана пры АБСЕ. У 2000 годзе прызначаны міністрам замежных спраў Туркменістана. Праз год быў звольнены за «недахопы ў працы» і знаходзіўся пад наглядам паліцыі.

Быў арыштаваны ў снежні 2002 года і абвінавачаны ў замаху на жыццё былога прэзідэнта Сапармурата Ніязава. Быў катаваны, асуджаны закрытым судом на 25 гадоў зняволення. У турме пісаў вершы па-руску. Творы, напісаныя ў першыя месяцы зняволення (снежань 2002 — сакавік 2003 года), Батыру Бердыеву яшчэ ўдалося нейкім цудам перадаць на волю. Затым яны былі таемна перапраўлены з Туркменістана за мяжу і пры дапамозе міжнароднай праваабарончай кампаніі «Пакажыце іх жывымі!» выдадзены зборнікам «Песня развітання» («Песня прощания»). Апошнія звесткі пра Батыра Бердыева дайшлі ў 2005 годзе. Пасля гэтага ягоны лёс невядомы.

Батыр Бердыеў не адзіны зняволены ў Туркменістане, пра якіх грамадства нічога не ведае. Гвалтоўныя знікненні зняволеных там — распаўсюджаная практыка. Такі ж лёс напаткаў папярэдняга перад Батырам Бердыевым міністра замежных спраў Туркменістана Барыса Шыхмурадава.

Руская мова не была для Батыра Бердыева роднай, і гэта адчуваецца ў ягоных вершах. Беларуская паэтка Галіна Дубянецкая фактычна перастварыла іх. Але ў вершах Батыра Бердыева ёсць іншая якасць: найвышэйшая шчырасць радкоў, напісаных у турэмных лёхах. Ягоныя вершы — гэта шчымлівае развітанне з жонкаю, з сынам, з жыццём. Ён выдатна ведаў, што яго чакае, і спрабаваў занатаваць самае галоўнае і каштоўнае, што было ў ягоным жыцці. Успаміны — гэта тое, што нельга адняць і ў самага няшчаснага зняволенага:

*Помніш, як па мастку мы прайшлі*
*і выйшлі на прыстань,*
*Зрэшты, прыстані там — гэта цалкам*
*будзённа і звыкла,*
*І на плошчы Сан-Марка, — а як жа, —*
*зрабілі мы здымак,*
*Дзе ў званочках малы наш дурэе,*
*і ў сонца разлівах...*

Турэмныя вершы Батыра Бердыева хвалямі шчырасці перагукаюцца з турэмнай лірыкай былога беларускага палітычнага вязня Уладзіміра Някляева, які пісаў, седзячы ў камеры і не ведаючы, што яго чакае наперадзе:

*Праз кра́ты, праз калючыя драты,*
*Апоўначы ўсміхнулася мне ты...*

Вера, надзея, каханне дапамагаюць чалавеку выжываць у турме, а яшчэ энергія людзей, якія памятаюць пра яго, энергія, якую не могуць спыніць ніякія турэмныя сцены.

**Алесь Бяляцкі**



Фота www.spring96.com

***

*Маёй любай,*
*адзінай Бахарачцы*

*Калі ноч разнасцежыцца небам*
*зорным і вольным,*
*Я скраду цябе ад разлук і страт,*
*Аднясу на руках цябе ў хвалі*
*макаў польных,*
*Дзе да рання ў нас будзе*
*духмяны спрат.*

*Пакамечацца строі,*
*вецер стогнам нап'ецца,*
*Узварушыць густы*
*квецця-зёлак настой,*
*І раптоўная знічка*
*з нябёсаў сарвецца,*
*Затрапеча на вейках*
*шчаснай слязой.*

*І шаптаць будуць вусны,*
*з дыханнем няроўным,*
*Таропкія словы, пяшчоту й боль*
*згарэлай душы,*
*І вялікая ўсёдаравальная поўня*
*Ўкаранue шлюб наш у касмічнай імшы.*

*Золак росамі нас прахалоднымі ўмые,*
*Ў першым промні ўспыхне на грудзях*
*крыжык маленькі твой,*
*І зружавееца сарамліва*
*Сонца, ўражанае тваёй пекнатой.*

### Пазачассе

*Не зіма ані восень — памежжа сезон*
*безназоўны,*
*І папляміла іржавае лісце*
*садовыя сходы.*
*І чакае душа, як басяк беспрытульны,*
*бяссонны,*
*Утварэння раптоўнага цуду, на раз,*
*без нагоды.*

*А ў Венецыі, пэўна, адхланне цяпер*
*ад нашэсця турыстаў,*
*Не чутно гандальерскага клічу*
*з каналаў аціхлых...*
*Помніш, як па мастку мы прайшлі*
*і выйшлі на прыстань —*
*Зрэшты, прыстані там — гэта цалкам*
*будзённа і звыкла.*

*І на плошчы Сан-Марка, — а як жа, —*
*зрабілі мы здымак,*
*Дзе ў званочках малы наш дурэе*
*і ў сонца разлівах.*
*Абсалютнага шчасця імгненне*
*вось так неспасцiжна*
*След на фотапаперы пакінула —*
*Маркусу VIVA!*

*Натамілі тады нас палацы, масты,*
*пераходы,*
*Брукаваныя вулкі, памкнёныя ў век*
*Адраджэння,*
*І, застылыя ў мармуры, музыкі*
*ўзнёслай акорды,*
*І трагічныя маскі сям-там на шляху,*
*бы трызненні.*

*І на пляцы маленькім,*
*дзе блікі гулялі на плітках,*
*Дзе над ціхім каналам пятрэе*
*бялізна заўсёды,*
*І з царквы старадаўнай даносяцца*
*гукі малітвы,*
*Мы за кавай духмяною зведалі*
*смак асалоды.*

*А пад вечар, з пявучаю назвай*
*карчомка «Ля Скала» —*
*Ціхі вырай сярод неспатольных*
*блуканняў —*
*Нам дала па кішэнях удар нябывалы,*
*І так лёгка было, і ніякіх — ані! —*
*шкадаванняў.*

*А цяпер ні зіма ані восень —*
*сезон безназоўны,*
*Ці знячэўку жыццё саслізнула*
*ў разлом пазачасся,*
*І наіўна чакае душа,*
*як басяк той бяссонны,*
*Каб адбыўся, каб здарыўся цуд,*
*хоць бы з ветрам прымчаўся.*

***

*Серабрыстых струн дажджу перазвон*
*Па настылых перастуджаных дахах*
*Абвяшчае нам вясновы сезон,*
*Вызваленне ад цяжкіх апранахаў.*

*Грукаецца ў вокны хацін,*
*Крыўдаў леташніх змываючы копаць,*
*Накладае на тугу карацін,*
*Кліча хлопцаў па калюгах паскокаць.*

*Дождж вясновы ўсміхнецца табе*
*Вачанятамі навюткай лістоты;*
*Запрашаючы гуляць па траве,*
*Сыпне рытмамі вясёлых чачотак.*

*Зашумуе ў гаманкіх ручаях*
*Застарэлае ашмоцце маркоты,*
*І сплыве кудысь нічыя,*
*З ветразем газетным, самота.*

*Шум падымуць у двары вераб'і,*
*Ігнаруючы прамоклую кошку,*
*І зальюць святлом ліхтары*
*Мне й табе насустрач дарожку.*

*А калі ўсё нахлусіў гэты дождж*
*Нам пра ростань і спатканне пад вечар,*
*Ты скажы тады сабе: «Дык і што ж,*
*Скончыцца разлука сустрэчай!»*

*Ўсё адно нам разам быць так і так —*
*Ёсць на тое пастанова Алаха,*
*Проста дождж вясновы, гарэзны дзівак,*
*Зблытаў год, калі танчыў на дахах.*

### Эцюд Надзеі

*Давай забудзем*
*Пра ліхія часы,*
*Пра зняможаны будзень*
*І чужыя нам галасы,*

*Давай разгорнем*
*Наш сямейны альбом,*
*Дзе ўсе мы трое,*
*І гасцей поўны дом;*

*Дзе мы маладыя,*
*І вясельны наш баль,*
*І сябры дарагія*
*Напаўняюць крышталь;*

*Дзе наш сын з бліскам снегу*
*Па дзяцінстве ляціць*
*І шчырыйскае неба*
*Яго смехам звініць;*

*Дзе чароўнаю Прагай*
*Мы так чынна ідзем,*
*А на моры ты — праўда! —*
*Вартая дыядэм;*

*Дзе ў люстэркавым ззянні,*
*Над карункамі веж,*
*Ты праз венскія залі*
*Каралевай плывеш;*

*Дзе блукаем у красках*
*І ля замкаў стаім,*
*Дзе мы верылі казкам*
*І дзівосам усім;*

*Дзе мы шчасце спазналі...*
*І не след сумаваць!*
*Мы яшчэ не спаткалі*
*Ўсё, што маем спаткаць.*

*Так, мы шчасце спасціглі,*
*Каштавалі нагбом!*
*І цудоўныя хвілі*
*Наш папоўняць альбом.*

***

*Апошнім росчыркам барвовым*
*Прамення след растаў за морам;*
*Надзеяў караван гандлёвы*
*У вышыні нам склаўся з зорак.*

*Ён рушыць плынна ў ноч, без гуку,*
*На водсвет месяцовых прошчаў;*
*За мары, што вязе, — разлуку*
*Бярэ ён платай замяж грошай.*

*І плацім мы яму звыш коштаў,*
*У падарожжы з ім па небе,*
*За віртуальны жар пяшчотаў,*
*Дзе ноч, як быль, а ранак — небыт.*

*Мы з караванам узыходзім*
*У летуценны сад планетаў,*
*У пазасведамай прыгодзе*
*Пра лёс гадаючы з прыкметаў.*

*Перабіраю сноў каралі*
*У куфрах мрояў ды чаканняў*
*І так хачу, каб нам не стала*
*Чым разлічыцца на світанні,*

*І караван растаў, як дымка,*
*А нас пакінуў пры дарозе,*
*І зноў прыйшло цяпло абдымкаў,*
*Забыліся разлукі крозы.*

*І, бачыць Бог, павінна стацца,*
*Што нам аднойчы на дасвецці*
*Не давядзецца расставацца...*
*А дата покуль што ў сакрэце.*

**Пераклад з рускай мовы Галіны Дубянецкай**

ПРЭМІІ

## Прэмія за арабскую літаратуру

**Егіпецкі пісьменнік Мухамед Абдэльнабі атрымаў Прэмію за літаратуру на арабскай мове («Prix de la Litterature Arabe») — за свой раман «La Chambre de l'araignée» («Пакой павука»), перакладзены Жылем Гацье з арабскай на французскую.**

Раман, напісаны Абдэльнабі ў 2016 годзе, быў выдадзены ў французскім перакладзе вясной 2019 года і трапіў у кароткі спіс французскай літаратурнай узнагароды ў ліку сямі фіналістаў. Уручэнне прэміі адбылося ў французскім Інстытуце арабскіх краін: аўтар кнігі-пераможцы і яго перакладчык атрымалі па 10 тысячаў еўра.




Згаданы раман Мухамеда Абдэльнабі ўвайшоў і ў кароткі спіс намінантаў Міжнароднай прэміі за арабскую мастацкую літаратуру (IPAF) 2017 года. На англійскай мове яго апублікавалі ў мінулым годзе ў перакладзе Джанатана Райта пад назвай «У пакоі павука». Малады аўтар таксама атрымаў прэмію «ArabLit» за лепшы дэбют — за апавяданне «Наша гісторыя». У 2010 годзе зборнік апавяданняў Абдэльнабі «Прывід Антона Чэхава» ганараваўся літаратурнай Прэміяй Савірыса («Sawiris Literature Prize»), а апошні зборнік пісьменніка «Як праходзіць паводка спячай вёскі» («As the Flood Passes the Sleeping Village») атрымаў прыз за лепшую падборку апавяданняў на кніжным кірмашы ў Каіры ў 2015 годзе.

## Прэмія за лепшую кнігу пра Маскву

**З'явілася новая прэмія, арганізаваная расійскім Фондам развіцця сучаснага мастацтва. Яе будуць уручаць за творы, якія напісаны ў Маскве і пра Маскву ў любым з жанраў і кірункаў сучаснага мастацтва.**

Заяўкі на атрыманне «Маскоўскай мастацкай прэміі» прымаюцца да канца года. На сайце ўзнагароды адзначана: «Прэміі прысуджаюцца за выдатны ўклад у развіццё культуры і сучаснага мастацтва: за найбольш таленавітыя творы літаратуры, музыкі, тэатра, кіно і выяўленчых відаў мастацтва, якія адрозніваюцца навізной і арыгінальнасцю і якія атрымалі грамадскае прызнанне ды сталі з'явай культурнага жыцця Масквы».

Прэмія мае 5 намінацый: «Літаратура», «Музыка», «Тэатр», «Кіно» і «Выяўленчае мастацтва і архітэктура». Вынікі абвесцяць у красавіку 2020 года, а ўзнагароджанне пераможцаў адбудзецца ў траўні ў маскоўскім парку «Зарадддзе».

Прызавы фонд «Маскоўскай мастацкай прэміі» складзе 33 мільёны расійскіх рублёў (каля 550 000 даляраў ЗША). У кожнай з 5 намінацый прысудзяць па 3 прэміі памерам 3, 2 і 1 мільёны расійскіх рублёў. А ўладальніку Гран-пры ўручаць яшчэ 3 мільёны.

# Арэнда пакояў Гары Потэра

**На online-пляцоўцы для размяшчэння, пошуку і кароткатэрміновай арэнды прыватнага жылля па ўсім свеце — сайце Airbnb.com — з'явілася аб'ява аб здачы камфартабельных пакояў на дваіх у «фамільным доме Гары Потэра».**



Дом «De Vere House» размешчаны ў вёсцы Лавенхэм у графстве Суфолк (Вялікабрытанія), якое ў кінакарцінах пра хлопчыка-які-выжыў прадстаўляў Годрыкавай лагчынай. Менавіта тут, як вынікае з кніг, і нарадзіўся знакаміты на ўвесь свет чараўнік Гары Потэр, там жа Лорд Валан-дэ-Морт забіў яго бацькоў, у Годрыкавай лагчыне жылі шматлікія персанажы з кніг брытанскай пісьменніцы Джоан Роўлінг.

Пакой у доме можна арандаваць мінімум на дзве начы, а пражыванне разам са сняданкамі абыдзецца падарожнікам 254 фунты стэрлінгаў (800 беларускіх рублёў). Абодва пакоі, якія здаюцца, маюць асобны ўваход, ложак з балдахінам, асобны ванны пакой, месца для працы на ноўтбуку, тэлевізар, Wi-Fi. Акрамя гэтага, госці могуць выходзіць у гасціную з камінам і ў сад. Англійскі сняданак падаецца ў сталовай галоўнага крыла дома.

Лавенхэм з'яўляецца найлепшай сярэднявечнай вёскай у Брытаніі, бо ў ёй выдатна захаваліся больш чым 300 ахоўных аб'ектаў гістарычнай спадчыны. Там знаходзяцца цудоўная сярэднявечная царква, некалькі рэстаранаў, мноства цікавых рамесных і антыкварных крам, кавярні, мясныя лаўкі, пякарні, тры бакалейныя крамы, спа-салон, два музеі, мастацкая галерэя, тэнісныя корты і чатыры палі для гольфа. «De Vere House» размешчаны ў самым цэнтры гэтай прыгожай і маляўнічай вёскі.

Пра сябе гаспадары пішуць: «Уладальнікі жывуць у галоўным доме і любяць распавядаць пра яго гісторыі і гісторыі нашай дзіўнай вёскі. У нас таксама ёсць улёткі, карты і даведнікі, якія госці могуць узяць напракат і пагледзець, што наведаць і дзе можна паесці».

Дарэчы, пакоі ў «доме Гары Потэра» арандаваны на ўсе даты ўжо да наступнага сакавіка.

# Міні-кніжка Шарлоты Брантэ

**Пасля некалькіх гадоў пошуку неверагодна рэдкай маленькай кнігі падлетка Шарлоты Брантэ Таварыства сясцёр Брантэ выкупіла яе на парыжскім аўкцыёне.**



Таварыства заплаціла за яе 600 000 еўра (плюс аўкцыённыя выдаткі). Кніга мае памер усяго 35x61 міліметраў. Напісаная ў 1830 годзе, калі Шарлоце было 14 гадоў, яна з'яўляецца часткай серыі з шасці міні-кніжак, створанай аўтаркай у падлеткавым узросце. Вядома, што захаваліся толькі пяць экзэмпляраў, адна кніжка знікла ў 1930 годзе.

Кніга будзе перададзена музею Брантэ, які месціцца ў былым сямейным доме ў Хаўорце (Ёркшыр). Там ужо захоўваюцца астатнія чатыры мініяцюрных кнігі пад назвай «Часопісы для маладых мужчын».

Неапублікаваны рукапіс складаецца з трох розных апаведаў, адзін з якіх разглядаецца як папярэднік сцэнаў у «Джэйн Эйр». Апошні раз рукапісная міні-кніжка выстаўлялася на аўкцыёне ў 2011 годзе, але тады Таварыства сясцёр Брантэ не змагло яе набыць. Таварыства асцерагалася, што рукапіс патрапіць у прыватныя рукі, але дзякуючы чатырохтыднёвай публічнай кампаніі, якая праводзілася актывісткамі Джудзі Дэнч і Жаклін Ўілсан, Таварыства атрымала больш за 85 000 фунтаў стэрлінгаў у выглядзе грамадскіх ахвяраванняў, а таксама грант ад Мемарыяльнага фонда нацыянальнай спадчыны.

«Мы былі агаломшаныя падтрымкай ад людзей з усяго свету, якія дапамаглі нашай кампаніі, і не можам дачакацца, калі кніжка будзе на месцы побач з іншымі экзэмплярамі, даступная для ўсіх», — адзначыла Кіці Райт, выканаўчая дырэктарка Таварыства сясцёр Брантэ.

Эн Дынсдэйл, куратарка праекта, сказала, што вяртанне ўнікальнага рукапісу было «галоўнай падзеяй маіх 30 гадоў працы ў музеі» і дадала: «Шарлота напісала гэты малюсенькі часопіс для цацачных салдацікаў, з якімі яна і яе браты гулялі, і калі мы праходзім праз тыя ж пакоі, што і яны, здаецца вельмі дарэчным, што рукапіс вяртаецца дадому, і мы хацелі б сказаць вялікі дзякуй усім, хто зрабіў гэта магчымым».

# Прадаецца дом Толкіна

**Для прыхільнікаў «Уладара пярсцёнкаў» з'явіліся цікавыя навіны: у Англіі выстаўлены на продаж дом Джона Р. Р. Толкіна.**

Менавіта там аўтар напісаў казачную аповесць пра прыгоды Більба Бэгінса «Хобіт» і трылогію «Уладар пярсцёнкаў», «Сільмарыліён» ды іншыя творы пра Міжзем'е.

Агенцтва нерухомасці «Breckon & Breckon» выставіла на продаж дом знакамітага ва ўсім свеце пісьменніка за 4,6 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, або 5,9 мільёнаў долараў ЗША. Ад оксфардскай сядзібы Толкіна да Лондана — 90 кіламетраў, дом жа захаваўся практычна ў тым жа стане, у якім быў пабудаваны ў 1924 годзе.

Брытанскі пісьменнік і лінгвіст жыў у тым доме з 1930 па 1947 гады і, мяркуючы па ўсім, правёў у ім нямала шчаслівых дзён са сваёй сям'ёй. Пісьменніцкая праца была хобі для оксфардскага прафесара-лінгвіста, як, зрэшты, і прыдумлянне эльфійскіх моў.



Двухпавярховы сямейны дом Толкіна вельмі прасторны: ён займае каля 4 тысячаў квадратных футаў (больш за 370 м²), з высокімі столямі, дзвюма гасцінымі, кухняй — пакоем для сняданку, з шасцю спальнямі, каморай, гардэробнай, ваннымі ды іншымі пакоямі. Інтэр'еры памяшканняў максімальна захаваны, і седзячы ва ўтульным пісьменніцкім фатэлі, лёгка ўявіць, як ствараліся вобразы Гэндальфа, Арагорна, Элранда, Галадрыэлі, Легаласа, Гімлі, Торына Дубашчыта, Берэна і многіх іншых.

Дом у цэнтральнай частцы заходняга Оксфарда мае таксама прасторны ўнутраны двор з дрэвамі, вялікі луг ды некаторыя гаспадарчыя пабудовы.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы парталаў «ArabLit», «ГодЛитературы», «The Guardian», «HouseBeautiful», novostiliteratury.ru і «The Associated Press».**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «У Алеся Дудара меліся выразныя планы беларускай незалежнасці»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Кніжны хлопчык і зацяты «нацдэм», які не выбіраў словаў і прыпякаў апанентаў жыццярадасным сарказмам, — такім паўстае вобраз Алеся Дудара паводле літаратуразнаўцы, пісьменніцы і настаўніцы Ганны Севярынец. 24 снежня споўнілася 115 гадоў з дня яго нараджэння.**



Алесь Дудар з маці Вольгай Іванаўнай Дайлідовіч і сястрой Жэняй



Умногім дзякуючы даследаванням Ганны Севярынец і яе раману «Гасцініца "Бельгія"» постаць Алеся Дудара не толькі вярнулася з нябыту, але і па-сапраўднаму ажыла: скрозь сухі мінімум біяграфічных звестак на нас стаў пазіраць гарэза, жартаўнік і шчыры рамантык з трагічным лёсам.

***— Як вы адкрылі для сябе Алеся Дудара?***

— Я дачытвала архівы «Маладняка» перад выхадам кнігі «Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго» — трэба было ўдакладніць тое-сёе для каментароў. Гартала па трэцім-чацвёртым коле чытаныя ўжо паперы (а іх абавязкова трэба чытаць некалькі разоў, бо кожны раз вока чапляецца за нешта іншае, мяняюцца акцэнты, карціна становіцца паўнейшай). І натрапіла на дакументы Полацкай філіі — раней я іх толькі праглядала, бо Дубоўка ў Полацкай філіі не працаваў і наогул дачынення да яе не меў. Большасць тых дакументаў была складзеная заснавальнікам і першым кіраўніком філіі Алесем Дударом.

Вядома ж, я ведала і яго, і вершы, працавала з яго паказаннямі па справе СВБ і шмат цытавала іх датычна Дубоўкі, але тут былі не вершы, не паказанні, а звычайныя бюракратычныя паперы: характарыстыкі на сяброў філіі, справаздачы, спісы. І вось я іх чытаю — і пачынаю порскаць ад смеху сама сабе ў рукаў. Бо характарыстыкі гэтыя і спісы складзены з такім жыццярадасным сарказмам, што немагчыма не зарагатаць. Чыстае задавальненне.

Тут жа — два прыватныя лісты Дудара да Дубоўкі. Над імі я і «прапала» — раней яны мяне цікавілі толькі з боку фактаграфіі, а цяпер, нарагатаўшыся над характарыстыкамі, я чытала іх проста як лісты, а не як дакументы. Такія абсалютна шчырыя, чалавечыя лісты, напісаныя файнай, трапнай мовай, складзеныя аўтарам, які не тое каб не рабіў выгляд разумніка, ён, можа, і хацеў бы такі выгляд зрабіць, але прыродная шчырасць і відавочная маладосць проста не далі яму выглядаць лепей, чым ён быў.

Асабліва цікава чыталася гэта пасля эпісталярыя Дубоўкі: Уладзімір Мікалаевіч — аўтар эмацыянальна стрыманы, прахалодны, у яго ўвесь час «уключана галава», і нават калі ён злуецца, ён злуецца па справе. Так і пайшло-паехала, і ніводнага разу ані ў вершах сваіх, ані ў артыкулах, ані ў апавяданнях Дудар не падмануў мяне, застаючыся такім самым шчырым у словах і сказах.

Я ведаю, што не толькі я зачапілася менавіта за гэтую надзвычайную шчырасць Дударовых тэкстаў. Ведаю, што тое самае вабіла ў іх першую даследчыцу творчасці Алеся Дудара Ірыну Багдановіч, якая яшчэ ў дзевяностых пісала першыя біяграфічныя артыкулы, прысвечаныя гэтаму творцу. Дый крытыка дваццатых, нават калі пляжыла Дудара за ідэалагічныя памылкі, усё адно праз слова згадвала ягоную «асаблівую шчырасць і суб'ектыўнасць».

І гэта шчырасць захапіла. Я наогул — і ў творчасці, і па жыцці — вельмі цаню людзей шчырых і прастадушных, якія не ўмеюць хітрыць, якія заўсёды такія, якія яны ёсць. Такія людзі паводзяцца ў жыцці, як сланы ў краме з парцалянавым посудам: усё ў іх падае, б'ецца, вечна яны выберуць якую-небудзь бздуру, і не ведаючы потым, куды гэтую бздуру прыткнуць. Калі такія людзі трапляюць у складаныя абставіны, яны нагадваюць чыгуначную рэйку — навокал круціцца і мгліцца складанасць і незразумеласць, а яны стаяць, адным канцом на захад, адным на ўсход, адным бокам да зямлі, адным да неба, і гудуць сваю няхітрую праўду, якую ніхто не прымае ўсур'ёз. Я такіх людзей люблю: і за іх унутраную сілу, якою карыстаецца любы паравоз, і за іх шчырасць, якая ніколі не цэніцца, і за іх вечную пакуту адзіноты, бо як і з кім роўным сабе можа сустрэцца па жыцці паралельная чыгуначная рэйка?

***— Які характар быў у Дудара, да чаго ён імкнуўся ў літаратуры і ў жыцці?***

— Тут складана не ўпасці ў фантазіі, бо пасля «Гасцініцы "Бельгіі"» ў мяне ў галаве моцна паблыталася ўжо, што я прыдумала, а што ўзяла з дакументаў. Спасылкі ж у мастацкім тэксце не ставяцца, не зразумееш цяпер. Дакладна вядома, што ён быў кніжным хлопчыкам. Усе тысячы хатніх кніг, якія ён пачаў збіраць і штампаваць уласным кніжным штампікам з чатырнаццаці гадоў — усе гэтыя тысячы ён прачытаў, часцяком — з алоўкам.

З дванаццаці гадоў — усё сваё гімназічнае дзяцінства — ён кожны дзень сядзеў у чытальнай зале бібліятэкі і глытаў кнігі. Таму і сістэма каштоўнасцяў, і погляды яго былі ў вялікай ступені «кніжныя», адараваныя ад сапраўднага жыцця. Думаецца, адтуль жа, з кніжак, быў і гонар чысты, беспрымесны і бескампрамісны, патрыятызм і нацыяналізм. Ён быў адным з самых зацятых і самых громагалосных «нацдэмаў» дваццатых — нават калі іншыя, той жа Дубоўка, асцярожнічалі і выбіралі словы, ён не асцярожнічаў і не выбіраў, і не таму, думаю, што свядома ляпіў з сябе героя, а таму, што не ўмеў інакш.

У яго хатняй бібліятэцы, вельмі ахайна складзенай (там няма выпадковых кніжак зусім), вялікі корпус тэкстаў — гэта гістарычныя кнігі пра паўстанні рознага кшталту і антыкаланіяльную барацьбу. Прыкладам, у яго сабраныя ўсе матэрыялы судовай справы дзекабрыстаў — калісьці яны выходзілі шматтомным спецыялізаваным выданнем, усе ў яго ёсць, зачытаныя да дзірак. Кнігі пра барацьбу манголаў за незалежнасць, пра Рэспубліку Айроцію, якая некалькі была асобнай аўтаномнай адзінкай у складзе РСФСР, пра антыкаланіяльныя паўстанні ў Афрыцы і Амерыцы...

Я думаю, у ягонай галаве меліся выразныя планы беларускай незалежнасці і былі пралічаныя ўсе спосабы яе дасягнення. Кніжныя спосабы, вядома ж, наіўныя, але — былі.

Што ж тычыцца літаратурных памкненняў, то ён не быў з ліку рэфарматараў альбо трэндсэтэраў. Ён проста выказваўся вершам альбо прозай, яму падабалася корпацца ў словах і ствараць з іх эстэтычныя аб'екты. Мне падаецца, ён не быў надта сур'ёзным у сваіх літаратурных занятках. Ён наогул не быў сур'ёзным.

***— Наконт бібліятэкі Дудара: чым скончылася гісторыя з яе выкраданнем і распродажам?***

— Гэта вельмі цяжкая гісторыя, і мне вельмі сумна яе распавядаць. Яшчэ і таму, што бібліятэка гэтая сабраная гэтаксама, як сабраная мая ўласная. У мяне таксама вельмі шмат матэрыялаў пра дзекабрыстаў, я захаплялася гэтым кавалкам расійскай гісторыі гадоў, мо, дзесяць, і шмат назапасіла матэрыялаў. Я гэтаксама моцна захаплялася канструктывістамі — Сельвінскім, Інбер — і перачытала яшчэ ў юнацтве ўсе тыя зборнікі, якія былі перачытаныя і сабраныя Дударом. Шмат чаго там такога, агульнага.

Карацей, я добра разумею гэтую бібліятэку, мне ў ёй лёгка арыентавацца, і кожная кніжка, якая з яе знікла, гэта не проста асобны экзэмпляр, гэта абавязковая частка цэлага. Ну, і гісторыя гэтай бібліятэкі, якую маці Дудара Вольга Іванаўна зберагла праз голад, нішчымніцу, бамбёжкі, распрадаючы ў цяжкую часіну ўсё, што заўгодна, але толькі каб не Шуркавы кніжкі... Ай... Падчас рамонту ў кватэры пляменніцы Дудара, якая ахвярна зберагала ўсю дзядзькаву спадчыну і ўсё жыццё збірала па крупінках звесткі пра яго, частка бібліятэкі была вынесена рабочымі і здадзеная ў ламбард за капейкі, адтуль кнігі зніклі, нібыта — сышлі праз аўкцыён.

На жаль, у следчай брыгады не атрымалася знайсці скрадзенае і прададзенае. У бібліятэку вярнуліся толькі тры кніжкі з амаль сотні страчаных. Шмат што было вывезена падчас вобшуку НКВД у 1936 годзе. Тое, што засталося, ляжыць зараз у скрынях, пазаклеенае скотчам.

***— Чаму менавіта Дудар стаў галоўным героем вашага раману «Гасцініца "Бельгія"»?***

— Бо іншыя асобы вымагалі б іншага расповеду. Дубоўка — гэта герой. Вядома, і ён быў жывым чалавекам, і ў яго шмат такога, чалавечага, нелакіраванага, але любы раманны расповед пра яго будзе геаічнай сагай, эпасам — настолькі гэта маштабная фігура і цэльная асоба, настолькі годна і бездакорна пражыў ён сваё жыццё. Я пакуль не ўмею напісаць такое жыццё так, каб гэта было сапраўдным — абавязкова саслізнеш у геразацыю, міфалагізацыю і пафас. А Дудар — не герой. Ён такі, як я. Мне здаецца, я добра яго разумею.

***— Кажуць, у гісторыі няма ўмоўнага ладу. Але ўсё ж дазволю сабе пытанне — пісьменніка, творцу, дый агулам літаратуру якога маштабу мы маглі б мець, калі б Алесь Дудар выжыў?***

— Алесь Дудар не быў маштабным паэтам. Але ён быў вельмі светлым, густоўным і шчырым паэтам. Ён рухаўся менавіта ў гэтым напрамку — светлай, спакойнай, прыгожай паэзіі, гістарычных рамантызаваных балад, эстэтычнага ўвасаблення паўсядзённасці, простых чалавечых перажыванняў і эмоцый. Такіх заўсёды не хапае, асабліва ў нашы мізантрапічныя і няпэўныя часы.

А што тычыцца перакладчыцкай спадчыны Дудара — то яна сапраўды ўражвае маштабамі. Ён быў надзвычай таленавіты перакладчык. Алесь Дудар першым пераклаў на беларускую мову Гётэ, Гейнэ, Бамаршэ, Стандэ, першым пераклаў цалкам «Анегіна», прычым усе гэтыя пераклады — пераклады густоўныя, высокапрафесійныя. Безумоўна, у іх ёсць спрэчныя рашэнні, ёсць пэўная неахайнасць, але колькасць філігранных моўных знаходак — надзвычай высокая. Мне вельмі хочацца, каб калі-небудзь на сцэне якога-небудзь нашага тэатру загучаў Дудароў «Фігара» — гэта выбітная перакладчыцкая праца, і наш беларускі «Фігара», між іншым, перакладзены значна лепей, чым любы «Фігара» рускі.

***— Якія творы Алеся Дудара павінен прачытаць кожны беларус?***

— Алесь Дудар — не хрэстаматыйны паэт. Ён занадта суб'ектыўны і шчыры, каб быць паэтам для ўсіх і кожнага. Да таго ж — ён не надта складаны, каб цешыць вока людзей, дасведчаных у высокай паэзіі. Але ж абавязковы верш у яго ўсё ж ёсць — той самы «Пасеклі край наш папалам». На жаль, мы ніколі не выцерабімся з тых геапалітычных варункаў, якія спарадзілі і высокі пафас гэтага верша, і глыбокі ягоны драматызм. А таму — гэты тэкст якраз для ўсіх нас, пакуль мы існуем як народ. Не ў кожнага паэта ёсць такі.

Яшчэ два вершы хацелася б згадаць — «Хрушчы», у якім выразна гучыць дзіўнае для таго часу суперажыванне да ўсіх ахвяраў часу, нават да ворагаў, і «Экзотыку», адзін з маіх любімых, складана пабудаваных і вышталцона зробленых вершаў. Не ведаю, як кожнаму беларусу, але тым, хто цікавіцца беларускай паэзіяй, яны не будуць залішнімі. А так, калі пералічваць вартыя чытання вершы Дудара сыходзячы з маіх уласных густаў, дык я назаву, бадай, увесь змест яго «Выбраных твораў», выдадзеных «Лімарыусам» у 2017 годзе. Я іх часта гартаю, хаця і ведаю ўжо ад бясконцага гартання вялікую колькасць яго радкоў напамяць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Узбекістан. Фантастычная адвага ЦВК

Ва Узбекістане прайшлі парламенцкія выбары — першыя пасля смерці лідара краіны Іслама Карымава і прыходу да ўлады новага кіраўніка Шаўката Мірзіёева. У параўнанні з 2016 годам выбары гэтага года аказаліся самымі дэмакратычнымі ў гісторыі незалежнай краіны. Дэмакратычнасць выявілася не толькі ў тым, што кандыдаты ладзілі нешта накшталт дыскусіі (праўда, усе тэмы дэбатаў былі зацверджаныя «наверсе»). Аднак усіх у плане лібералізацыі пераплюнуў ЦВК, які не прызнаў вынікі выбараў на трох участках з-за адміністрацыйнага ціску на выбаршчыкаў. Нічога падобнага ніколі не фіксавалася, раней ЦВК заўсёды пакорліва выконваў волю выканаўчай улады. Зараз эксперты актыўна спрачаюцца, якія межы можа мець узбекская адліга? Адны кажуць, што кіраўніцтва краіны арыентуецца на расійскую палітычную мадэль кантраляванай дэмакратыі. Іншыя — што перамены ва Узбекістане нельга назваць незваротнымі, і ў грамадстве няма ўпэўненасці, што не адбудзецца адкат назад. Калі скептыкі памыляюцца, і лібералізацыя працягнецца — дык, верагодна, беларусы яшчэ будуць зайздросціць узбекам.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ФРГ. Немцы забудуць пра мяса?

Адным з сімвалаў Германіі, безумоўна, з'яўляюцца кілбасы. Але, магчыма, тут больш зручна ўжываць слова «былі». Нямецкія «Зялёныя» прапануюць увесці падатак на мяса і іншыя прадукты жывёльнага паходжання, паколькі іх вытворчасць негатыўна ўплывае на клімат. «Сельская гаспадарка таксама павінна зрабіць свой унёсак у абарону клімату. Таму неабходны падатак на парніковыя газы для сельскагаспадарчай прадукцыі, пачынаючы з прадуктаў жывёльнага паходжання», — гаворыцца ў рашэнні партыі. Гэтым эколагі вырашылі не абмяжоўвацца — і заявілі пра намер «зрабіць вегетарыянскую і веганскую кухню звычайнай справай». На практыцы гэта азначае, што ўсе кулінарныя ўстановы абавяжуць мець так званае «вегетарыянскае меню». Акрамя таго, плануецца арганізаваць для бюргераў за кошт дзяржавы «курсы навучання веганскаму кулінарнаму мастацтву». Смелыя праекты «Зялёных» выклікалі крытыку з боку іншых партый у Бундэстагу, бо наіўна спадзявацца, што дарагое мяса спыніць глабальнае пацяпленне. А вось хрысціянскія дэмакраты Ангелы Меркель успрынялі ініцыятыву дастаткова спакойна. Мяркуючы па ўсім, кансерватары ўжо цяпер асцярожна зандуюць глебу для будучай урадавай кааліцыі з «Зялёнымі». Што да насельніцтва, то, гледзячы на апытанні, яно абыякава сустрэла навіну пра магчымы рост коштаў на мясныя прадукты.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Пакаяцца за каланіялізм

Правыя партыі Францыі кінуліся рашуча асуджаць прэзідэнта Эмануэля Макрона, які падчас візіту ў адну з афрыканскіх краін заявіў, што лічыць каланіяльную палітыку Французскай рэспублікі «вялікай памылкай». На думку той жа Марын Ле Пэн, правадыркі партыі «Нацыянальны фронт», словы Макрона — «гэта спроба забыць гісторыю Францыі». Больш за тое, ідэя Макрона, як лічыць правая апазіцыя, ставіць у нямёкае становішча французскіх жаўнераў, якія нясуць службу ў былых французскіх калоніях у Афрыцы. Ёсць меркаванне, што пасля сентэнцый Макрона варта чакаць росту антыфранцузскіх настрояў на Чорным кантыненце. Гучаць алармісцкія заявы, што лідар Францыі сваімі словамі стварыў юрыдычную платформу для патрабаванняў матэрыяльнай кампенсацыі за каланізацыю. Зрэшты, пакуль усе гэтыя прагнозы маюць, хутчэй, характар здагадак. А вось дэбаты пра большую самастойнасць, якія ўспыхнулі пасля словаў Макрона ў заморскіх дэпартаментах Францыі (у прыватнасці, у Гвадэлупе), — рэальны факт.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. «Зорныя войны» — зброя русафобаў?

Не паспеў выйсці на экраны The Rise of Skywalker — новы эпізод славутай кінасагі «Зорныя войны», як расійскія патрыёты знайшлі ў ім каскад падтэкстаў і сэнсаў, якія накіраваныя супраць Расіі. Перш за ўсё, звяртаецца ўвага, што праз усю эпапею праходзіць нянавісць да імперыі. «Гэта (непрыманне імперыі) — амерыканская ідэя, паколькі ЗША выраслі з бунту супраць Брытанскай імперыі, а ўзвысіліся ў супрацьстаянні з Германскай імперыяй і Савецкім Саюзам, які абвясцілі "імперыяй зла"», — піша патрыятычны сайт «Царград» і дадае: «Нянавісць да імперыі як да вялікага палітычнага, маральнага і эстэтычнага парадку ад пачатку была зашытая ў самую сутнасць коду амерыканізму». Звяртаецца ўвага на тое, што працяг сагі, у якой імперыя адраджаецца, пачалі здымаць па слядах імперскай авантуры Пуціна ў Крыме. Гэта азначае, што, нібыта, мела месца замова на твор пра змагароў за свабоду, якія перамагаюць імперыю. Цяжка сказаць, наколькі гэтая версія заслугоўвае даверу. У тым ліку таму, што звычайны глядач ніякай палітыкі ў «Зорных войнах» не бачыць.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.rubaltic.ru

# Данбас без украінскай мовы?

Алег НОВІКАЎ

**Кіраўніцтва самаабвешчанай Данецкай Народнай Рэспублікі (ДНР) вырашыла пазбавіць украінскую мову статусу афіцыйнай. Пра моўную палітыку ў рэгіёне і ва Украіне, сітуацыю на Данбасе «Новаму Часу» распавядае данецкі прафсаюзны актывіст Іван Сурмін.**

***— Кіраўнік ДНР Дзяніс Пушылін 2 снежня прапанаваў змяніць артыкул 10 Канстытуцыі ДНР ад 2014 года, згодна з якім у рэспубліцы дзве дзяржаўныя мовы — руская і ўкраінская. Пушылін лічыць, што руская павінна быць адзінай дзяржаўнай моваю ў ДНР. Ці мелі гэтыя ідэі практычны вынік?***

— Пакуль усё на ўзроўні заяваў. Ніякіх прыкметаў забароны ўкраінскай мовы няма. Яе, як і раней, вывучаюць у школах і на філфаку. У гэтым плане хутчэй варта казаць пра нейкі сітуатыўны шантаж Кіева, які вельмі балюча ўспрымае пытанне русіфікацыі Данбасу. Калі б пачаўся пераслед мовы, то, думаю, перш за ўсё змянілі б назву адной з мясцовых бібліятэк, якая дасюль носіць імя Васіля Стуса, украінскага паэта — антысавецкага дысідэнта, які вельмі дэманізаваны ў прарасійскіх колах.

***— Ці можна сустрэць у Данецку людзей, якія размаўляюць на ўкраінскай мове? Наколькі гэта небяспечна?***

— Колькасць, як іх у нас называюць, «балакаючых», безумоўна, скарацілася. Аднак яны сустракаюцца. Асаблівай увагі з боку спецслужбаў да іх няма, паколькі шмат мясцовых украінамоўных раней былі ўпісаныя ў сістэму, якую пабудавала «Партыя рэгіёнаў». Яна актыўна стварала падпарадкаваныя сабе філіі ўкраінскіх нацыяналістычных партый для фальсіфікацыі выбараў. Будучы сябрамі камісій, назіральнікамі на выбарах, сябры такіх партый заплюшчвалі вочы на ўкідванне бюлетэняў. Лідары тых філіяў фактычна былі часткай мясцовага клану. Таму стаўленне да іх сёння абыякавае. На вуліцы можна нават сустрэць экс-кіраўніка секцыі «Кангрэсу ўкраінскіх нацыяналістаў» — партыі, якая паўстала на базе адной з фракцый «Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў».

Праўда, гаворка ідзе пра людзей старога і сярэдняга веку. У горадзе ёсць таксама нейкае ўкраінскае падполле, якое фарміруецца з больш маладых непублічных людзей. Нядаўна яны нагадалі пра сябе ўлёткамі, якія выпраменнія ў стылістыцы батальёну «Азоў».

***— Як ідзе працэс украінізацыі насельніцтва падкантрольнай Кіеву часткі Данбасу?***

— З гэтага года ўсю школьную адукацыю там перавялі на ўкраінскую мову. Наколькі я ведаю, асаблівага супраціву ўкраінізацыі няма, паколькі пакуль усё гэта выглядае вельмі фокусна. Акрамя таго, праблема мовы на Данбасе саступае па актуальнасці праблемам выжывання. Вайна моцна ўдарыла па дабрабыце людзей. У Данецку сярэдні заробак — каля ста долараў. Па той бок фронту заробкі большыя, аднак камуналка расце такімі тэмпамі, што некаторыя з тых, хто збег у 2014-м з Данецку, вырашылі вярнуцца.

***— Вялікі розгалас набыў факт смерці ў Бахмуце (Арцёмаўску), які кантралюецца жаўнерамі ВСУ, маладога ўкраінамоўнага актывіста Арцёма Мірашнічэнкі. Сцвярджаюць, што нейкія мясцовыя непаўналетнія збілі яго да стану комы, з якой ён не выйшаў, за тое, што размаўляў па-ўкраінску…***

— Арцёмаўск — прыфрантавы горад, дзе на руках украінскіх нацыяналістаў ёсць зброя. Калі адбылося забойства на глебе такой тэмы, як мова, тых хлопцаў маглі забіць проста на месцы. А пасля спісаць усё на законы ваеннага часу. Я ўсё ж схіляюся да версіі пра побытавае злачынства.

***— Днямі ў Кіеве зацвердзілі план стварэння спецыяльнага каналу тэлебачання, які будзе працаваць на непадпарадкаваную частку Данбаса. Наколькі перспектыўным падаецца падобны праект? Ці цікавяцца ў Данецку ўвогуле ўкраінскімі медыя?***

— У прынцыпе, у Данецку хапае людзей, незадаволеных рэжымам праз няздольнасць вырашыць сацыяльна-эканамічныя пытанні. А мясцовыя СМІ, якія цалкам кантралююцца адміністрацыяй Пушыліна, пра гэта, натуральна, не кажуць. Адпаведна, нейкае незалежнае, крытычнае на адрас улады СМІ магло б знайсці сваю нішу, стварыць сетку карэспандэнтаў і гэтак далей. Аднак усе разумеюць, што памер карупцыі ва Украіне не дазволіць рэалізаваць ідэю такога маштабу. Што тычыцца інтарэсу тутэйшых да ўкраінскіх медыя, то, напэўна, нейкую аўдыторыю яны маюць, аднак пра памер іх уплыву цяжка казаць.

***— Зараз шмат спекуляцый наконт таго, што ўвосень наступнага года ў ДНР усё ж адбудуцца выбары пад кантролем АБСЕ. Відавочна, што там мясцовая ўлада паспрабуе стварыць ілюзію дэмакратыі і шматпартыйнасці. Ці можна ў такім разе чакаць з'яўлення ў ДНР праўкраінскай партыі?***

— Лёгка. Заўжды можна мабілізаваць былы актыў «Прасвіты» (украінскі аналаг ТБМ. — Аўт.) і нацыяналістычных партый. Не кажучы пра тое, што напрацоўкі «Партыі рэгіёнаў» па фальсіфікацыі выбараў яшчэ не забытыя. Аднак, гледзячы з Данбасу, пакуль у такія выбары слаба верыцца. Узаемны недавер паміж Кіевам і Данецкам усё яшчэ вельмі моцны.

# 2020: год, калі ўсё зменіцца

Алег НОВІКАЎ

**Цяжка ўзгадаць, калі яшчэ лейтматывам большасці навагодніх прагнозаў на наступны год былі чаканні глабальных і рэгіянальных катаклізмаў.**




Безумоўна, галоўная падзея наступнага года — выбары прэзідэнта ЗША, дакладную развязку якіх наўрад ці спрагназуе самы лепшы аракул ад паліталогіі. Градус узаемнай нянавісці дэмакратаў і рэспубліканцаў ужо цяпер настолькі высокі, што ў галаву не ўкладаецца, як прайграўшы кандыдат зможа захаваць палітэс, прызнаўшы сябе лузерам. Беручы пад увагу нарастаючую агрэсію, каментатары нават дазваляюць сабе фантазіі пра гібрыдную грамадзянскую вайну ў Злучаных Штатах, якая распачнецца адразу пасля абвяшчэння вынікаў галасавання.

Уверцюрай да старту прэзідэнцкай кампаніі ў ЗША стануць хуткія сенацкія слуханні наконт імпічменту Трампа. Хаця рэспубліканцы дамінуюць у Сенаце, слуханні абяцаюць ператварыцца ў сапраўднае шоу. Банкаваць будзе Трамп, які збіраецца выліць на дэмакратаў тоны кампрамату пра карупцыйныя авантуры іх лідара Джо Байдэна ва Украіне.

Шоу ў Сенаце будзе мець уплыў і на наш рэгіён. Прэса піша пра пагрозы для рэпутацыі Украіны, якую трампаўскія медыя будуць маляваць як краіну з жудаснай карупцыяй. Знешнепалітычная таксічнасць кіеўскай эліты можа спрыяць трансфармацыі рэжыму Зяленскага аж да магчымага стварэння «ўраду моцнай рукі» (роля Піначэта адводзіцца дырэктару МУС Арсену Авакаву).

Што тычыцца іншага суседа, Расіі, то большасць каментатараў чакаюць працягу зніжэння рэйтынгаў улады. Гэта шмат у чым звязана з пенсійнай рэформай, павышэннем коштаў на жыццёва неабходныя тавары, і да таго ж зніжэннем узроўню рэальных даходаў насельніцтва. Аднак крытычным для Пуціна ўсё ж будзе не наступны год, а, хутчэй, 2021-ы, калі праз парламенцкія выбары чакаецца масавая палітызацыя грамадства. Ёсць думка, што напярэдадні 2021-га ў Крамлі будуць спрабаваць пабудаваць аналаг крымскага кансэнсусу, калі расіяне забудуцца на паўсядзённыя праблемы за кошт нейкага тэрытарыяльнага пашырэння.

Патэнцыйнай крыніцай нестабільнасці называюць Вялікабрытанію, якая ў студзені канчаткова эвакуюецца са складу Еўрасаюза. Цяперашні прэм'ер Борыс Джонсан абяцае суайчыннікам грандыёзныя прарывы пасля фіналу Brexit, аднак пакуль усё выглядае на пачатак другога акту драмы. Нават такія салідныя выданні, як El Pais і Le Monde, пішуць пра хуткае аб'яднанне Ірландыі і з'яўленне на мапе незалежнай Шатландыі. Дакладнага адказу на пытанне, як будзе адбывацца развод Лондану з Белфастам і Эдынбургам, і ці будзе ён мець мірны характар, пакуль няма.

У кантэксце Brexit і паступовага сыходу з палітыкі ў Германіі Ангелы Меркель чакаюць рост уплыву Макрона. Заклікі Парыжу да дыялогу з Пуціным, напэўна, створаць лініі канфліктнасці са сталіцамі Усходняй Еўропы. Апошнія будуць легітымаваць нацыянал-кансерватыўную рэгіянальную альтэрнатыву Брусэлю. Чакаецца паступовая адмова ад ліберальнай палітычнай павесткі і ў краінах старой Еўропы, дзе баяцца новай хвалі навалы мігрантаў з Азіі і Афрыкі. Аднак, хутчэй, у наступным годзе ЕС застанецца больш-менш кансалідаваным па асноўных пытаннях.

**Дэкарацыяй усіх апісаных працэсаў будзе сусветны эканамічны крызіс, які, як мяркуюць спецыялісты, напоўніцу праявіцца ў другой палове 2020-га. Прагнозы яго маштабаў проста шакуюць. Эксперты нават называюць будучую рэцэсію «суперкрызісам»**

Наіўна думаць, што Беларусь застанецца на перыферыі ўсяго гэтага бедламу. Пачынаючы са студзеня NATO будзе праводзіць ва Усходняй Еўропе беспрэцэдэнтныя манеўры Defender Europe 2020 з удзелам 37 тысячаў вайскоўцаў з 18 краінаў свету. Пры гэтым 20 тысячаў вайскоўцаў сухапутных войскаў будуць перакідваць у Еўропу з ЗША. Чакаецца незвычайная акцыя, калі ў 10 аэрапортах старога кантынента выгрузяцца амерыканскія ваенныя, і на працягу 96 гадзін разгорнуць звыш 480 танкаў і баявых машын. Гатоўнасць самалётаў да ўжывання ядзернай зброі прадугледжваецца скараціць з 10 сутак да 24 гадзін.

Эксперты разыходзяцца ў ацэнках такога мерапрыемства. Адны кажуць, што гэта дэкларацыя рашучасці падтрымаць мясцовых саюзнікаў. Другія — што Трамп хоча прадэманстраваць Еўропе магутнасць Альянсу і прымусіць мясцовыя ўрады не шукаць альтэрнатывы ў выглядзе Еўрапейскай арміі, пра якую любіць казаць той жа Макрон.

У Маскве тыя манеўры некаторыя трактуюць як пралог да поўнамаштабнай вайны. З'явіліся спекуляцыі, што Расія можа адказаць на Defender Europe 2020 нават бамбардзіроўкай усіх еўрапейскіх сталіц. Усё гэта гарантуе нам у хуткім часе медыя-істэрыку, якая дакладна адаб'ецца на тонусе грамадзян.

Нарэшце, дэкарацыяй усіх апісаных працэсаў будзе нарастаючы сусветны эканамічны крызіс, які, як мяркуюць спецыялісты, напоўніцу праявіцца ў другой палове 2020-га. Прычым, прагнозы наконт яго маштабаў проста шакуюць. Эксперты называюць будучую рэцэсію «суперкрызісам» і кажуць, што не абыдзецца без масавых беспарадкаў, нават з перабоямі паставак харчавання. Прычым, калі той крызіс закончыцца, ніхто не ведае. Самыя вялікія песімісты лічаць, што сітуацыя на планеце нармалізуецца толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў. Апошняе дазваляе павіншаваць усіх не толькі з новым годам, але і з пачаткам новага свету.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рут Дэвідсан



Як вядома, кансерватары, шатландскай секцыяй якіх калісьці кіравала Рут Дэвідсан, вельмі няўдала паўдзельнічалі ў выбарах у брытанскі парламент. У агульным нацыянальным заліку торы перамаглі, але непасрэдна ў Шатландыі іх чакаў эпічны канфуз — партыя не атрымала ніводнага мандату.

Пасля 14 снежня шмат хто прыгадаў, як падчас выбарчай кампаніі Рут Дэвідсан зрабіла вельмі экстравагантную заяву. «Я з радасцю раблю стаўку на тое, што распрануся на беразе возера Лах-Нэс і зладжу на вачах гледачоў сеанс дзікага плавання, калі шатландскія нацыяналісты атрымаюць (на снежаньскіх выбарах) 50 мандатаў», — напісала яна ў нейкім выданні. Па выніках галасавання Партыя шатландскіх нацыяналістаў (SNP) мае аж 55 парламентарыяў, атрымаўшы перамогу на ўсіх рэгіянальных выбарчых участках.

Цяпер Рут вымушана пазбягаць мясцовых журналістаў, якія нагадваюць ёй тое неасцярожнае абяцанне. З іншага боку, думаецца, што хутка пра яе забудуць. Па ўсіх прыкметах пачынаецца фаза канфрантацыі паміж Лонданам і Эдынбургам, які патрабуе незалежнасці краю.

### Марыя Саледад Люевана



Мексіканская сенатарка, падаецца, вырашыла перагледзець вынікі эпохі рэвалюцый XIX стагоддзя, якія аддзялілі царкву ад дзяржавы. Прыкладна праз 150 гадоў пасля тых падзей сенатарка прапануе вярнуць царкву ў грамадска-палітычнае жыццё.

Паводле яе праекту папраўкі да Закона аб рэлігійных арганізацыях, з яго тэксту выключаецца пункт пра «гістарычны прынцып аддзялення цэркваў ад дзяржавы». Царкоўнікі атрымаюць права мець свае СМІ, кансультаваць адміністрацыі падчас набору персаналу, супрацоўнічаць з чыноўнікамі па шматлікіх пытаннях.

Сваёй ініцыятывай сенатарка яўна кепска дапамагла прэзідэнту Мануэлю Лопесу Абрадору. З аднаго боку, прэзідэнт, як прадстаўнік левых сіл, павінен абараняць прынцып свецкасці дзяржавы. Тым больш, што ў свой час Мексіка была першай краінай у свеце, якая на канстытуцыйным узроўні аддзяліла царкву ад дзяржавы. З іншага боку, сваёй перамозе Абрадор абавязаны каталіцкім і пратэстанцкім арганізацыям і партыям, якія цяпер патрабуюць ад прэзідэнта надаць ім права выдаваць свае медыя.

У выніку гарант вымушаны асцярожна каментаваць праект сенаткі. Пакуль не зразумела, як доўга ён зможа займаць пазіцыю «і вашым, і нашым». Прэса піша пра сур'ёзную пагрозу прынцыпам свецкай дзяржавы ў Мексіцы.

### Генадзь Зюганаў



Лідар Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ) выклікаў сапраўдную палітычную навалу, заявіўшы, што не выключае правядзення ў Расіі датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў летам наступнага года.

Пра гэта ён сказаў у ходзе выступлення на арганізаванай камуністамі канферэнцыі «Расія–2024»: «У студзені-лютым мы павінны правесці магутны форум і зацвердзіць праграму, сфарміраваць урад нацыянальных інтарэсаў і народнага даверу — і ісці на выбары. Я не выключаю, што могуць быць і датэрміновыя прэзідэнцкія выбары», — заявіў Зюганаў. Паколькі выбары прэзідэнта Расіі, паводле Канстытуцыі, павінны прайсці толькі ў 2024-м, словы «Дзядзькі Гены» (мянушка Зюганава) выклікалі здзіўленне. Узнікла версія, што Зюганаў нешта ведае пра некаторыя аспекты перамоваў наконт расійска-беларускай інтэграцыі. Дапускаюць, што ў рамках кансультацый таксама абмяркоўваюць правядзенне выбараў саюзнага прэзідэнта.

Пазней Зюганаў растлумачыў свой пасаж негатыўнымі трэндамі ў краіне: «Расце беднасць — і эканамічны крызіс можа ператварыцца ў палітычны». Эксперты таксама не выключаюць, што Зюганаў папросту хацеў узбадзёрыць актыў і электарат КПРФ. Зрэшты, многія каментатары працягваюць мусіраваць тэму выбараў прэзідэнта саюзнай дзяржавы ў 2020 годзе.

# «Дзе ўлада — там няма свабоды»: як беларус-анархіст ледзь не ўзарваў Крэмль

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Група анарха-эсэраўскіх баевікоў, адным з лідараў якой быў ураджэнец Беларусі Казімір Кавалевіч, 100 гадоў таму кінула дзёрзкі выклік ВЧК і партыі бальшавікоў.**




АНАРХИЯ
Орган Всероссийской и Московской
Организации Анархистов Подполья.
Декларация Анархистов Подполья

Будынак у Лявонцьеўскім завулку пасля выбуху. Фота www.yandex.by

### Афіцэрскі дзённік

Увосень 1919 года на руінах Расійскай імперыі, разбуранай рэвалюцыяй, другі год ішла грамадзянская вайна. «Белыя» і «чырвоныя», «зялёныя» і розныя нацыянальныя фарміраванні, а таксама замежныя інтэрвенты з паўтара дзясятка дзяржаў вялі паміж сабою лютую барацьбу. Па абодва бакі лініі фронту насельніцтва цярпела рэквізіцыі і проста рабаванні ды гвалт. Але калі такое стаўленне з боку войскаў расійскіх нацыяналістаў або акупантаў было цалкам тлумачальнае, то «харчразвёрстка» бальшавікоў і самавольства «надзвычаек» разумення ў працоўных і сялян не выклікала. Аднак, пакуль гаворка ішла пра пагрозу рэстаўрацыі старых парадкаў і вяртання зямлі памешчыкам, шматмільённая сялянская маса гатовая была трываць.

Дзянікіну і Калчаку супрацьстаялі не толькі бальшавікі, але і левыя эсэры, анархісты, максімалісты, дый мноства беспартыйных сялян і гарадскіх працоўных. Супраць польскай акупацыі разгортвала партызанскую барацьбу Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Ва Украіне ледзь не вырашальнай сілай супраціву акупантам і белагвардзейцам была рэвалюцыйная паўстанцкая армія Украіны (РПАУ) Нестара Махно.

У верасні 1919 года войска Махно, падавалася, было ўжо безнадзейна заціснутае расійскімі белагвардзейцамі пад Уманню. Але перад шыхтамі зачыталі дзённік белага афіцэра, як дзянікінцы падсмажвалі селяніна-махноўца на распаленым лісце жалеза: «Спачатку спінку, потым жывоцік... А затым паручнік Мікі знёс яму галаву разрыўнымі...» Лютым ударам паўстанцкая конніца змяла белых, Сімферопальскі афіцэрскі полк быў высечаны амаль цалкам. Ад Умані пачаўся дзёрзкі рэйд махноўцаў па тылах Дзянікіна, што сарваў яго наступ на Маскву. Шмат каму ў РПАУ ўжо бачыўся новы саюз з савецкай уладай — з анархісцкай аўтаноміяй на поўдні Украіны. Але ў сталіцы чырвонай Расіі адбываліся зусім іншыя падзеі.

### Бомба ў завулку

У Маскве, у былым асабняку графіні Уваравай у Лявонцьеўскім завулку, 25 верасня 1919 года ішла нарада Маскоўскага камітэта РКП(б). Яе вёў Аляксандр Мяснікоў-Мяснікян, той самы, па загадзе якога ў снежні 1917 года быў разагнаны Усебеларускі з'езд у Мінску. Нават на пасадзе ваеннага наркама ССРБ Мяснікян працягваў выступаць супраць яе незалежнасці. Пасля дакладаў Бухарына і іншых пачалі абмяркоўваць план школьнай працы. Многія пацягнуліся да выхаду.

Мяснікоў запрасіў выходзіць хутчэй. У гэты час, разбіўшы акно, у залу ўляцеў нейкі прадмет. Людзі кінуліся да выхаду, сакратар МК партыі бальшавікоў Уладзімір Загорскі рушыў да пабітага шкла, і ў гэты момант жудасны сілы выбух страсянуў памяшканне.

Ад выбуху абрынулася столь і адна са сценаў. 12 чалавек былі забітыя, 55 — параненыя. Сярод параненых быў Юры Сцяклоў, рэдактар «Известий». Мяснікова, які атрымаў кантузію, вывелі пад рукі.

Першая думка — будынак узарвалі белагвардзейцы з падпольных арганізацый, якімі кішэла тады Масква. Але неўзабаве на вуліцах Масквы з'явілася адозва: «Увечары 25 верасня на сходзе бальшавікоў у Маскоўскім камітэце абмяркоўвалася пытанне аб мерах барацьбы з бунтам народу. Уладары бальшавікоў у адзін голас выказаліся на пасяджэнні аб прыняцці самых крайніх мераў для барацьбы з тымі, хто паўстае — рабочымі, сялянамі, чырвонаармейцамі, анархістамі і левымі эсэрамі, — аж да ўвядзення ў Маскве надзвычайнага становішча з масавымі расстрэламі». Адозва была падпісаная ад імя «Усерасійскага паўстанцкага камітэта рэвалюцыйных партызан». Але ўсё роўна многія працягвалі лічыць, што гэта — правакацыя белых. Многія анархісты яшчэ ўваходзілі ў Саветы і савецкія ўстановы, служылі ў Чырвонай Арміі.

Шэраг легальных анархісцкіх груповак адмежаваліся і асудзілі замах, а адна з іх нават заклікала ВЧК да адплаты. Таму бальшавіцкая газета «Праўда» нават выпусціла артыкул: «Дзянікінцы пад маскай анархістаў».

Пасля высветлілася — асабняк у Лявонцьеўскім завулку сапраўды ўзарвалі прыхільнікі безуладдзя. Толькі падпольныя.

Паводле жудаснай іроніі гісторыі, большасць загінулых ад выбуху склалі працоўныя. З чатырох забітых і памерлых ад ранаў жанчын трое былі простымі працаўніцамі.

### Атаман Маруся

У дынаміце, што рвануў у Лявонцьеўскім, сканцэнтраваліся ўсе ўзаемныя супярэчанні і нянавісць, што разгарэлася паміж былымі саюзнікамі па Кастрычніцкай рэвалюцыі. У чэрвені 1919 года бальшавіцкае камандаванне, абвінаваціўшы Махноўскую брыгаду Чырвонай Арміі ў раскладанні, разарвала саюз з «бацькам». Пагаворвалі, што за гэтым стаяў Леў Троцкі, які моцна недалюбліваў сялянскіх камандзіраў. Як бы там ні было, але чальцы штабу Махно на чале з левым эсэрам і былым афіцэрам Озеравым былі арыштаваныя ў Харкаве. Паўстанцаў нібы правакавалі да вайны на два франты — з «белымі» і «чырвонымі».

У чэрвені ў Вялікім Такмаку бацька Махно сустрэўся з анархісткай Марусяй Нікіфаравай. Адносіны паміж двума атаманам, што канкуравалі за ўплыў на поўдні Украіны, таксама былі напружаныя.

Рэвалюцыйная біяграфія Марусі пачалася ў Старадубскім раёне, які ўваходзіў тады ў сферу ўплыву Палескага камітэта РСДРП з цэнтрам у Гомелі. Але 16-гадовая дзяўчына далучылася да больш радыкальных эсэраў-максімалістаў, падчас рэвалюцыі 1905 года ўдзельнічала ў тэрорах і экспрапрыяцыях. Трапіла на катаргу. У арганізацыі ўцёкаў яе і іншых зняволеных жанчын з Маскоўскай турмы ўдзельнічаў Уладзімір Маякоўскі, які ў маладосці таксама захапляўся анархісцкімі ідэямі. У Парыжы яна вучылася ў мастака-імпрэсіяніста Рэнуара, а потым пайшла добраахвотнікам у французскую армію. Падчас рэвалюцыі 1917 года і грамадзянскай вайны яна вылучалася радыкалізмам і жорсткасцю, якімі абураўся нават Махно, што сам на мяккасць характару не пакутаваў.

Па словах начальніка штаба РПАУ Віктара Белаша, на сустрэчы ў Такмаку Маруся агучыла свой план: яе атрады «анарха-тэрарыстаў» разгорнуць баявыя дзеянні ў тыле як белых, так і бальшавікоў. З трох атрадаў два накіроўваліся супраць белагвардзейцаў — адзін на чале з самой Нікіфаравай выязджаў у Крым і Растоў для замаху на Дзянікіна, другі ехаў у Сібір — узрываць Калчака. Баявая група пад кіраўніцтвам Казіміра Кавалевіча выпраўлялася ў Харкаў вызваляць з ЧК штаб Махно.

Для гэтых аперацый Маруся прасіла ў бацькі грошай. Махно спрадкаў даваць не хацеў. Справа, па словах Белаша, ледзь не дайшла да перастрэлкі. Нарэшце бацька плюнуў і выдаў атаманшы 250 тысяч рублёў. На тым і развіталіся.

У ліпені ў Сімферопалі Маруся Нікіфарава разам са сваім мужам анархістам Вітольдам Бжостэкам была апазнаная і павешаная па загадзе генерала Слашчава. Атрад Кавалевіча выехаў у Харкаў, але вызваліць таварышаў не паспеў: да гэтага часу Озераў і яго штабісты ўжо былі без усякай віны расстраляныя. У адплату баевікі хацелі спачатку ўзарваць штаб мясцовай «надзвычайкі», але потым выправіліся ў Маскву: на думку лідара групы Казіміра Кавалевіча, менавіта ў Маскве была сканцэнтраваная вяршыня новай улады і «ўсё зло».

### Баявік з Пінску

Казімір Кавалевіч («Яфім») нарадзіўся ў Пінскім павеце Мінскай губерні ў сям'і сялян. Вядома, што з 1916 года ён працаваў на Маскоўска-Курскай чыгунцы. Можна меркаваць, што пасля заняцця Пінска нямецкай арміяй малады працоўны эвакуяваўся ўглыб Расіі разам са шматлікай масай бежанцаў. Тады ж Кавалевіч далучыўся да нелегальнай анарха-сіндыкалісцкай арганізацыі, спрабаваў арганізаваць прафсаюз работнікаў чыгункі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Кавалевіч быў адным з заснавальнікаў Маскоўскай федэрацыі анархісцкіх груповак і яе сакратаром. Ён валодаў пэўным літаратурным талентам, шмат пісаў у газеце МФАГ «Анархія» і прафсаюзным выданні «Думы чыгуначніка». Анархіст з Пінска выступаў супраць Часовага ўрада і за незалежнасць прафсаюзаў ад любых палітычных партый.

Увосень 1917 года Кавалевіча абралі чальцом ЦК Усерасійскага Саюза чыгуначнікаў. Ён актыўна падтрымаў стачку чыгуначнікаў у кастрычніку 1917 года. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве, член Чыгуначнага рэўкама. Ігнаруючы распараджэнні меншавіцкага кіраўніцтва прафсаюза, арганізаваў перапраўку ў Маскву атрадаў Чырвонай Гвардыі, удзельнічаў у вулічных баях. Аднак неўзабаве, як анархіст, заняў да новай улады рэзка крытычную пазіцыю. На думку анарха-камуністаў, бальшавікі ўзурпавалі паўнамоцтвы Саветаў, якія павінны былі стаць структурамі новага грамадства без капіталістаў і дзяржаўнай бюракратыі.

Вясной 1918 года бальшавікі і левыя эсэры раззброілі атрады пад чорнымі сцягамі, што раней легальна дзейнічалі ў Маскве. Тады з'явіліся першыя падпольныя групоўкі анархістаў. Увесну 1919-га Кавалевіча арыштоўвалі па абвінавачванні ў экспрапрыяцыі «Цэнтратэкстылю», здзейсненага адной такой групоўкай, але за недаказанасцю абвінавачвання вызвалілі. У траўні ён выступіў з дакладам на тэму рэарганізацыі Маскоўскай Федэрацыі анархістаў, а затым выправіўся ў брыгаду Махно, што ўваходзіла тады ў Чырвоную Армію, працаваў у контрразведцы Махно ў Марыупалі. Затым Кавалевіч далучыўся да арганізацыі «анархістаў падполля» Нікіфаравай-Бжостэк. І зноў апынуўся ў Маскве.

Здольны арганізатар, Казімір Кавалевіч разгарнуў актыўную дзейнасць. Найперш ён падняў свае старыя сувязі ў асяроддзі працоўных-чыгуначнікаў, што спачувалі анархісцкім ідэям. Кавалевіч наладзіў сетку канспіратыўных кватэр і друкарню для выпуску прапагандысцкіх выданняў. Ён жа ўзначальваў літаратурную групу. Баявой групай кіраваў Пётр Собалеў.

Першапачаткова анархісты меркавалі разгарнуць масавы працоўны рух за замену «камісарадзяржаўя» «вольнымі Саветамі». Але ва ўмовах жорсткага кантролю РКП і ЧК за сітуацыяй аб масавым руху марыць не даводзілася. І тады было вырашана засяродзіцца на тэрарыстычнай дзейнасці. Пасля, паламаўшы рэпрэсіўны апарат «катаў рэвалюцыі» «тэрорам злева», меркавалася разгарнуць і «масавую пралетарскую барацьбу».

У верасні Казімір Кавалевіч усталяваў сувязь з самай крайняй фракцыяй левых эсэраў на чале з Данатам Чарапанавым (мянушка «Чарапок»). Сын маскоўскага антрэпрэнёра, ён, па ўспамінах паэта з беларускімі каранямі Уладзіслава Хадасевіча, быў падобны да «хулігана». Але ў 1917 годзе Чарапанаў далучыўся да левых эсэраў і з галавой сышоў у рэвалюцыю.

Калі ў цэлым партыя левых эсэраў, нягледзячы на ганенні, ва ўмовах наступу Дзянікіна выступала супраць узброенай барацьбы з бальшавікамі, то «чарапанаўцы» былі зусім непрымірымымі. Левыя эсэры-актывісты, як і «анархісты падполля», лічылі — рэвалюцыю ад рэстаўрацыі старых парадкаў выратуе толькі сілавое зверажэнне бальшавікоў. На думку левых радыкалаў, менавіта камуністы сваёй дыктатурай і антысялянскай палітыкай рыхтавалі прыход рэакцыі.

Да падполля далучылася таксама антыбальшавісцкае крыло эсэраў-максімалістаў. Зрэшты, падчас падрыхтоўкі імі «экса» на патронным заводзе ў Туле ў групе адбыўся раскол, які ледзь не скончыўся стральбой.

Сярод удзельнікаў баявых груп былі розныя людзі, у тым ліку і тыя, хто хаваўся ад прызыву ў Чырвоную Армію, і проста беспрацоўныя. Так, нейкі Васіль Цямін доўга не мог знайсці працу — і атрымаў ад Кавалевіча прапанову працаваць у арганізацыі анархістаў «па сувязі з працоўнымі». З наступных паказанняў многіх вымалёўваецца часцяком такая карціна: былы чырвонаармеец ці партызан, анархіст, беспартыйны або нават камуніст трапляе ў Маскву, хварэе на тыф, застаецца без працы. І тут сустракае Кавалевіча, які дае яму кватэру, грошы і паступова вярбуе.

Аб'ядная арганізацыя была гучна названая «Усерасійскі паўстанцкі штаб рэвалюцыйных партызан». Ім быў здзейснены шэраг дзёрзкіх рабаванняў банкаў у Маскве, Івана-Вазнясенску і кааператыва ў Туле. Толькі ў Туле было ўзята 5 мільёнаў рублёў. Зрэшты, большую частку грошай забралі анархісты-латышы, якія з'ехалі на радзіму ствараць арганізацыю «анархістаў падполля» там.

Пётр Собалеў завербаваў супрацоўніцу ВЧК Кацю, якая перадала яму адрасы дзясятка сакрэтных супрацоўнікаў ЧК.

Спачатку «падпольнікі» хацелі падарваць будынак ВЧК. Але потым Кавалевіч з Чарапанавым прыйшлі да высновы, што чэкісты і асабіста Дзяржынскі з'яўляюцца ўсяго толькі «прыладай партыі бальшавікоў». У ЧК у той час служыла пэўная колькасць былых анархістаў і левых эсэраў. «Анархісты падполля» вырашылі біць па галаве, а не па руках. Пасля таго, як у савецкай прэсе быў апублікаваны анонс пасяджэння Маскоўскага камітэту РКП з вялікім спісам высокапастаўленых партыйных дзеячаў, выбар мэты быў вызначаны канчаткова. У былы асабняк графіні Уваравай планаваўся прыезд і Уладзіміра Леніна-Ульянава. Да свайго шчасця, у той дзень старшыня Саўнаркама прыбыць не змог. Цікава, што для Леніна і Луначарскага анарха-баевікі рабілі выключэнне, заяўляючы, што паважаюць іх як рэвалюцыянераў і забіваць не жадаюць.

Бомбу ў Маскоўскі камітэт партыі кінуў Пётр Собалеў. Ёсць у гэтай справе пэўная містыка — у Лявонцьеўскім завулку ў Маскве загінулі 12 чалавек, столькі ж сяброў штабу Махно расстралялі ў Харкаве.

Адозва пра выбух была напісаная Казімірам Кавалевічам, які адказваў за ідэалогію групы. Відавочна, што менавіта Кавалевічам былі напісаны і праграмны артыкул Усерасійскай арганізацыі анархістаў падполля «Час адмежавацца». У ім ён прыводзіць фрагменты сваіх дыскусій яшчэ легальнага перыяду, граміць і «прыслужнікаў буржуазіі» меншавікоў, і бальшавікоў. Аўтар праклямацыі прызнае, што бальшавікі таксама «сацыяльныя максімалісты», і ў будучыні імкнуцца да безуладдзя. Але на справе яны, як і меншавікі — «паступоўцы». Не адмовіліся ад войска, паліцыі і іншых элементаў дзяржавы, і паступова адрадзілі «самадзяржаўна-капіталістычны лад».

Артыкул прысвечаны размежаванню не толькі з камуністамі, але і з ранейшымі таварышамі — легальнымі анархістамі. Рашуча асуджаліся не толькі тыя, хто пайшоў на супрацоўніцтва з Савецкай уладай, служыў у Чырвонай Арміі ды іншых органах. Але і тыя з прыхільнікаў безуладдзя, хто, выступаючы за падполле, самі не прымыкаюць да яго.

Зрэшты, акрамя заклікаў замены дзяржавы «вольнымі канфедэрацыямі працы», вытрыманы ў звыклым для анарха-сіндыкалізму духу, ва ўлётках анарха-падполля загучалі новыя ноткі. У «Дэкларацыі анархістаў падполля»: «Няхай будзе кожны забяспечаны сродкамі вытворчасці, наколькі ён умее іх прадукцыйна выкарыстоўваць, незалежна ад іншых або сумесна з іншымі... Кожны толькі тады будзе вольны, калі можа быць забяспечаны па-за дамовай з грамадствам, і тады, калі свабодна заключае дамову». Тут ужо абазначыўся ўхіл у бок анарха-індывідуалізму, выкліканы гадамі «ваеннага камунізму».

Зрэшты, неўзабаве ідэйная эвалюцыя тэарэтыкаў падполля была перапыненая. ВЧК нарэшце напала на след «рэвалюцыйных партызан». Спачатку былі арыштаваныя некаторыя анархісты, якія знаходзіліся на легальным становішчы, а пад націсканне былі ўзятыя ўсе вядомыя старыя адрасы. Чэкісты зрабілі засаду і на ранейшай кватэры Марусі Нікіфаравай.

У той жа дзень у дзверы пагрукалі. На парозе стаяў малады чалавек з цёмнай барodкай і апушчанымі ўніз вусамі. Чэкісты загадалі яму падняць рукі, але той імгненна выхапіў браўнінг і ва ўпор стрэліў у камісара МЧК. Адчайна адстрэльваючыся, баявік дастаў бомбу і кінуў яе ў чэкістаў. Бомба не разарвалася, а баявік быў забіты. Дакументы ў яго кішэні апынуліся падробленымі. Але па картатэцы з фотаздымкамі, якая была ва ўстанове Дзяржынскага, высветлілі: загінулы — Казімір Кавалевіч, служачы Маскоўска-Курскай чыгункі.

Затым у чарговай засадзе на канспіратыўнай кватэры на Арбаце ў перастрэлцы з чэкістамі быў забіты і іншы лідар «анархістаў падполля» — Пётр Собалеў. Маючы велізарныя грошы, ён шкадаваў марнаваць іх асабіста на сябе і не купіў у спекулянтаў на Сухараўцы штаны, якія падаліся яму занадта дарагімі. Так і памёр — у старых залатаных штанах.

## Апошні выбух анархістаў падполля

З паказанняў арыштаваных сталі вядомыя іншыя адрасы і прозвішчы. Адным з першых на допыце «паплыў» Вася Цямін — «талстовец», чалавек у арганізацыі выпадковы. Чэкісты даведаліся, што ў гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі «анархісты падполля» рыхтавалі новую тэрарыстычную акцыю супраць партыі бальшавікоў, «якія здрадзілі ідэалам Кастрычніка». Меркавалася ўзарваць... Крэмль!

Для гэтага ўжо праводзілася разведка шляхоў, па якіх можна было даставіць выбухоўку. Нябожчык Собалеў разлічыў, што для выбуху неабходна 60 пудоў піраксіліну. Выбуховыя рэчывы «рэвалюцыйным партызанам» дастаўляліся з завода ў Бранску. А бомбы яны рабілі ў сваёй лабараторыі на дачы ў Краскава.

За некалькі дзён да святкавання рэвалюцыі атрад чэкістаў спешна выехаў у Краскава. Захапіць дынамітчыкаў хацелі пад раніцу, знянацку, але гэта не ўдалося — баевікі неслі кругласутачнае дзяжурства. Завязаўся сапраўдны бой. Анархісты адстрэльваліся з рэвальвераў і кідалі самаробныя бомбы. Пасля дзвюх з паловай гадзін перастрэлкі стала зразумела — супраціў бессэнсоўны. Анархісты-падпольшчыкі вырашылі жывымі не здавацца, і велізарнай сілы выбух узняў дачу ў паветра...


Нестар Махно.
Фота 24smi.org

**Левыя эсэры-актывісты, як і «анархісты падполля», лічылі — рэвалюцыю выратуе толькі сілавое звяржэнне бальшавікоў. На іх думку, менавіта камуністы сваёй дыктатурай і антысялянскай палітыкай рыхтавалі прыход рэакцыі**

## Такі лёс

Восем чалавек з ліку арыштаваных па справе «анархістаў падполля» былі расстраляныя. Аднак ЧК адмовілася ад аднаўлення «чырвонага тэрору» з нагоды выбуху Маскоўскага камітэта РКП(б), то-бок ад расстрэлу закладнікаў. Афіцыйна «Весткі ВЧК» тлумачылі гэта гуманнымі меркаваннямі і нежаданнем паўтарыць перагібы мінулага. Аднак тут, мабыць, была яшчэ адна калізія: у закладніках звычайна знаходзіліся прадстаўнікі буржуазных слаёў і адпаведных партый. «Рэвалюцыйныя партызаны» ж былі рабочымі, сялянамі і службоўцамі, і менавіта ад іх імя змагаліся і са старой, і з «новай буржуазіяй» — як называлі анархісты савецкіх чыноўнікаў.

Апошні з ацалелых «рэвалюцыйных партызан» Данат Чарапанаў быў арыштаваны ў пачатку 1920 года. Скарыстацца сваёй зброяй левы эсэр не паспеў, але смяротнага прысуду ён пазбег па іншай прычыне — 17 студзеня 1920 года ў сувязі з перамогамі на франтах грамадзянскай вайны смяротнае пакаранне ў савецкай рэспубліцы было адменена. Аднак у жывых Чарапанаў усё роўна не застаўся. Па адных звестках, ён скончыў жыццё самагубствам у турэмнай камеры, па іншых — памёр у ссылцы ад тыфу.

Барацьбу за «вольныя Саветы» працягнула паўстанцкае войска Нестара Махно. У яго шэрагах былі і анархісты з Беларусі. Былы цырульнік і анархіст-«безматыўнік» з Гародні Макс Чарадняк камандаваў у Махно брыгадай, адзін час быў начальнікам контрразведкі ў Бярдзянску. Чарадняк трапляў у палон да белых, быў катаваны, але здолеў збегчы. У 1930 годзе ён эміграваў з СССР. Гарадзенскі анархіст Бутавецкі ўвосень 1919 года быў палітычным кіраўніком Палтаўскай групы РПАУ. Адзін са стваральнікаў «чорнасцяжнага» напрамку ў анархізме Гросман-Рошчын, які наведваў у 1919 годзе штаб Махно, сустракаў там былых таварышаў па анархісцкім руху у Гродзенскай губерні.

***P.S.** Нядаўна ў Маскве тэксты Казіміра Кавалевіча былі выдадзеныя асобным зборнікам.*

# Зімовыя перапевы

**Па гарызанталі:** 1. Шлях, пераход. 5. ... Глыбоцкі. Адзін з псеўданімаў беларускага паэта, перакладчыка, аднаго з заснавальнікаў беларускага літаратурнага аб'яднання «Маладняк» Алеся Дудара (сапраўднае прозвішча Аляксандр Дайлідовіч); 24 снежня — 115 гадоў з дня яго нараджэння. 8. Спецыяліст па саветалогіі. 10. «Зіма. Мароз. Пагодны дзень. // А ... , як зорны шчыт, іскрыцца». З верша Алеся Салаўя «Каляды». 11. «Дык даставай схаваныя // І саначкі каваныя, // І лыжы, і ...». З верша Ніла Гілевіча «Зіма». 12. Добрыя ўчынкі, справы. 14. Тое, што і гатунак. 15. Спецыяльны галаўны ўбор. 18. Горы ў Заходняй Еўропе. 20. «Для зімы запрэжаны ў санкі // ... коней: снежань, студзень, люты». З верша Антона Анісовіча «Зіма». 22. Месца, дзе што-небудзь адкалолася. 24. Назва прыгодніцкага рамана калектыву аўтараў у складзе Алеся Дудара, Анатоля Вольнага і Андрэя Александровіча; Дудар і Вольны і былі расстраляныя сталінскімі катамі 29 кастрычніка 1937 года, а Александровіч быў сасланы ў Сібір. 25. «Закруціла ... // Белы снег у палёх». З верша «Завея» выдатнай беларускай паэткі Ларысы Геніюш, якая адпакутавала 8 гадоў у сталінскіх лагерах. 26. Пачатак ведаў, асновы чаго-небудзь.




**Па вертыкалі:** 1. «Пастушкі гулялі, // Каляду ігралі: // Бог нам аб'явіўся, // ... нарадзіўся». З верша Казіміра Сваяка «Песня пра Каляды». 2. Як тыдзень да Каляд — ... чэлядзі не рад (прыказка). 3. «Пасінеў на рэчках лёд, // ... ў ясных зорках: // Зноў прыйшоў к нам Новы год // З песнямі і ёлкай». З верша Міколы Чарняўскага «Новы год». 4. «Цыгнецца каняжка, // ... за канём». З верша Янкі Купалы «Зімовая ноч». 5. Тое, што і вохра. 7. ... Няхай; імя беларускага пісьменніка, якому 5 снежня споўнілася б 105 гадоў з дня нараджэння. 9. «... — не царам маскоўскім, // ... — не варшаўскім панам». З верша Алеся Дудара «Кастусь Каліноўскі». 13. ... або вяртэп. Беларускі народны лялечны тэатр, які даўней свае прадстаўленні ладзіў найчасцей на Каляды. 16. «Не смеем нават гаварыць // І думаць без крамлёўскай візы, // Без нас усё робяць ...». З верша Алеся Дудара «Пасеклі край наш». Паэт прадбачыў наша сёння. 17. «Дзед ... // Прыйшоў да нас // — Добры дзень! Якраз у час». З верша Рыгора Барадуліна «Кажух». 19. «І стала белым ... , // І лес па-над ракой». З верша Юрася Півунова «Сняжынкі-парашуты». 20. Сэрца весяліцца, і ... цвіце (прыказка). 21. «У белай пене праносяцца ...». З верша Максіма Багдановіча «Пагоня». 23. Дзе адзін працуе, там ... гаруе (прыказка).

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Расстраляная паэзія» (НЧ №40 ад 25 кастрычніка):**

**Па гарызанталі:** 1. Бунтар. 5. Стол. 7. «Жаданне». 9. Двор. 11. Лістапад. 14. Араты. 15. Янава. 16. Слова. 17. Вочап. 19. Арляняты. 22. Альт. 24. Бярозкі. 25. Душы. 26. Ураган.

**Па вертыкалі:** 1. Барада. 2. Аід. 3. Фарс. 4. Сноп. 6. Лірыка. 8. Маладосць. 10. Верашчака. 12. Дзятва. 13. Тырада. 16. Сцюард. 18. Платон. 20. Ліра. 21. Янка. 23. Вір.

# БагатаДата

**У гэтыя святочныя дні адзначаюцца круглыя даты і проста дні народзінаў шматлікіх таленавітых людзей. Якіх? Глядзіце ў нашым традыцыйным аглядзе.**

## 28 снежня

**Міжнародны дзень кіно.**

**1899.** У сяле Палуцціна Кастрамской вобласці Расіі нарадзіўся генерал арміі Міхаіл Малінін, удзельнік вызвалення Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. Вуліца яго імя ёсць у Мінску. Яго жонка Надзея Грэкава была старшынёй Вярхоўнага Савета БССР.

## 29 снежня

**1934.** У расійскім Барнауле нарадзіўся акцёр, народны артыст Беларусі і СССР Віктар Тарасаў. Апрача тэатральных роляў, здымаўся ў фільмах «Бацька», «Крушэнне імперыі», «Соф'я Пяроўская», «Дзяржаўная граніца», «Дэбют», «Кіроўца аўтобуса».

## 30 снежня

**1879.** У Гродне нарадзіўся спартовец-асілак Якаў Чахаўскі. Паставіў шэраг відовішчных рэкордаў. Напрыклад, перанёс на адной руцэ 6 чалавек (жаўнераў-грэнадзёраў у амуніцыі). А яшчэ ён падкідаў угару пудовыя гіры і лавіў на грудзі, трымаў на сабе сцэну з 30 музыкамі.

**1904.** У Маладзечне нарадзіўся яўрэйскі паэт Зэлік Аксельрод, брат мастака Меера Аксельрода. Перакладаў на ідыш беларускую і рускую класіку — ад Купалы да Пушкіна. Пратэставаў супраць закрыцця яўрэйскіх школ у СССР. Арыштаваны перад самым пачаткам вайны і расстраляны НКУС 26 чэрвеня 1941-га пры адступленні савецкіх войскаў з Мінска.

## 31 снежня

**1909.** У Варшаве нарадзіўся польска-беларускі кампазітар Юрый Бяльзацкі. У розныя гады працаваў дырыжорам Беларускага дзяржаўнага эстраднага аркестру, Тэатра музычнай камедыі, канцэртмайстрам Тэатра оперы і балета, кінастудыі «Беларусьфільм», мастацкім кіраўніком эстраднага аркестра Беларускага радыё і тэлебачання.

**1904.** У вёсцы Быстрыца Капыльскага раёна на Міншчыне нарадзіўся Іван Варвашэня, імем якога названа адна з мінскіх вуліц. Адзін з лідараў антыфашысцкага падполля і партызанскага руху ў Мінскай вобласці падчас Другой сусветнай вайны.

## 1 студзеня

**Сусветны дзень міру.**

**1920.** У мястэчку Турэц Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся палітычны і ваенны дзеяч Барыс Рагуля. У пачатку Другой сусветнай вайны ваяваў супраць фашыстаў складзе Войска Польскага, трапіў у палон і ўцёк у Заходнюю Беларусь, якая ўжо была далучана да СССР. Працаваў настаўнікам, пакуль не быў арыштаваны НКУС. У пачатку нямецкай акупацыі здолеў трапіць на волю, стаў камандзірам Беларускай самааховы ў Навагрудку, а затым акруговым начальнікам Беларускай краёвай абароны. Пасля вайны апынуўся ў амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, удзельнічаў у падрыхтоўцы беларускіх выведных і дыверсійных спецгрупаў, якія закідваліся ў БССР. У сярэдзіне 1950-х гадоў перабраўся ў Канаду, дзе стаў вядомым доктарам медыцыны, займайся лекаваннем раку. Напрыканцы 1980-х — у пачатку 1990-х гадоў браў удзел у праектах па дапамозе дзецям — ахвярам Чарнобыльскай катастрофы.

**1945.** У мястэчку Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці нарадзілася пісьменніца Вольга Іпатава. Працавала галоўным рэдактарам газеты «Культура», была старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў. Вядомая як празаік гістарычнага жанру. Творы: «Прадыслава», «Агонь у жылах крэменю», «Чорная княгіня», «За морам Хвалынскім», «Залатая жрыца Ашвіная», «Вяшчун Гедзіміна», «Альгердава дзіда».

**1955.** У вёсцы Рыжкавічы, цяпер гэта ў межах горада Шклоў на Магілёўшчыне, нарадзілася Галіна Лукашэнка, жонка Аляксандра Лукашэнкі. Пасля яго перамогі на выбарах–1994 яна так і не перабралася ў сталіцу і не стала, адпаведна, першай лэдзі. З кіраўніком Беларусі ў іх два сыны — Дзмітрый і Віктар.

## 2 студзеня

**Дзень навуковай фантастыкі.**

**1920.** Абраная для адзначэння Дня навуковай фантастыкі дата — не выпадковая. У гэты дзень на этнічных беларускіх землях у мястэчку Пятровічы, што цяпер у Смаленскай вобласці Расіі, нарадзіўся знакаміты амерыканскі пісьменнік Айзек Азімаў.

**1950.** У вёсцы Тумашы Ляхавіцкага раёна на Брэстчыне нарадзіўся Сямён Домаш, былы старшыня Гродзенскага гарвыканкаму і аблвыканкаму, дэпутат Вярхоўнага Савета. У 1996 годзе стаў адным з тых дэпутатаў, якія выступілі супраць рэферэндуму, ініцыяванага Лукашэнкам, і падпісалі заяву аб імпічменце. Быў зарэгістраваны кандыдатам у прэзідэнты на выбарах 2001 года, але зняў сваю кандыдатуру паводле дамоўленасцяў у шырокай апазіцыйнай кааліцыі на карысць старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзіміра Ганчарыка. Пасля адышоў ад грамадска-палітычнай дзейнасці і працаваў дырэктарам на шэрагу заводаў. Памёр у лютым мінулага года.

## 3 студзеня

**1905.** У вёсцы Цітва Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся паэт і перакладчык Уладзімір Хадыка. На адзін з яго вершаў — «Расцём і дужэем» — была напісана песня. Пераклаў на беларускую мову «На дне» Горкага і «Ціхі Дон» Шолахава. У 1936 годзе арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Загінуў на будоўлі чыгункі каля Улан-Удэ (Расія, Бурацыя).

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №2121

Падпісана да друку 27.12.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.